29 чэрвеня 2018 | № 24 (587)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

Новы час

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА • ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

**Хорст Зеехофер — новы канцлер ФРГ?**

стар. 20



# Як Беларусі ў ЕС увайсці

## Што меў на ўвазе Лукашэнка, калі казаў пра ўваход краіны ў склад іншай дзяржавы?



Сяргей ПУЛЬША

Заява Лукашэнкі падчас нарады ў Шклоўскім раёне пра тое, што «мы на фронце», і калі «не вытрымаем гэтыя гады, правалімся, — значыць, трэба будзе ці ў склад якойсьці дзяржавы ісці, ці аб нас проста будуць выціраць ногі, а не дай Бог — развяжуць яшчэ вайну», нарабіла шмат вэрхалу. Над значэннем гэтых словаў чухаюць патыліцы шматлікія аналітыкі і палітолагі. Але цікава, як Аляксандр Рыгоравіч прыйшоў да такой высновы.

Будзем шчырымі: для Лукашэнкі беларуская незалежнасць асаблівай каштоўнасці не ўяўляла ніколі. Яна заўсёды калі не была, то разглядалася ў якасці разменнай манеты. І ён бы гэтую манету папросту размяняў — калі б яму было прапанавана нешта большае.

Ён ужо спрабаваў гэта зрабіць, ствараючы з Расіяй Саюзную дзяржаву ў 1999-м. Відавочна, што тады Аляксандр Рыгоравіч, прасоўваючы той праект, разлічваў заняць вышэйшае кіроўнае крэсла ў Крамлі. У параўнанні з гэтым ні пра якую незалежнасць Беларусі размова не ішла.

У той час, калі Лукашэнка піў гарэлку і біў келіхі, жадаючы поспеху праекту Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі, я меў шчасце сустрэцца з вядомай дысідэнткай Валерыяй Навадворскай. І ўжо тады яна казала: «Вы яшчэ пабачыце, як Аляксандр Рыгоравіч будзе ў партызанах змагацца за незалежнасць Беларусі».

Словы разумнай жанчыны спраўдзіліся даволі хутка. Ужо ў 2001 годзе новы кіраўнік Расіі Уладзімір Пуцін сказаў: «Мухі асобна, катлеты асобна», і прапанаваў увайсці ў склад Расіі шасцю абласцямі. Для Лукашэнкі гэта азначала не тое што адсутнасць здабытку, але і страту таго, што ён ужо мае. Незалежнасць раптам ператварылася ў каштоўнасць, а Саюзная дзяржава — у нейкае дасюль незразумелае ўтварэнне: ці то дзяржава, ці то саюз дзвюх дзяржаў, а часам, пры розных харчовых і нафтагазавых канфліктах — увогуле ў суперніка.

Таму ёсць вялікае пытанне ў тым, што зараз змусіла беларускага кіраўніка выказацца пра пагрозу незалежнасці краіны.

Праўда, эксперты, якія абсмоктваюць словы Лукашэнкі, больш аптымістычныя. Агульная думка: беларусы за чвэрць стагоддзя незалежнасці ўжо прызвычаіліся жыць у сваёй дзяржаве — хутчэй, насуперак ініцыятывам правадыра, чым дзякуючы ім. А таму лёгка «ўвайсці ў склад іншай дзяржавы» не атрымаецца — найперш, будуць супраць самі беларусы. Да таго ж зазначаецца, што прамова Аляксандра Рыгоравіча прагучала 22 чэрвеня, у дзень пачатку Вялікай Айчыннай вайны. І такім мудрагелістым чынам Лукашэнка проста нагадаў вертыкальшчыкам пра сумную дату. Ну і, канешне, гэтая неадназначная заява магла быць напамінам пра афіцыйны «дзень незалежнасці», які сам беларускі правадыр перанёс на 3 ліпеня.

І, безумоўна, узнікла абмеркаванне, якую іншую дзяржаву Лукашэнка меў на ўвазе, куды нам, не дай Бог, прыйдзецца ісці.

Большасць каментатараў лічыць, што гэта Расія. Гэта менавіта тая краіна, якая можа і паглынуць Беларусь, і «развязаць вайну, як ва Украіне». Але, ведаючы Аляксандра Рыгоравіча, варыянтаў больш, чым адзін. Бо калі мы самі «ідзем у склад якойсьці дзяржавы», маючы на ўвазе нашага «старэйшага брата», навошта яму «развязваць вайну, як ва Украіне»?




Гэта можа здарыцца толькі ў тым выпадку, калі Лукашэнка пад «іншай дзяржавай» разумеў зусім не нашага асноўнага стратэгічнага партнёра. З'едлівыя людзі на форумах прапануюць у чарговы раз перанесці дзень незалежнасці — на 4 ліпеня, і на гэтай падставе далучыцца да ЗША. Такім чынам, мы станем эксклавам Злучаных Штатаў, з якімі наўрад ці хто асмеліцца ваяваць.

Але больш цікава было б далучыцца, скажам, да Літвы.

**Ёсць вялікае пытанне: што зараз змусіла беларускага кіраўніка выказацца пра пагрозу незалежнасці?**

Па-першае, мы ў такім выпадку аўтаматычна становімся сябрам ЕС, які такога фінту вушамі, зразумела, не чакае. Па-другое, гэтак жа аўтаматычна мы апынаемся ў складзе зоны еўра (у гэтым перавага Літвы перад, напрыклад, Польшчай). У выніку ЕС імгненна забывае пра міграцыйныя крызісы і пачынае дапамагаць Сінявокай прывесці яе эканоміку да еўразонаўскіх стандартаў — ўбухваць у яе шалёныя грошы, як калісьці ў Грэцыю. У сувязі са зніканнем краіны паўстане пытанне выплаты набраных ёю крэдытаў, але яно можа вырашацца дзесяцігоддзямі і скончыцца нічым, як гэта было з пазыкамі СССР.

Беларусы аўтаматычна атрымліваюць «бязвіз», паўнавартасны Балонскі працэс, NATO, Сусветную гандлёвую арганізацыю і безліч іншых цацак, з якімі будуць гуляцца доўга і зацята. У сваю чаргу, ЕС узгадвае словы Лукашэнкі пра тое, што аптымальнае насельніцтва Сінявокай — 30 мільёнаў чалавек. Еўрапейскае статыстычнае бюро Eurostat паведамляе, што за 2017 год ЕС прыняў каля паўмільёна ўцекачоў. Калі ўсіх іх накіроўваць у Беларусь, каб давесці лічбу насельніцтва да пажаданай беларускім кіраўніком, праблема мігрантаў вырашыцца на 40 гадоў мінімум. Усе ў плюсе.

Канешне, гэты праект фантастычны. Найперш, таму, што ў гэтым варыянце няма месца самому Аляксандру Лукашэнку. Таму ўсё ж застаецца пытанне, ці меў ён на ўвазе нешта канкрэтнае, кажучы пра пагрозу незалежнасці, альбо гэта было прамоўлена ў запале, як, часцей за ўсё, і бывае.

# Пенсійны ўзрост: новае павышэнне?

**Пасля ініцыятывы аб узняцці пенсійнага ўзросту ў Расіі пра такую магчымасць загаварылі ў беларускім парламенце.**

У прыватнасці, міністр працы Ірына Касцевіч, выступаючы ў Нацыянальным сходзе, пажартавала пра тое, што «60 гадоў для мужчыны — не ўзрост», чым выклікала апладысменты парламентарыяў.

Пры гэтым чыноўніца адзначыла, што ў беларускім Фондзе сацыяльнай абароны насельніцтва па-ранейшаму існуе дзірка — прыкладна ў 520 мільёнаў рублёў. На пытанне пра новае павышэнне пенсійнага ўзросту міністр адказала ўнікліва: «У пенсійнай рэформе мы пражылі



толькі паўтары гады. Расія казала пра гэта 10 гадоў — і толькі цяпер падышла. Давайце мы паглядзім, як у 2022 годзе пенсійная рэформа будзе ўплываць на балансаванне Фонду».

Ці трэба беларускай уладзе, натхніўшыся прыкладам расійскіх калегаў, ісці на новую рэформу пенсійнай сістэмы?

— Павышаць пенсійны ўзрост можна толькі пры адной умове, — сказаў у экспрэс-каментары «Салідарнасці» прафсаюзны лідар Генадзь Фядыніч. — Калі ўсіх чыноўнікаў без выключэння перавесці на адзіную сістэму прызначэння пенсіі са звычайнымі грамадзянамі. Тады вызваліцца вельмі вялікія грошы. Гэта значыць, калі дэпутатам пачнуць прызначаць пенсіі, зыходзячы з сярэдняга заробку на папярэднім месцы працы. Гэта ж грамадская дзейнасць, якая не павінна ўзнагароджвацца 800–900 рублямі пенсіі. Гэта ненатуральна і антынародна.

Суразмоўца дадаў, што гэта ж тычыцца некаторых супрацоўнікаў сістэмы Міністэрства ўнутраных спраў.

— Ёсць аператыўная работа — так, гэтыя хлопцы сапраўды працуюць і рызыкуюць кожны дзень. Але чым сёння адрозніваецца пашпартыстка ў мінскім МУС ад пашпартысткі ў ЖЭСе? Нічым. Яна робіць тую ж самую працу, але на пенсію сыходзіць раней, таму што мае пагоны на плячах. Трэба адэкватна падыйсці да рэвізіі прызначэння пенсій, — заўважыў Фядыніч.

Паводле звестак кіраўніка РЭП, сёння «ні міліцыя, ні вайскоўцы ў Фонд сацыяльнай абароны нічога не адлічваюць»:

— Але грошы ідуць з бюджэту на іх пенсіі. Можа быць, трэба падумаць, каб і яны адлічвалі гэтыя грошы, каб былі роўнымі сярод роўных. Чаму сёння ўвесь народ павінен плаціць чыноўнікам, дэпутатам, МУС і вайскоўцам?

Сёння народ кажа так: навошта я буду карачыцца на дзяржаву, адлічваць ім у Фонд сацыяльнай абароны, а потым мець пенсію ў 250–300 рублёў? Лепш я буду працаваць на сябе, сам адкладаць — і не трэба мне ніякая дзяржава. Такія размовы не адзінкавыя, а паўсюдна ідуць у Беларусі, — адзначыў суразмоўца «Салідарнасці».

**Пераклад НЧ**

# «Колер Беларусі»: чуць, бачыць, разумець

Ліза НЕЎМЯРЖЫЦКАЯ

**Імпрэза з нагоды перавыдання кнігі Міхала Анемпадыстава адбудзецца 12 ліпеня.**

«Колер Беларусі» стаў апошняй вялікай працай выбітнага дызайнера, мастака і паэта.

Кніга не толькі адкрывае новыя веды пра колеры, але і вучыць «думаць вачыма». «На маю думку, гэта ўсё можна чытаць невербальна. Проста разглядаць гэтыя карцінкі на ўзроўні пачуццяў і асацыяцый, упадабанняў. Ці, наадварот, штосьці можа не падабацца. Гэта цікавы і патрэбны занятак, якім мы рэдка займаемся. Мы развучыліся думаць вачыма...» — распавядаў Міхал Анемпадыстаў.

Увечары 12 ліпеня мы паспрабуем аб'яднаць словы, вобразы і музычныя імправізацыі, каб здолець убачыць, пачуць і зразумець сябе праз свет колераў, гісторыі і культуры.

У імпрэзе возьмуць удзел актор Раман Падаляка, музыка Зміцер Лук'янчык і арганізатар кампаніі па выданні кнігі Таццяна Вадалажская.

«Колер Беларусі» — захапляльнае падарожжа ў Беларусь праз гісторыю і сучаснасць колераў. Гэта адна з першых спробаў прадставіць беларускую мінуўшчыну і сучаснасць праз яе колеры і адценні, прыродныя структуры, народжаныя пад уздзеяннямі трох стыхій.

Кніга ўбачыла свет дзякуючы сродкам, сабраным праз краўдфандынгавую платформу Ulej.by. На імпрэзу запрашаюцца ўсе ўдзельнікі кампаніі, каб атрымаць свае асобнікі, а таксама тыя, хто хоча пазнаёміцца з кнігай і набыць яе.

**Калі: 12 ліпеня, 19.00**
**Дзе: Культ. цэнтр КОРПУС (пр. Машэрава, 9)**




# Абаронцы Курапатаў даслалі зварот у Генпракуратуру

**Зварот аб незаконнасці выдзялення зямлі пад будаўніцтва ў ахоўных зонах мемарыяла Курапаты дасланы намесніку генпракурора Аляксандру Лашыну.**

Прыводзім поўны тэкст звароту.

«З публікацыі ў інтэрнэт-газеце «Наша Ніва» ад 20.06.2018 пад назвай «Участак пад Курапатамі «навязалі» інвестарам? Не, яны перакупілі зямлю і свядома пашырылі тэрыторыю за кошт ахоўнай зоны» стала вядома, што ў першай палове 2012 года «БелРэстІнвест» асэнсавана павялічыў плошчу пад «Бульбаш-хол» (першасная назва аб'екта), прычым адразу на 40%. Для гэтага была падпісаная дадатковая дамова з Мінскім райвыканкамам. Важны момант: інвестар атрымаў дадатковыя 0,34 гектара, з якіх 0,31 гектара ўяўлялі сабой «ахоўную зону нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў». Гэта дакладная фармулёўка з падпісанай дамовы.

Раней ахоўныя зоны рэгуляванай забудовы з заходняга боку мемарыяла Курапаты выдзяляліся пад будаўніцтва нейкай ІП Лебедзевай І.С., што вынікае з Заключэнняў Мінкультуры ад 28.11.2005 і ад 01.08.2006, а ў 2010 годзе бізнесоўцы іх выкупілі пад будаўніцтва «Бульбаш-хола». З дакументаў нам стала вядома, што паміж ІП Лебедзевай І.С. і Мінкультуры былі ўзгоднены праект «Прыдарожны сэрвіс на 51 км МКАД» (№4-26), і Мінкультуры дало дазвол на будаўніцтва на землях, якія належаць да зонаў рэгуляванай забудовы мемарыяла Курапаты, згодна з Пастановай Мінкультуры №15 ад 12.05.2004 г. (зацверджанай у Нацыянальным рэестры прававых актаў Рэспублікі Беларусь толькі ў 2012 годзе). На пытанне грамадскасці, ці быў падобны праект узгоднены паміж Мінкультам і прадстаўнікамі «БелРэстІнвеста», ці атрымалі ад Мінкультуры дазвол на будаўніцтва рэстаранна-забаўляльнага комплексу побач з мемарыялам Курапаты, намеснікам міністра культуры Яцко А.А. на прыёме 13.06.2018 года быў дадзены адмоўны адказ.

Мы лічым выдзяленне земель ахоўных зон мемарыяла Курапаты пад будаўніцтва розных установаў, у тым ліку рэстаранна-забаўляльнага комплексу «Поедем поедим», незаконным.

Мы канстатуем, што, згодна ТКП 45-3.01-284-2014 «Горадабудаўніцтва. Горадабудаўнічы праект дэталёвага планавання. Склад і парадак распрацоўкі», праект дэталёвага планавання (ПДП), распрацоўваецца для забудаваных або падлягаючых забудове частак горада, і ён і толькі ён «з'яўляецца падставай для прыняцця рашэнняў аб выдзяленні зямельных участкаў, распрацоўкі горадабудаўнічых пашпартоў зямельных участкаў». Ёсць Генеральны план горада Мінска. На яго падставе распрацоўваюцца дэталёвыя планы раёнаў горада. Далей гэтыя планы ўзгадняюцца ў разнастайных інстанцыях, праходзяць экспертызу, потым у абавязковым парадку праходзяць грамадскія абмеркаванні, на якіх планы або зацвярджаюцца, або адпраўляюцца на дапрацоўку, і толькі пасля гэтага, на падставе зацверджанага ПДП, прымаюцца рашэнні аб прадастаўленні зямельных участкаў забудоўшчыкам і распрацоўцы праектаў асобных будынкаў.

Усё гэта было парушана ў перыяд 2003–2014 гадоў, бо ў гэты перыяд не існавала ніякага ПДП дадзенай тэрыторыі, і выдзяляць зямлю пад будаўніцтва папросту не мелі права.

Мы патрабуем:

— Спыніць працу рэстарана «Поедем поедим», як аб'екта, незаконна пабудаванага на тэрыторыі ахоўных зон (у тым ліку зоны рэгуляванай пабудовы) мемарыяла Курапаты, знаходжанне якога ў непасрэднай блізкасці да месца гібелі ахвяраў палітычных рэпрэсій супярэчыць здароваму сэнсу, чалавечай маралі, з'яўляецца актам вандалізму, здзекам з памяці беларускага народа.

— Ануляваць усе дазволы на выдзяленне зямельных участкаў і будаўніцтва побач з мемарыялам Курапаты (заходні боку мемарыяла) як незаконныя.

— Неадкладна правесці праверку дзеянняў усіх асобаў, якія маюць дачыненне да выдзялення зямлі пад будаўніцтва ў непасрэднай блізкасці да мемарыяла Курапаты (заходні бок), просім вінаватых у гэтым злачынстве прыцягнуць да адказнасці.

— Ануляваць распрацоўку ПДП ад УП «Мінскграда», вынесеную на грамадскае абмеркаванне 15.04.2014, бо распрацаваны Дэталёвы праект фактычна легітымізаваў на тэрыторыі зон аховы мемарыяла Курапаты аб'екты, пабудаваныя незаконна.

— Ануляваць усе рашэнні грамадскага абмеркавання ад 15.04.2014, праведзенага з парушэннямі заканадаўства, аб чым генеральнаму пракурору былі накіраваны шматлікія звароты ад грамадзян Рэспублікі Беларусь, у тым ліку і зварот ад ініцыятывы «За ўратаванне мемарыяла Курапаты» ад 22.04.2014 (копія прыкладаецца).

— Вынесці незаконна пабудаваныя аб'екты з земель ахоўных зон (з зоны аховы, з зоны рэгуляванай пабудовы), у тым ліку рэстаранна-забаўляльны комплекс пад назвай «Поедем поедим» (былая назва «Бульбаш-хол»).

27.06.2018.

***Зварот падпісалі Павел Севярынец, Ганна Шапуцька, Вячаслаў Сіўчык, Максім Вянярскі, Эдуард Пальчыс, Зміцер Дашкевіч, Наталля Басалыга і іншыя.***

**Працяг тэмы на стар. 4–5**

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Вандроўнікі ў часе

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Ці магчыма вандраваць у часе? Фізікі б'юцца над гэтай праблемай, якую ім паставілі фантасты. Але ў нашай краіне ўсё ўжо вырашана. Час можна сціснуць, а можна і расцягнуць. Памятаеце стары савецкі лозунг: «Пяцігодку — у чатыры гады!». Вось вам і сцісканне часу.**

Днямі Аляксандр Лукашэнка вырашыў і праблему расцягнення часу. Ён падпісаў указ, згодна з якім Год малой радзімы, абвешчаны сёлета, працягнецца аж да 2020 года. Яшчэ ў красавіку, каментуючы Год малой радзімы, кіраўнік Беларусі казаў: «За год мы наўрад ці нешта там пабудуем, створым. Адразу людзей не павернеш. Яны спачатку павінны прывыкнуць, усвядоміць, намеціць сабе нейкія планы, а дзесьці камусьці трэба і грошы зарабіць, каб у сваю малую радзіму ўкласціся». Адпаведна, праблема расцягнення часу была ўсвядомлена яшчэ тады.

І вось — падаўжэнне аднаго года да трох. Зразумела, як афіцыйна паведамляецца, дакумент прыняты ў мэтах стымулявання сацыяльна-эканамічнага развіцця рэгіёнаў.

Амаль адначасова беларускі лідар у чарговы раз заявіў, што не выключае продажу сельгаспрадпрыемстваў прыватнікам «на жалезных умовах»: «Я не прыхільнік, каб прыватызаваць калгасы і саўгасы. Але, думаю, на мяне сяляне не пакрыўдзяцца, калі я буду кропкава прымаць рашэнні пра прыватызацыю».

Ці трэба гэта разумець так, што тыя, хто «заробіць грошы, каб у малую радзіму ўкласціся», будзе мець магчымасць набыць стратны калгас ці саўгас іператварыць яго ў квітнеючае прадпрыемства? Некаторыя каментатары нават пачалі казаць пра грунтоўны паварот у светаўспрыманні кіраўніка дзяржавы. Як жа — ён дазволіў прыватызацыю!

Насамрэч, нічога падобнага не адбываецца. Па-першае, Аляксандр Рыгоравіч пра прыватызацыю сельгаспрадпрыемстваў казаў неаднаразова. Была нават ідэя прадаваць стратныя калгасы за 1 рубель, прычым, недэнамінаваны. Але ніхто іх нават за такую суму не набываў. Бо набыццё такога «актыву» можа не ўзбагаціць, а прымусіць зглегць: стратныя калгасы, як правіла, закрэдытаваныя. А набываць за рубель мільённыя крэдыты — каму трэба?

Па-другое, што атрымлівае пакупнік за свае грошы, апроч праблемаў? Ды ён не атрымлівае нічога. Таму што прыватнай уласнасці на зямлю ў Беларусі няма. Фактычна, той, хто разлічвае ўкласціся ў калгасы, набывае развaленыя будынкі, зламаную тэхніку, а асноўны сродак вытворчасці — зямля, — яму не належыць. І хто пойдзе на такія ўмовы?

Але галоўнае ў прамове кіраўніка дзяржавы — гэта слова «кропкава». Дзе Лукашэнка паставіць кропку — ніхто не ведае. А таму прадпрымальнікі і бізнесмены, якія, па ідэі, павінны ўкладацца ў малую радзіму ў межах трохгадовага года, з насцярогай ставяцца да ініцыятывы.

Бо, дапусцім, зробіш нешта для малой радзімы — пабудуеш дарогу, пракладзеш камунікацыі ці гандаль пачнеш развіваць, — а тут прыйдзе Аляксандр Рыгоравіч, паставіць кропку, і ўсе твае намаганні перададуць каму-небудзь іншаму. А бізнес так не рызыкуе.

Тым больш, што і без гэтага рызыкаў хапае. Рэальныя наяўныя грашовыя даходы жыхароў Беларусі, паводле дадзеных Нацыянальнага статыстычнага камітэта краіны, у студзені — красавіку 2018 года выраслі ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года на 7,4%. У студзені — сакавіку рост складаў 7,7%.

**Лукашэнка пра прыватызацыю сельскай гаспадаркі казаў неаднаразова. Была нават ідэя прадаваць стратныя калгасы за 1 рубель, прычым, недэнамінаваны. Але ніхто іх нават за такую суму не набываў. Бо набыццё такога «актыву» можа не ўзбагаціць, а прымусіць зглегць: стратныя калгасы, як правіла, закрэдытаваныя**

Можна было б парадавацца за тое, што растуць у нас не толькі кошты на тавары і паслугі. Але, як заўсёды, ёсць некалькі «але». Найперш, гэта лічбы Белстату, да якіх мы небеспадстаўна ставімся даволі скептычна. Другі момант — рост даходаў чамусьці мала адбіваецца на самаадчуванні беларусаў. Ну і трэці — гэта тое, пра што неаднаразова казаў той жа Аляксандр Рыгоравіч. Рост даходаў насельніцтва магчымы толькі пры парытэтным (а тое і апераджальным) росце прадукцыйнасці працы.

Згодна з тымі ж афіцыйнымі дадзенымі, рост прадукцыйнасці працы ў 2017 годзе быў зафіксаваны на ўзроўні ўсяго 3,6%. Па выніках першых месяцаў 2018 года афіцыйна рост прадукцыйнасці працы склаў 5,9% адносна пачатку 2017 года. Такім чынам, апераджальнымі тэмпамі пакуль растуць даходы. А гэта ў выніку можа разагнаць інфляцыю.

Апроч таго, непакоіць сітуацыя ў нашага найбліжэйшага і найбуйнейшага гандлёва-эканамічнага партнёра — Расіі. Галоўная навіна апошніх дзён з «усходняга фронту» — тое, што расійскі ўрад прыняў рашэнне пра завяршэнне так званага «падатковага манеўру» цягам бліжэйшых гадоў. Сутнасць «манеўру» ў тым, што Расія ўвядзе асобны падатак на здабычу карысных выкапняў і адмовіцца ад экспартнай пошліны на нафту. Згодна з пагадненнямі пра ЕАЭС і Мытны саюз, гэтая экспартная пошліна тых нафтапрадуктаў, што ідуць праз Беларусь, асядае ў беларускім жа бюджэце. Такім чынам, агульны аб'ём стратаў бюджэту Сіняўскай можа перавысіць 2 мільярды долараў, што складае каля 20% даходаў рэспубліканскага бюджэту ва ўмовах 2018 года.

Прычым, гэта не толькі страта бюджэту — гэта страта валютных паступленняў у краіну. Страта валютных паступленняў у такім аб'ёме можа адбіцца на выплатах па знешніх пазыках, якія і так неймаверна высокія. А па-другое — прывядзе да дэфіцыту валюты ў краіне.

Што азначае дэфіцыт валюты, мы адчувалі на сабе і сваіх кішэнях не раз. Гэта азначае сур'ёзнае падзенне курсу беларускага рубля, то бок маштабную дэвальвацыю.

Цікава і тое, што дагэтуль Нацбанк і ўрад вытрывалі некалькі «штармоў» у сваёй зоне адказнасці. Прынамсі, падзенне расійскага рубля ў красавіку гэтага года да 64 рублёў за долар ніяк не адбілася на курсе рубля беларускага — хаця павінна было адбіцца: усё ж Расія застаецца асноўным экспарцёрам нашых тавараў. І мы вельмі адчувальныя да пертурбацыяў у суседняй краіне. Якімі высілкамі была дасягнутая стабільнасць беларускіх грошай — нам не кажуць, але, верагодна, не малымі.

Самае займальнае ў тым, што рэалізацыя гэтага «алармісцкага сцэнару» прагназуецца на 2019–2020 гады. Прынамсі, у 2019 годзе будуць спыненыя пераліччэння з расійскага бюджэту, якія ажыццяўляюцца ў рамках дамоўленасці РБ і РФ у нафтагазавай сферы, заключаных у 2017 годзе.

А гэта, між іншым, гады парламенцкіх і прэзідэнцкіх выбараў у Беларусі.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ



## Анатоль Лябедзька

**Нягледзячы на неаднаразовыя заявы пра сыход з пасады кіраўніка, старшыня АГП зноў у спісе прэтэндэнтаў.**

Пра гэта стала вядома напярэдадні партыйных тэледэбатаў кандыдатаў на пасаду старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі, якія прайшлі 28 чэрвеня. Нечакана сярод удзельнікаў гэтых дэбатаў — Васіль Палякоў, Ганна Канапацкая, Мікалай Казлоў — і быў заўважаны спадар Лябедзька. Раней ён неаднаразова казаў, што пакіне гэтую пасаду.

Тэледэбаты кандыдатаў на пасаду старшыні АГП — гэта першы вопыт, калі праз публічную дыскусію, даступную мільёнам людзей, палітыкі прэзентуюць сябе: свае каманды, свае праграмы. Нічога падобнага ў партыйным жыцці Беларусі яшчэ не было.

Журналісты датэлефанаваліся да лідара АГП, які на той час прымаў удзел у працы Парламенцкай Асамблеі «Еўранэст». У палітыка запыталіся, ці азначае яго ўдзел у дэбатах тое, што Анатоль Лябедзька — у спісе кандыдатаў на пасаду старшыні АГП? Палітык быў кароткі: «Я ў гульні. Я — у спісе кандыдатаў. Усё астатняе — 8 ліпеня (дата правядзення з'езда АГП. — рэд.)».

Нагадаем, што Лябедзька з'яўляецца лідарам АГП з 2000 года — то бок, 18 гадоў запар.



## Ігар Шуневіч

**Беларускі міністр унутраных спраў нечакана стаў зоркай амерыканскіх гей-прайдаў.**

Усё пачалося ў 17 траўня, у Міжнародны дзень барацьбы з гамафобіяй. Пасольства Вялікабрытаніі ў Мінску вырашыла адзначыць гэты дзень, павесіўшы вясёлкавы сцяг. Гэта выклікала адпаведную рэакцыю беларускай міліцыі. Паколькі будынак мае дыпламатычную недатыкальнасць, СУС РБ распаўсюдзіла заяву, дзе назвала аднаполыя стасункі «падробкай», і напрыканцы зазначыла: «Мы — за сапраўднае, яны не пройдуць».

Рэакцыя ЛГБТ-супольнасці не прымусіла сябе чакаць. Актывісты ў Мінску фатаграфаваліся з плакатамі кшталту «Самі вы падробка!». Неўзабаве пра заяву беларускага МУС даведаліся за мяжой — і панеслася.

Першы раз беларускага міністра згадалі на гей-прайдзе ў амерыканскім Луісвілі некалькі тыдняў таму. Там прыхільнікі ЛГБТ-руху прайшліся з фотаздымкамі Шуневіча і намаляваным на ягонай шчацэ пацалункам. А на гэтым тыдні Шуневіч стаў героем гей-прайду ў Таронта: выявы Шуневіча з'явіліся з нафарбаванымі павекамі, вуснамі і напамаджанымі шчокамі.

Не выключана, што беларускі міністр стане сімвалам ЛГБТ-руху і на іншых гей-прайдах.



## Дар'я Домрачава

**Адна з самых знакамітых беларускіх біятланістак абвясціла пра завяршэнне спартыўнай кар'еры.**

Нагадаем, пасля завяршэння алімпійскага сезона Домрачава абвяшчала вызначыцца з пытаннем наконт працягу сваёй кар'еры яшчэ да пачатку траўня, але аж да трэцяй дэкады чэрвеня ніякіх заяваў з гэтай нагоды не рабіла. Тэрмін кантракту спартсменкі са зборнай Беларусі скончыўся 30 чэрвеня.

31-гадовая Домрачава — двухразовая чэмпіёнка свету (2012 і 2013), уладальніца Кубка свету 2014/15, уладальніца 5 малых Крышталёвых глобусаў Кубка свету па біятлоне, заслужаны майстар спорту Беларусі. Яна — самая тытулаваная беларуская спартсменка ў гісторыі зімовых Алімпійскіх гульняў, а таксама першая ў свеце біятланістка — чатырохразовая алімпійская чэмпіёнка, якая атрымала тры перамогі ў асабістых гонках (Сочы–2014) і адну ў эстафеце (Пхенчхан–2018.).

У дзень заваёвы трэцяга залатога медаля на гульнях 2014 года Дар'і было нададзена званне «Герой Беларусі», яна стала першай у гісторыі краіны жанчынай, ганараванай вышэйшай узнагародай.

У красавіку 2016 года стала вядома, што Домрачава чакае дзіця ад нарвежскага біятланіста Уле-Эйнара Б'ёрндалена. У ліпені 2016 года яны ажаніліся, а ў кастрычніку таго ж года ў Мінску ў іх нарадзілася дачка Ксенія.

У выніку рашэння Домрачавай, падаецца, Беларусь засталася без жаночага біятлону. Дынара Алімбекава з-за траўмы пляча можа прапусціць да паўгода. Надзея Пісарава, Надзея Скардзіна і Дар'я Юркевіч ужо абвясцілі пра завяршэнне сваіх выступаў.

# Хто і як дазволіў будаваць

Дзяніс ІВАШЫН

**Публікуем новае расследаванне, заснаванае на вывучэнні дакументацыі дзяржаўных установаў і ведамстваў. Паперы дэманструюць, якім чынам здзяйсняліся спробы надаць легітымны статус будоўлі ў ахоўнай зоне нацыянальнага мемарыялу «Курапаты».**

Скандальны рэстаран на Заходняй мяжы Курапатаў



Фота Алены Ляшкевіч




Цікава, што адзін з чальцоў навукова-метадычнага органу, які ўхваліў і ўзгадніў першую стадыю будаўніцтва аб'екту яшчэ ў 2005 годзе, на базе якога быў узведзены забаўляльны комплекс «Паедзем паядзім», меў наўпраставае дачыненне да кампаніі ТАА «ІВ» Аркадзя Ізраілевіча.

У папярэднім расследаванні паказана, што кампанія ТАА «ІВ» буйнога мінскага дэвелапера Аркадзя Ізраілевіча меркавана праз шэраг афіляваных кампаніяў наўпрост звязаная з забудоўнікам СТАА «БелРэстІнвест», які пабудаваў у ахоўнай зоне Курапатаў забаўляльна-рэстарацыйны комплекс «Бульбашъ-холл», перайменаваны потым на «Паедзем паядзім». Дадатковым доказам сувязі гэтых двух кампаніяў з'яўляецца тое, што кіраўніком ТАА «КварталМЗС-Буд» — аднаго з меркаваных актываў кампаніі «ІВ» — з'яўляецца Вольга Логвін, якая ўжо на працягу амаль 10 гадоў адначасова займаецца дакументазваротам у «БелРэстІнвест», практычна з самага пачатку яе заснавання..

Адным з ключавых дзяржаўных ведамстваў, якое згуляла падставовую ролю ў санкцыянаванні будаўніцтва гэтага скандальнага комплексу, з'яўляецца Беларуская рэспубліканская навукова-метадычная рада па пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны пры Міністэрстве культуры Рэспублікі Беларусь (далей — Навукова-метадычная рада). Характэрна, што яе колькасны і персанальны склад зацвярджаюць на вышэйшым дзяржаўным узроўні — яго ўхваляе Савет міністраў Рэспублікі Беларусь паводле прадстаўлення міністра культуры.

Найбольшую нашу ўвагу прыцягнуў колішні чалец Навукова-метадычнай рады — Мартынаў Аляксей Ігаравіч, 1957 года нараджэння, родам з Каўнасу, жыве ў Мінску. Зараз ён з'яўляецца галоўным мастаком — намеснікам дырэктара КВУП «Мінскрэклама». Адна з першых згадак пра яго, што маецца ў адкрытым доступе, датаваная 2000 годам. На той час ён быў намеснікам старшыні Камітэта архітэктуры, горадабудаўніцтва і землеўпарадкавання Мінгарвыканкаму. У 2002 годзе Аляксей Мартынаў фігуруе ў якасці начальніка ўпраўлення добраўпарадкавання і гарадскога дызайну гэтага камітэта. У 2003 годзе ён згадваецца ўжо як галоўны мастак Мінска, уваходзіць у склад рэспубліканскай мастацкай экспертнай рады па манументальным мастацтве. У гэтым жа годзе ён згадваецца і як чалец Навукова-метадычнай рады. Гэта дакументальна пацвярджаецца ўхваленым пратаколам пасяджэння гэтай рады ад 20.05.2003 года №85, падчас якога былі разгледжаныя і ўзгодненыя межы аховы помніку гісторыі «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў «Курапаты», а таксама задэкляраваная неабходнасць прапрацоўкі накірункаў засваення прылеглых да мемарыялу тэрыторыяў. Гэты факт вельмі важны для разумення і асэнсавання сённяшніх падзеяў.

Зараз самае цікавае. У пратаколе ад 20.12.2005 года №115 пазначана, што чальцы Навукова-метадычнай рады ўхвалілі эскізны праект па аб'екту. Цытуем: «Аб'ёмна-прасторавае рашэнне прыдарожнага сэрвісу на 51 км МКАД, з улікам адпаведнасці падрыхтаванай дакументацыі рэжыму ўтрымання зоны рэгуляванай забудовы, вызначанай у складзе схемы зонаў аховы матэрыяльнай нерухомай гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі «Месца згубы ахвяраў палітычных рэпрэсіяў 30–40 гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты». Апроч гэтага Навукова-метадычная рада прапанавала Міністэрству культуры ўзгадніць гэты праект для далейшай рэалізацыі. Адным з чальцоў Рады, які прагаласаваў за ўхваленне гэтых рашэнняў, з'яўляецца Аляксей Мартынаў, пазначаны ў пратаколе (увага!) у якасці галоўнага архітэктара ТАА «ІВ» — кампаніі Аркадзя Ізраілевіча.

Станам на 2007 год Аляксей Мартынаў ачольваў упраўленне архітэктуры і арганізацыі праектных працаў Камітэта архітэктуры і горадабудаўніцтва Мінгарвыканкаму, а ў 2010 годзе ў матэрыялах СМІ ён фігуруе ўжо ў якасці першага намесніка старшыні гэтага камітэта. 29 верасня 2011 года кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка публічна выступіў з крытыкай працы сталічных уладаў — нагодаю сталася «цяганіна і бюракратызм у працы з інвестарамі». На наступны дзень, 30 верасня 2011 года, сваіх пасадаў былі пазбаўленыя старшыня архітэктуры пазначанага вышэй камітэту Віктар Нікіцін і ягоны першы намеснік — Аляксей Мартынаў.

Старшыня Беларускага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Антон Астаповіч тады зазначыў: «Асноўнай матывацыяй, калі Нікіціна і Мартынава фактычна выгналі з працы, было тое, што яны ставілі бюракратычныя рагаткі

# Іна Лебедзева: «На той момант гэта

**Мы звязаліся з Інай Лебедзевай, першым забудоўнікам аб'екту прыдарожнага сэрвісу, які ператварыўся ў забаўляльна-рэстарацыйны комплекс «Паедзем паядзім» ля нацыянальнага мемарыялу «Курапаты». На сувязь з ёй мы выходзілі некалькі разоў. Калі мы дамаўляліся пра інтэрв'ю, Лебедзева папрасіла звяртацца да яе на рускай мове з прычыны кепскага разумення беларускай. Таму мы вырашылі не перакладаць гэта інтэрв'ю, каб пазбегнуць абвінавачванняў у недакладнай перадачы словаў суразмоўцы.**

***— Инна Сергеевна, я хотел уточнить ряд моментов по началу строительства объекта придорожного сервиса на 51-м км МКАД. Насколько мне известно, вы имели непосредственное отношение к этому объекту. Каким образом началось данное строительство в 2007 году? Были ли получены все разрешительные документы?***

— По поводу разрешительных документов: у меня была проведена президентская проверка, и по документам все было сделано правильно. После президентской проверки, надеюсь, ни у кого не возникает вопросов по поводу оформления, законности и так далее, правда? Или у вас возникает?

***— Вы могли бы назвать генподрядчика? Кто непосредственно осуществлял строительство?***

— Зачем? Смысл в чем? Зачем вы будете беспокоить моих подрядчиков? Вы спрашивайте у меня. Дальше, пожалуйста.

***— Значит, не можете ответить?***

— Нет, я просто не хочу. Зачем? В строительстве тоже не было никаких нарушений, потому что за этим наблюдал технадзор. Обратитесь в исполнительные органы, которые вели надзор за объектом.

***— Вы можете объяснить выбор самого места расположения вашего объекта? Почему вы решили построить объект именно возле Куропат?***

— Нет, не возле Куропат, а возле заправки. И это совершенно нормальное, очень правильное расположение: заправка, человек заехал, заправился, покушал, поехал дальше. А не возле Куропат.

***— Вы были в курсе событий вокруг Куропат, связанных с обороной, про то, как молодежные активисты становились на защиту мемориала во время расширения МКАД?***

— Я знаю, что рядом находятся Куропаты.

***— Я к тому, что данное вложение было достаточно рискованным...***

— Вы знаете, я бы сказала, что это европейский подход, когда рядом с заправкой строится кафе. Просто уже потом это все перевернули, может быть еще какие-то нарушения были, я не знаю. Но сам подход совершенно нормальный, и я не вижу в этом ничего плохого, сделать что-то хорошее для людей — это абсолютно нормально, посадить дерево, построить дом, сделать людей более счастливыми, что в этом плохого? Никто не собирался устраивать, как сейчас пишут, «праздники на костях».



**Іна Лебедзева:**

**«Может быть еще какие-то нарушения были, я не знаю. Но сам подход совершенно нормальный»**

***— Знали ли вы на тот момент, что строительство велось в охранной зоне?***

— На тот момент это не было охранной зоной, может быть потом они расширили свои территориальные возможности, там было пустое пространство. На тот момент это не было охранной зоной, все было согласовано Министерством культуры, все было подписано. Это все можно проверить, это не так трудно. Было несколько заседаний по этому поводу, проект согласовывался. Никто не нашёл в этом ничего плохого.

***— Я изучал документацию и выданное вам заключение Министерства культуры по поводу эскизного решения от 28.11.2005 г. № 01-05/587, одним из требований которого было исключение из проекта восточной части объекта с насыпным валом и зелеными насаждениями, которая уже находилась непосредственно в охранной зоне. Насколько я понимаю, вы были осведомлены об этом?***

— Охранная зона была, но строился объект не в охранной зоне, а в 30 метрах от охранной зоны. (*Насамрэч, паводле пастановы Мінкульта ад 12.05.2004 г. №15, заходняя мяжа гэтай зоны на адлегласці 120 м паўтарала мяжу мемарыялу, — то бок у яе патрапляла значная частка будоўлі. Зона рэгуляванай забудовы ішла далей ад гэтай лініі на захад*

# у Курапатах?



БЕЛАРУСКАЯ РЭСПУБЛІКАНСКАЯ НАВУКОВА-МЕТАДЫЧНАЯ РАДА ПА ПЫТАННЯХ ГІСТОРЫКА-КУЛЬТУРНАЙ СПАДЧЫНЫ ПРЫ МІНІСТЭРСТВЕ КУЛЬТУРЫ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**ПРАТАКОЛ № 115**

20. 12. 2005 г. г. Мінск

Прысутнічалі:

| | |
|---|---|
| В.Я. Абламскі | старшыня Навукова-метадычнай рады (НМР), начальнік упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь |
| І.М. Чарняўскі | намеснік старшыні НМР, намеснік начальніка упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры |
| В.Ф. Міхайлава | вучоны сакратар НМР, намеснік начальніка аддзела упраўлення па ахове гісторыка-культурнай спадчыны і рэстаўрацыі Міністэрства культуры |
| А.І. Лакотка | дырэктар інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору НАН Беларусі, доктар архітэктуры, доктар гістарычных навук, прафесар, Член-карэспандэнт НАН Беларусі |
| А.І.Мартынаў | галоўны архітэктар ТАА "ИВ" |
| Н.Ф.Высоцкая | загадчык аддзела старажытна–беларускага мастацтва Нацыянальнага мастацкага музея РБ, доктар мастацтвазнаўства, прафесар |
| В.С. Вяргей | старшы навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі НАН Беларусі, старшыня Палявога камітэта |
| Т.Б.Варфаламеева | старшы навуковы супрацоўнік Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К.Крапівы НАН Беларусі, кандыдат мастацтвазнаўства |



5

культурнай і прыроднай спадчыны аб'ектаў і ўстаноўленых вакол іх буферных зон.

3). Ухваліць прадстаўленае праектнае рашэнне для далейшага праектавання з улікам:

3.1 магчымасці выкарыстання варыянта з транзітам праз двараву́ю тэрыторыю або арганізацыі замкнёнага контура квартала, кіруючыся:

3.1.1 найбольш дасвернай перадачай яго характару на фотафіксацыі горада 30-х гадоў 20 стагоддзя;

3.1.2. выяўлення і збераджэння ў структуры забудовы квартала адметных па свайму гістарычнаму функцыянальнаму і вобразнаму характуру будынкаў.

4) Рабочы праект прадставіць на узгадненне ў Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь.

Прагаласавалі: "за" – 7; "ўстрымаўся" – 1.

**2. Разгляд і абмеркаванне эскізнага праекта па аб'екту "Аб'ёмна – прасторавае рашэнне прыдарожнага сэрвіса на 51 км МКАД"**

Выступілі: А.Г.Шчапіла, І.С.Лебедзева, М.Т.Кляшторная, А.І.Мартынаў, В.Я.Абламскі, І.М.Чарняўскі, В.Ф.Міхайлава, Т.Б.Варфаламеева, В.С.Вяргей

Разгледзеўшы эскізны праект па аб'екту "Аб'ёмна прасторавае рашэнне прыдарожнага сэрвіса на 51 км МКАД" члены НМР ВЫРАШЫЛІ:

1) Ухваліць эскізны праект па аб'екту "Аб'ёмна прасторавае рашэнне прыдарожнага сэрвіса на 51 км МКАД", з улікам адпаведнасці падрыхтаванай дакументацыі рэжыму утрымання зоны рэгулюемай забудовы, вызначанай у складзе схемы зон аховы матэрыяльнай нерухомай гісторыка-культурнай каштоўнасці першай катэгорыі "Месца згубы ахвяр палітычных рэпрэсій 30-40 гадоў XX стагоддзя ва ўрочышчы Курапаты", якая зацверджана пастановай Міністэрства культуры Рэспублікі Беларусь ад 12 мая 2004г. № 15 і заключэння Міністэрства культуры ад 28 лістапада 2005 года № 01-05/587.

2) Прапанаваць Міністэрству культуры узгадніць разглядаемы праект для далейшай рэалізацыі.

Прагаласавалі: "за" – 8; "супраць" – 0.

інвестарам. Шчыра кажучы, гэтых асобаў даўным-даўно трэба было гнаць паганай мятлой са сваіх пасадаў, але ж я лічу наадварот: якраз іх галоўная віна ў тым, што яны давалі зялёнае святло ў гістарычным цэнтры. Менавіта ў бытнасць Нікіціна ўсе гэтыя незаконныя «касякі» прымаліся ў Камітэце архітэктуры, затым, карыстаючыся тым, што ён досыць уплывовая асоба, ды яшчэ ўваходзіў у склад Навукова-метадычнай рады ў пытаннях гісторыка-культурнай спадчыны, усё гэта праціскалася праз Міністэрства культуры».

З улікам пералічаных ключавых фактаў паспрабуем зараз аднавіць усю схему, выкарыстаную дзеля пабудовы забаўляльна-рэстарацыйнага комплексу ў ахоўнай зоне мемарыялу «Курапаты». Карупцыйная гэта схема ці не, павінны вызначыць кампетэнтныя дзяржаўныя органы Беларусі.

Замоўцам эскізнага праекту і першым забудоўнікам з'яўляецца ІП Лебедзева Іна Сяргееўна. На думку аўтара гэтага расследавання, Лебедзева ў гэтай схеме, цалкам мажліва, з'яўляецца асобаю, выкарыстанай толькі дзеля атрымання дазволаў і ўзгадненняў для пачатку будаўніцтва забаўляльна-рэстарацыйнага комплексу ў ахоўнай зоне мемарыялу.

Эскізны праект ухваляе Навукова-метадычная рада, у складзе якой знаходзіцца Аляксей Мартынаў — падначаленая асоба Аркадзя Ізраілевіча, — і 01.08.2006 года гэты праект узгадняе Міністэрства культуры. 15 лістапада 2007 года Мінскі райвыканкам ухваляе з ІП Лебедзевай дамову арэнды №248 на выкарыстанне плошчы тэрыторыі прыблізна 0,84 га. У 2008 годзе пракладаюцца камунікацыі, здзяйсняюцца будаўнічыя працы, што добра відаць на спадарожнікавым здымку сэрвісу Google Earth.

У 2009 годзе на авансцэну выходзіць кампанія СТАА «БелРэстІнвест», якая, цалкам мажліва, створана адмыслова для рэалізацыі праекту пабудовы забаўляльнага цэнтру «Бульбашъ-холл». Характэрна, што гэтую кампанію Мінскі гарвыканкам рэгіструе 02.09.2009 года, а ўжо 28.12.2009 года, літаральна праз пару месяцаў, яна ўкладае з ІП Лебедзевай І.С. дамову куплі-продажу. Паводле акту прыёму-перадачы маёмасці ад 29.01.2010 года, незавершаная будоўля канчаткова пераходзіць да «БелРэстІнвесту». Кампанія падае ў тэрытарыяльныя органы архітэктуры і будаўніцтва, а таксама ў ДРУП «Дзяржбудэкспертыза па Мінскай вобласці» ўхваленае заключэнне па эскізнаму праекту, выдадзенае Навукова-метадычнай радай ІП Лебедзевай, аднак працягвае будаўніцтва паводле ЗУСІМ ІНШАГА архітэктурнага праекту. Адбываецца гэта без неабходнага ўзгаднення архітэктурнага і эскізнага праектаў камітэтам архітэктуры і будаўніцтва Мінаблвыканкама, а таксама без якога-колькек ухвалення праектнай дакументацыі Мінкультам.

Нягледзячы на гэтыя грубейшыя парушэнні, Мінскі райвыканкам паводле рашэння з 16.11.2010 года дазваляе СТАА «БелРэстІнвест» праводзіць паралельнае праектаванне і будаўніцтва. 16.04.2012 года Мінскі райвыканкам паводле рашэння Мінскага аблвыканкама ад 26.12.2011 №1821 падпісвае з «БелРэстІнвест» дамову арэнды №646 на дадатковую тэрыторыю — 0,3379 га, з якіх 0,3139, як пазначана ў дамове, — ахоўная зона нерухомых матэрыяльных гісторыка-культурных каштоўнасцяў. На незаконнае і самавольнае будаўніцтва забаўляльнага цэнтру, значная частка якога знаходзіцца наўпрост у ахоўнай зоне мемарыялу «Курапаты», як па камандзе, заплюшчваюць вочы тэрытарыяльныя органы архітэктуры і будаўніцтва, а таксама ўпраўленні і аддзелы культуры на раённым і абласным узроўні выканаўчай улады.

Вынікам гэтага з'яўляецца рэакцыя Генеральнай пракуратуры Беларусі, якая ў дакуменце ад 17.11.2012 года прапануе старшыні Мінаблвыканкама Барысу Батуры разгледзець усе выяўленыя парушэнні заканадаўства, здзейсніць праверку для вызначэння факту самавольнага захопу зямлі кампаніяй «БелРэстІнвест», прыцягнуць вінаватых да адказнасці, а лёс незаконных пабудоваў вырашыць у адпаведнасці з часткай 5 арт. 223 ГК. Сярод санкцый артыкула, з улікам асаблівых парушэнняў горадабудаўнічых і будаўнічых нормаў і правілаў, прадугледжаны знос самавольнай пабудовы.

Аднак далей дзяржаўныя органы дэманструюць поўную адсутнасць рэакцыі па кантролі за выкананнем сваіх жа рашэнняў.

Паводле замовы Мінскага райвыканкама, з грубейшымі парушэннямі распрацоўваецца праект дэталёвага планавання (ПДП), ужо пабудаваны забаўляльны комплекс выводзяць з ахоўных межаў паводле рашэнняў у тым ліку і Навукова-метадычнай рады. Характэрна, што распрацоўку гэтага ПДП па ўчастку ад комплексу да мемарыялу Курапаты фінансавала ўсё тая ж кампанія-забудоўнік — «БелРэстІнвест».

У інтэрв'ю парталу TUT.by партнёр Аркадзя Ізраілевіча — Леанід Зайдэс, суўладальнік рэстарацыі «Паедзем паядзім», — не хавае і сумы фінансавання: 350 мільёнаў рублёў, на той час звыш 40 тысяч долараў. Далей адбываецца правакатыўная спроба адкрыцця рэстарацыі — у 30-ю гадавіну публікацыі праўды пра Курапаты — і сённяшнія пратэсты грамадскіх актывістаў.

Усе выкладзеныя факты ў гэтым расследаванні маюць стаць нагодаю для ініцыявання Генпракуратурай Беларусі новай праверкі выканання заканадаўства падчас будаўніцтва забаўляльнага цэнтру «Паедзем паядзім» ля найбольшага мемарыяльнага сведчання масавых сталінскіх расстрэлаў у Беларусі.

# не было ахоўнай зонай»

*да ўсходняй мяжы тэрыторыі АЗС. — аўт.).*

***— Вы говорите, 30 метров?***

— Да.

***— Были ли вы знакомы с владельцами компаний «БелРестИнвест» и «Белновотекс груп», с Аркадием Израилевичем или Леонидом Зайдесом?***

— Нет, никаких отношений у меня с ними не было. Я даже с ними не знакома, не говоря уже обо всех остальных отношениях. Вы вообще звоните узнать что? *(Лебедзева відавочна разгублівалася праз узгадванне асноўных фігурантаў расследаванняў).*

***— Я хотел бы, чтобы вы назвали основную причину прекращения строительства. Почему вы решили продать свой бизнес?***

— *(Доўгая паўза)* Было отказано… *(паўза)* Банк отказал в выдаче кредита.

***— Вы в основном занимаетесь педагогической деятельностью: у вас был детский клуб, вы организовывали первую школу аргентинского танго в Минске. У меня закономерный вопрос: почему вы решили построить именно объект придорожного сервиса?***

— Я же вам уже ответила, я стараюсь делать этот мир лучше, насколько я могу в своём формате, принести людям радость. Не гадость, а радость, понимаете?

***— А вы можете прокомментировать уже 2009 год, каким образом на вас вышли представители компании «БелРестИнвест»?***

— Нет, вы знаете, вот это точно не буду комментировать (Лебедзева досыць рэзка рэагуе на даволі бяскрыўднае пытанне). — Это вам зачем?

***— То есть вопрос по «БелРестИнвесту» вы никак не сможете прокомментировать?***

— Нет, ну с вашей стороны остался еще вопрос, за сколько вы продали объект. Это аналогичный вопрос. А он граничит, очень даже граничит на уровне разумного, неразумного и очень невоспитанного.

***— Этот вопрос я вам не задавал, меня интересует, каким образом они на вас вышли? Насколько известно, эта фирма появилась в сентябре 2009 года. И буквально через три месяца выкупила у вас права аренды и объект.***

— Почему вы у них не спросите? Я давала объявление о продаже, и что здесь такого?

***— У меня возникло впечатление, что, возможно, вас использовали как подставное лицо. У меня сложилось такое впечатление по всем найденным фактам. Как вы можете это прокомментировать?***

— Вообще меня никто никак не может использовать. И в том числе, если вы и дальше будете задавать такие вопросы, я сочту это использованием.

***— Я понял. У меня к вам последний вопрос: каково ваше отношение к конфликту вокруг этого комплекса?***

— Мне на самом деле очень жаль, что так все исказили, так перевернули этот объект, и невольно наворачиваются слёзы, когда я всё это вижу. Сюда я вложила достаточно много труда, сил и времени, безумно много времени. Мне очень жаль. Этот объект не работает, находится в каком-то непонятном подвешенном состоянии.

***— А, может быть, вы предложите какие-нибудь компромиссные шаги, чтобы можно было как-то ситуацию урегулировать, чтобы конфликт не развивался, не было возможной эскалации?***

— Дайте людям просто работать. Пусть они делают что-то хорошее для людей, ведь они ничего плохого не сделали. Никто на костях ничего там не построил. Я сама занималась котлованом, я всё это видела, никаких костей там не было, не надо ничего придумывать. Не надо из мухи раздувать слона. У нас очень много домов строится рядом с кладбищами, и это никак не оскорбляет людей, которые там захоронены.

***— Видите ли, это не кладбище, а центральное место в Беларуси, где проводились массовые сталинские репрессии.***

— Да, кстати, а почему вы думаете, что это кафе как-то повлияло бы на посещение этого объекта? Человек, который сюда придёт положить цветы, вспомнить о своих близких, почему ему не зайти в кафе? Что в этом плохого? Зайти в кафе — это значит напиться и потанцевать, да? А вот у меня другой взгляд на это.

***— Вы планировали и начинали строить объект придорожного сервиса, а непосредственно «БелРестИнвест», который у вас его выкупил, полностью изменил проект, сделав из объекта придорожного сервиса целый развлекательный комплекс с баней, домиками и так далее. В 2012 году Генпрокуратурой было вынесено предписание по всем выявленным нарушениям с требованием их устранить…***

— Я вам ещё раз говорю, мне очень жаль, мне очень больно, что все так получилось, а ведь сама идея изначально была правильной и хорошей. Были нормальные услуги для людей: приехал, заправился, а некоторые захотят еще и поесть. Это трасса, на которой должны быть различные виды услуг, не только заправки. На тот момент кафе придорожных было очень мало.

*З адказаў і рэакцыі на асобныя пытанні вынікае, што Іна Лебедзева вельмі хвалюецца за бізнес, прададзены амаль дзевяць гадоў таму. Досыць дзіўна для чалавека, які працяглы час нібыта не мае да яго ніякага дачынення. Негатыўная рэакцыя на пытанні пра кампанію «БелРэстІнвэст» выклікае дадатковыя развагі наконт заангажаванасці спадарыні Лебедзевай. Можа быць, гэтае ўражанне памылковае, але яно ёсць.*

***P.S.:*** *Пра тое, як звужаліся ахоўныя межы Курапатаў, мы ўжо пісалі ў № 21 ад 8 чэрвеня 2018 года.*

**Дзяніс Івашын**

# Невядомы Юрый Хадыка

## Да 80-годдзя з дня нараджэння

Аляксей ХАДЫКА

**Юрый Хадыка правёў сваё жыццё ў трох іпастасях: як навуковец, як збіральнік Музея старажытнабеларускай культуры і як грамадскі дзеяч.**



Гандбольная каманда Юрыя Хадыкі ў Інстытуце фізікі




Юрый Хадыка з Зянонам Пазьняком



Юрый Хадыка, Юрый Захаранка і Генадзь Карпенка

Калі 11 верасня 2016 года мой бацька скончыў свой зямны шлях у Дэнверы (ЗША), багата людзей прыгадвала яго як палітыка, дзеяча БНФ. Але ён быў адзіны ў трох іпастасях — як навуковец, як збіральнік Музея старажытнабеларускай культуры, як грамадскі дзеяч. Ва ўсіх сферах вызначаўся нязломнасцю характару, і, адначасова, здольнасцю да перамоваў з апанентамі.

Але найперш упартасцю. Адкуль гэта? Пачнём ab ovo.

Дзед па бацькоўскай лініі — паўстанец 1863 года. Каб пазбегнуць арышту, мяняў прозвішча (на «Лях»), хаваўся, а сапраўднае імя вярнуў з поўнай амністыяй паўстанцаў у 1913 годзе: «Хадыка». Сярод бацькоўскіх продкаў — уніяцкі святар. Па кудзелі — рускі. Дзед — «чырванадрэўшчык», пры тым кулачны баец з Курску. Бацька па маладосці (1901 года нараджэння) — падмануты бальшавікамі ўдзельнік штурму Кранштадту.

Потым, зразумеўшы сутнасць падзей, у 1926 годзе хацеў пайсці ў беларускія гісторыкі. Пабачыў першыя рэпрэсіі супраць «нацыяналістаў», усё зразумеў і стаўся будаўніком. Некалькі дамоў у цэнтры Мінска — праца ягонага будаўнічага інстытута. У адным з гэтых дамоў у чэрвені 1941 года сям'я атрымала кватэру, але, калі Віктар Лукіч вярнуўся параненым з фронту, жытло займаў афіцэр НКУС. Узяў крэдыт, збудаваў прыватную хату, а пасля сталінскай грашовай рэформы 1947 года вымушаны быў вярнуць крэдыт у 10-кратным памеры.

Так што ў Юрыя Хадыкі, з досведу продкаў, пра жыццё не было ілюзій.

Мужчынская чыгуначная школа №60 гартавала характар, а залаты медаль даваў шанцы на навуковую кар'еру. Атрымаўшы паўпрахадны бал у славутым МФТІ, Юрый Хадыка вярнуўся на фізфак БДУ. Зноў адвучыўся на выдатна, зрабіўся капітанам каманды ўнівера па гандболе.

У аспірантуры Юрый Хадыка адмовіўся ісці ў КПСС, маўляў, «не даспеў». За тры гады напісаў кандыдацкую, ажаніўся з Валянцінаю з Клецка (таксама шляхцянкай) без дазволу бацькоў — у адзін дзень дамогшыся дазволу ЗАГСа. У 1963 годзе Юрый Хадыка атрымаў навуковую ступень кандыдата навук ды адначасова нарадзіў сына. А з доктарскай ступенню — у 1976 —нарадзіўся другі сын. Прафесарам зрабіўся ў 1980-м, у 42 гады. Членства ў Акадэміі беспартыйнаму навукоўцу не пагражала, як і добрая кватэра, таму сям'я ўпецярох жыла да 1986 года ў прахадной 32-метровай хрушчоўцы, аж пакуль жонка не зрабіла скандалу прэзідэнту Акадэміі навук Барысевічу. І яна мела на тое матывацыю: лабараторыя Хадыкі (35–40 чалавек) «карміла» не толькі Інстытут фізікі, але і навуковыя ўстановы ў Віцебску і Гродне.

Па ўсесаюзнай кааперацыі Лабараторыя оптыкі неўраўнаважаных асяродкаў працавала над аптычнай часткай савецкага аналагу праграмы «зорных войнаў». Задача — сачэнне за балістычнымі ракетамі NATO. Менавіта іх распрацоўка дазволіла прадухіліць ядзерны канфлікт 26 верасня 1983 года, калі савецкія спадарожнікі памылкова, з-за збою сістэмы лінзаў, зафіксавалі старт з Каліфорніі пяці ядзерных «Мінітмэнаў».

У КПСС Юрыю Хадыку такі давялося ўступіць на пачатку 1980-х гадоў, бо зароблены лабараторыяй грошы нахабна размяркоўвалі спачатку на парткаме, і толькі потым — на навуковай радзе.

У 1960-я гады, пасля знаёмства з Элеанорай Вецер, якая чытала курс па імпрэсіянізму ў Мастацкім музеі, пачалося апантанае вывучэнне Хадыкам беларускай культурнай спадчыны. Падчас адпачынкаў, за свае грошы, Юрый Хадыка і сотня паплечнікаў ездзілі па ўсёй краіне ратаваць старажытнасці ў паўразбураных саветамі храмах. Да 1974 года сабралася вялізная калекцыя, але здарыўся чарговы прыступ барацьбы з нацыяналізмам — і ўсю яе схавалі ў фондах Мастацкага музею, забраўшы з Акадэміі навук.

Хадыку не кранулі — «з-за космасу». Аматары не адступілі, да 1979 года паўтарылі працу, а, скарыстаўшыся дапамогаю Ніны Мазай у Саўміне (уменне дамаўляцца) і часовай адлігай, адкрылі ў Акадэміі навук Музей старажытнабеларускай культуры.

Музей дагэтуль лепшы ў сваёй галіне. Яго душой зрабілася Вольга Церашчатава — са сваім «прыкрыццём»: напрыканцы вайны яе рыхтавалі ў дэсантніцы-разведчыцы.

Хто ж пусціць некамуніста-нацыяналіста ў публічную палітыку? На выбарах першага З'езду народных дэпутатаў СССР (дзе блістаў потым Андрэй Сахараў), Хадыку па Акадэмічнай выбарчай акрузе вылучылі 17 інстытутаў АН і яшчэ некалькі ўстаноў. Але спецыяльнае сіта — «перадвыбарчы сход», што складаўся з прадстаўнікоў пенсіянераў-наменклатуршчыкаў, — яго кандыдатуру не зацвердзіла.

На выбарах Вярхоўнага Савета 12 склікання, калі ў першым туры галасавання прайшлі больш за 20 прадстаўнікоў БНФ, а Хадыка выйшаў у другі тур з 47% галасоў і відавочнай перспектывай перамагчы, зрабілі інакш. Па загадзе Пятра Краўчанкі з Мінскага гаркама партыі журналістка Бумажкова напісала пасквіль у «Вячэрнім Мінску»: «Пазняк і Хадыка — нашчадкі калабарантаў-фашыстаў-нацыяналістаў у апошняй вайне». У выбарчай акрузе «ВМ» раскідалі ў кожную паштовую скрыню. Людзі тады часта верылі друкаванаму слову.

На выбарах у гарсавет, дзе Хадыку чакалі, каб зрабіць старшынёй Мінгарвыканкаму, проста падпалілі выбарчы ўчастак у Акадэмічнай бібліятэцы: «Выбары не адбыліся». Так ён і застаўся, прыйшоўшы ў БНФ у 1989 годзе, «шэрым кардыналам» без дэпутацкага мандату, выканаўцам вялікага аб'ёму штодзённай рэгулярнай працы. Стварыў разам з аднадумцамі Уладзімірам Анцулевічам, Валянцінам Голубевым, Андрэем Саннікавым Народны ўніверсітэт.

За 10 гадоў (з 1996-га) яны з лепшай беларускай прафесурай аб'ехалі каля 50 гарадоў Беларусі. У кожным — лекцыі па выходных цягам 4 месяцаў на самыя актуальныя тэмы: ад эканомікі да экалогіі. Выдалі 13 падручнікаў, выпусцілі больш за дзясятак нумароў спецыяльнага часопісу «Філаматы». Дамагліся абрання ў мясцовыя саветы каля сотні выхаванцаў універсітэта. Пакуль мясцовыя саветы вярхоўная ўлада не ператварыла ў «фігавы лісток».




Юрый Хадыка на Чарнобыльскім Шляху–2011

Тытульная парламенцкая апазіцыя ў 1990-я гады займалася ў парламенце вялізнай дзяржаўнай працай, а Хадыка рабіў у БНФ «чорную работу». Стаяў з народам на плошчы падчас жнівеньскага путчу 1991 года. Ачольваў, падаваў заяўкі на палітычныя дэманстрацыі. Напрыклад, у 1996-м на «Чарнобыльскі шлях», што сабраў больш за 40 тысяч грамадзян... І скончыўся правакацыямі міліцыі, «ціхароў» і арыштам заяўнікаў — Юрыя Хадыкі і Вячаслава Сіўчыка. Яны мелі перспектывы бясконца гніць у турме.

Зняволеныя Юрый Хадыка і Вячаслаў Сіўчык тады зладзілі першую ў Беларусі палітычную галадоўку. Яны галадалі больш за тры тыдні. Калі за вязняў уступіўся прэзідэнт Расіі Барыс Ельцын і амерыканскі сенатар Джон Макейн, Лукашэнка здаўся.

Памятаеце перыяд 1999–2002 гадоў: найбольш небяспечныя апаненты ўлады зніклі ці загадкава памералі? На чарзе быў Юрый Хадыка. У чэрвені 2001 года, у час простай аперацыі ў клініцы, яму «выпадкова» занеслі інфекцыю, сінягнойную палачку, што смяротна ў 95% выпадкаў. З'явіўся кіраўнік Адміністрацыі прэзідэнта Урал Латыпаў: «Юрый Віктаравіч, мы вас адправім лячыцца ў Швейцарыю!» Хадыка адмовіўся. Выжыў. Але здароўе падарваў.

Палітычная сістэма дэградавала, Юрый Віктаравіч губляў сілы, пад канец 2000-х гадоў адышоў ад палітыкі. А ў 2013-м з'ехаў да малодшага сына ў ЗША, каб выканаць апошняе заданне жыцця: выхаваць унукаў.

Сваю ўласную калекцыю ікон (запіс у тастаменце) ён аддаў грэка-каталіцкай царкве. Меркаваў: ёй іконы належаць па гістарычным праве.

Юрый Хадыка зрабіў, што мог. Хай іншы зробіць лепш.

**Фота з асабістага архіва Аляксея Хадыкі**

Літаратурная Беларусь

Выпуск №6 (142)
(чэрвень)

КУЛЬТУРНА-АСВЕТНІЦКІ ПРАЕКТ
Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў» і «Новага Часу»

lit-bel.org
novychas.by

## Змест



# Валерый Герасімаў: «Экслібрыс» да 100-годдзя БНР

**Саюз беларускіх пісьменнікаў, арганізатар літаратурнага конкурсу «Экслібрыс», прысвечанага 100-годдзю Беларускай Народнай Рэспублікі, да 1 жніўня чакае ад маладых аўтараў творы гістарычнай тэматыкі.**



Пра тое, як сябра журы конкурсу Валерый Герасімаў, дасведчаны бібліятэкар-бібліёграф, края- і кнігазнавец, пачаў цікавіцца гісторыяй і якія парады дае ўдзельнікам конкурсу — у нашым інтэрв'ю.

***— Галоўная парада ад вас для ўдзельнікаў «Экслібрысу», што спрабуюць сябе ў гістарычнай тэматыцы, — якая яна?***

— Шанаваць папярэднікаў, не губляць веру ў праўду і моцна трымацца нацыянальнага грунту. Усё было да нас і будзе пасля нас. Але ў беларусаў у гэтым свеце свая місія, ніхто іншы за нас яе не спраўдзіць.

Сапраўдны гісторык, аўтар гістарычнай белетрыстыкі, на мой погляд, павінен займаць і актыўную жыццёвую пазіцыю. Вы паглядзіце на першыя ўрады БНР і ССРБ. За рэдкім выключэннем іх чальцы не прафесійныя палітыкі і чыноўнікі, а вайскоўцы, літаратары, выдаўцы, настаўнікі. Але з якой пасіянарнасцю! Радзіма паклікала, і яны заклалі такія трывалыя падмуркі нашай дзяржаўнасці ў найноўшым часе.

Янка Серада, першы прэзідэнт БНР, пазней стварае і ўзначальвае бібліятэку Інбелкульта. Кастусь Езавітаў, першы вайсковы міністр БНР, бібліяфіл і аматар беларускіх кніжных рарытэтаў, сабраў адну з узорных прыватных кніжніц па беларушчыне. Усевалад Ігнатоўскі, выбітны эсэр, наркамасветы БССР — першы прэзідэнт Беларускай акадэміі навук, аўтар адметных гістарычных дапаможнікаў...Часам самавукі, як Купала ці Ластоўскі, але паспрабуйце нават сёння пераўзысці гістарычна-культурніцкі ўзровень «Тутэйшых» ці «Гісторыі беларускай (крыўскай) кнігі».

Наш будзіцель Мікола Ермаловіч, як і астатнія сучасныя адраджэнцы-навукоўцы не лічылі для сябе нечым ганебным удзельнічаць у практычнай палітыцы, калі справа датычыла адраджэння нацыі і дзяржавы. Таму сучасным аўтарам гістарычных прац я б да ўсяго параіў актыўна «несці ў народ» свой досвед і заўсёды быць гатовымі стаць за стырно кіраўніцтва дзяржавай, калі ў гэтым з'явіцца тэрміновая геапалітычная неабходнасць. Як бы пафасна, на першы погляд, гэта ні гучала. Кіраваць краінай павінны тыя, хто вядзе радавод яе дзяржаўнасці ад протабеларускіх плямёнаў V–VI стагоддзяў, а не ад 1917 года.

***— Чым вас прывабіла даследаванне гісторыі? І чым прываблівае цяпер?***

— Нармалёвы беларус, з нармалёвай сям'і, з нармалёвага беларускага места проста не можа не зацікавіцца гісторыяй. Так было і са мной. Старажытны Брагін 1147-га года першага згадвання ў летапісе. З дзяцінства — атмасфера замка Вішнявецкіх... Родны дом адразу за замкавым ровам, дзе аскепкі сярэднявечнага посуду і талеры ВКЛ ды барацінкі валяюцца проста пад нагамі. Плюс непазбыўнае пачуццё волі і справядлівасці, што ўласціва менавіта беларусам Падняпроўя ледзь не на генетычным узроўні. Усё астатняе — справа лёсу і выпадку. Цяпер — як бы адваротны працэс. Трэба аддаваць роднай зямельцы, што атрымаў.

> **Пасля вядомых падзей ў сярэдзіне 1990-х нацыянальнае адраджэнне прыняла форму грамадзянскай вайны. Толькі не ўзброенай, а ментальна-ідэалагічнай. На адным баку апынулася нацыянальная эліта, праслойка нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі і духова здаровая частка «простага» народа. На другім — нашчадкі сталінскіх катаў**

У гэтым сэнсе для мяне вялікая загадка каста чыноўнікаў раённага (і не толькі) маштабу — у побыце — «у дошку свае хлопцы», якія ўчора тапталі разам з табой тыя ж сцяжынкі, гайсалі па тых жа гаях, узлазілі на тыя ж сівыя муры, а сёння пад сурдзінку пра ўпарадкаванне «малой радзімы» зносяць бульдозерамі драўляныя палескія хаты з унікальнымі малымі архітэктурнымі формамі, адметнасцямі і асаблівасцямі тысячагадовага традыцыйнага народнага дойлідства, руйнуюць гістарычную забудову і нявечаць гістарычную планіроўку старажытных паселішча... І пры гэтым захоўваюць усе анахраністычныя вуліцы Савецкія, помнікі Леніну, сувораўскія музеі і вучэльні ды змагаюцца з бел-чырвона-белым колерам на ўзроўні дэгенератызму...

***— Хто з беларускіх аўтараў для вас аўтарытэт у гістарычнай тэматыцы?***

— Мяркую, што да сярэдзіны 1980-х нацыя загаіла раны, фізічныя і духоўныя, пасля доўгіх гадоў русіфікацыі і рэпрэсій. Паўстала пакаленне ўнукаў Яна Пазняка, Адама Станкевіча, Кастуся Езавітава, Вацлава Ластоўскага, Вацлава Іваноўскага, Максіма Багдановіча, Максіма Гарэцкага, Янкі Купалы і Якуба Коласа. Мы зламалі хрыбет звыродлівага камунізму, аднавілі беларускую дзяржаўнасць. БНФ, бел-чырвона-белы сцяг, Пагоня паўсталі нашымі сімваламі, ідэалогіяй, ментальнасцю. Зянон Пазняк, Алесь Адамовіч, Васіль Быкаў сталі нашымі абаронцамі і гарантамі незваротнасці працэсаў нацыянальнага адраджэння. На мой погляд, пасля вядомых падзей ў сярэдзіне 1990-х нацыянальнае адраджэнне прыняло форму грамадзянскай вайны. Толькі не ўзброенай, а ментальна-ідэалагічнай. На адным баку апынулася нацыянальная эліта, праслойка нацыянальна арыентаванай інтэлігенцыі і духова здаровая частка «простага» народа. На другім — нашчадкі сталінскіх катаў, кампрадорская частка інтэлігенцыі, вайскова-інжынерна-люмпен-пралетарская пятая калона аскепкаў народна-гаспадарчай эсэсэсэраўскай імперыі. Ад Вясны 1996-га сілы нацыянальнага адраджэння вядуць цяжкія ар'ергардныя баі, баі адстойвання дзяржаўнай незалежнасці, роднай мовы і культуры. І ў гэтых баях працэсы люстрацыі, іншымі словамі, пераследу людзей (нягледзячы на прафесійны досвед) за палітычныя погляды шляхам звальнення з працы і да т.п., адыгрываюць немалую ролю.

Тут на нацыянальна арыентаваных гісторыках і пісьменніках улада «адарвалася» напоўніцу. Але гісторыю не перавернеш на свой капыл. Ды і беларусы сёння — не статак баранаў. Мне падаецца, нацыянальны супраціў негвалтоўнага характару якраз меў вынікам усплёск развіцця гістарычнай кнігі — і прафесійнай, і белетрыстычнай, і мастацкай. Гэта ўжо нават не дзясяткі, а сотні імёнаў. Нават пералічваць не буду, усе яны на слыху, у кожнага свая чытацкая ды інфармацыйная аўдыторыя.

***— Чаго вы чакаеце як крытык і сябра журы «Экслібрыса» ад аўтараў, чые творы будзеце ацэньваць? Ці ёсць у вас ужо цяпер пэўны набор крытэраў?***

— Гістарычнасць, мастацкасць, нацыянальная пазіцыя, — вось і ўсе крытэрыі. Гэта вялізны гонар і адказнасць для кожнага аўтара — удзельнічаць у конкурсе «Экслібрыс». Нягледзячы на тое, пачатковец ён ці слынны творца. Бо арганізатар конкурсу — Саюз беларускіх пісьменнікаў, тая творчая арганізацыя, якая ці не асноўны цяпер гарант незнікнення беларусаў у цывілізацыйнай прасторы. Помніцца, пасля таго, як у Прэзідэнцкай бібліятэцы Рэспублікі Беларусь, дзе я працаваў загадчыкам аддзела старадрукаў і рэдкіх выданняў, пачалі нішчыць нацыянальна арыентаваныя гістарычна-кнігазнаўчыя праекты, а мяне звольнілі, праваабаронца Алесь Бяляцкі сказаў: «Нічога, сябра, увогуле добра і так, што ты за столькі гадоў працы ва ўрадавай установе не скурвіўся». Вось і Саюз беларускіх пісьменнікаў «не скурвіўся», нягледзячы на шматлікія спробы расколу і правакацыі з боку вядомых сілаў. Таму яго апека і ўвага дарагога каштуе.

**Падрыхтавала Алена Босава**

# Набор заявак на прэмію імя Наталлі Арсенневай

**Літаратурная прэмія імя Наталлі Арсенневай ушаноўвае аўтара ці аўтарку найлепшай паэтычнай кнігі на беларускай мове.**

Арганізатары прэміі — Саюз беларускіх пісьменнікаў, Беларускі ПЭН-цэнтр і Згуртаванне беларусаў свету «Бацькаўшчына». Узнагарода ўручаецца пры падтрымцы Фонда культуры і адукацыі Орса-Рамана і Харытатыўнага фонда Згуртавання беларусаў Вялікай Брытаніі.



У склад журы прэміі сёлета ўваходзяць:

- Анатоль Івашчанка, паэт, літаратуразнаўца;
- Вольга Іпатава, пісьменніца, перакладчыца;
- Наста Кудасава, паэтка;
- Дзмітрый Строцаў, паэт;
- Андрэй Хадановіч, паэт, перакладчык.

Правам намінавання валодаюць выдаўцы, творчыя аб'яднанні, аргкамітэт Прэміі, сябры журы і самі аўтары.

Удзельнічаць у сёлетнім конкурсе могуць паэтычныя кнігі, напісаныя на беларускай мове і выдадзеныя ў электронным ці папяровым выглядзе ў 2017 годзе.

Заяўка павінна ўтрымліваць наступныя звесткі:

а) інфармацыя пра намінатара, што вылучае твор на Прэмію: кантактныя нумары тэлефонаў і адрасы;

б) назва кнігі, выдавецтва, месца і год выдання;

в) імя (імёны) паэта/паэткі, па магчымасці кантактныя дадзеныя;

г) электронныя pdf-версіі выданняў, калі кніга выдавалася ў папяровым выглядзе, мінімум два папяровыя асобнікі кніг. Папяровыя асобнікі прымаюцца па адрасе Саюза беларускіх пісьменнікаў (Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906), электронныя варыянты — на адрас: paezija@gmail.com.

Заяўкі прымаюцца да 10 ліпеня.

Прэмія заснаваная ў гонар беларускай паэткі Наталлі Арсенневай (1903—1997) у 2017 годзе. Першым лаўрэатам прэміі стаў Уладзімір Някляеў за зборнік паэзіі «Толькі вершы».

# Еўрапейскія пісьменнікі сабраліся ў Мінску

**У паседжанні Генеральнай асамблеі Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады (European Writers' Council) узялі ўдзел 32 кіраўнікі пісьменніцкіх арганізацый з Англіі, Беларусі, Даніі, Кіпра, Германіі, Гішпаніі, Ісландыі, Каталоніі, Латвіі, Нарвегіі, Славеніі, Харватыі, Фінляндыі, Швецыі, Эстоніі.**



Гэтая асацыяцыя існуе з 1977 года і аб'ядноўвае 44 літаратурныя арганізацыі Заходняй і Цэнтральнай Еўропы, у тым ліку і Саюз беларускіх пісьменнікаў.

Асамблея ўпершыню праходзіла на постсавецкай прасторы.

Саюз беларускіх пісьменнікаў з'яўляецца правадзейным чальцом Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады з 2010 года.

З прывітальным словам да замежных гасцей і дакладам пра дзейнасць СБП выступілі старшыня арганізацыі Барыс Пятровіч (Сачанка) і сакратар Сюзанна Паўкштэла.

Асамблея працягнула сваю працу і на наступны дзень. У праграме была прэзентацыя зборніка маладых беларускіх паэтаў у перакладзе на англійскую мову.

Другі дзень працы Генеральнай асамблеі Еўрапейскай Пісьменніцкай Рады распачаўся з дыялогу Барыса Пятровіча (Сачанкі) з прэзідэнтам EWC Гунарам Ардэліусам.

У гутарцы, да якой далучыліся ўсе прысутныя замежныя ўдзельнікі кангрэсу, закраналіся пытанні аўтарскага права ў Беларусі, статусу пісьменніка і становішча беларускай мовы ў нашай краіне, пытанні кнігавыдавецкай справы, наладжванне міжкультурнага супрацоўніцтва і ўзаемныя пераклады мастацкай літаратуры.

Саюз беларускіх пісьменнікаў прадставіў гасцям зборнік-білінгву «Зацішша не было: Беларуская паэзія новай генерацыі» — пераклады сучаснай беларускай паэзіі на англійскую мову, укладальнікам і аўтарам прадмовы якога стаў крытык Ціхан Чарнякевіч. У брашуру ўвайшлі вершы 9 паэтаў і паэтак 1980-х гадоў нараджэння, якія прэзентуюць, па словах спадара Ціхана, «пакаленне антыманіфесту» ў беларускай літаратуры.

Са сваімі вершамі ў арыгінале і ў перакладзе выступілі на сустрэчы пяцёра «маладзёнаў»: Ганна Комар, Наста Кудасава, Таццяна Нядбай, Віталь Рыжкоў, Віка Трэнас. Яшчэ чацвёрка, якая ўвайшла ў кнігу: Андрэй Адамовіч, Ірына Бельская, Марыя Мартысевіч, Вальжына Морт.

Тэксты на англійскую мову для зборніка перастварылі ўжо згаданыя Ганна Комар і Вальжына Морт, Хілары Шырз, рэдагаваў пераклады Джым Дынглі.

Кожны з удзельнікаў асамблеі атрымаў новы зборнік у падарунак.

**Тэкст і фота: Віка Трэнас**

# Прэмія імя Карласа Шэрмана: трэці сезон

**Прэмія імя Карласа Шэрмана ўручаецца за найлепшы пераклад мастацкай кнігі на беларускую мову. Пераможца атрымае чэк на суму, эквівалентную 2000 у.а. Падаць заяўку можна да 10 ліпеня. Удзельнічаць у конкурсе могуць пераклады мастацкіх кніг на беларускую мову, выдадзеныя ў папяровым або электронным варыянце ў 2017 годзе.**

Правам намінавання на Прэмію валодаюць выдаўцы, творчыя аб'яднанні, аргкамітэт Прэміі, сябры журы і самі перакладчыкі. Заяўка павінна ўтрымліваць наступную інфармацыю:

а) інфармацыя пра намінатара, што вылучае твор на Прэмію: кантактныя нумары тэлефонаў і адрасы;

б) назву кнігі, выдавецтва, месца і год выдання; в) імя (імёны) перакладчыка/цы (перакладчыкаў) і па магчымасці іх кантактныя дадзеныя; г) электронныя pdf-версіі выданняў і, калі кніга выдавалася ў папяровым выглядзе, мінімум два папяровыя асобнікі кніг.

Папяровыя асобнікі прымаюцца па адрасе Саюза беларускіх пісьменнікаў (220012, Мінск, вул. Кузьмы Чорнага, 31-906), электронныя варыянты — на адрас: konkurs.pierakladau@gmail.com.

Заяўкі, дасланыя пасля 10 ліпеня, да разгляду не прымаюцца.

Сёлета ў склад журы прэміі ўваходзяць Лявон Баршчэўскі, перакладчык, філолаг; Ганна Бутырчык, філолаг, загадчыца кафедры «Гісторыя замежнай літаратуры» БДУ; Аксана Данільчык; паэтка, перакладчыца; Дзьмітрый Плакс, перакладчык, паэт і празаік; Марына Шода, перакладчыца, літаратуразнаўца.

Прэмія за найлепшую перакладную кнігу заснаваная ў 2016 годзе ў гонар выдатнага беларускага літаратурнага перакладчыка Карласа Шэрмана (1934–2005) і носіць яго імя.

Сузаснавальнікамі прэміі з'яўляюцца Беларускі ПЭН-цэнтр, Саюз беларускіх пісьменнікаў і Міжнародны дабрачынны фонд «Вяртанне». Пераможца прэміі атрымлівае ад Дабрачыннага фонду «Вяртанне» чэк на суму, эквівалентную 2000 у.а.

# Заява Рады Саюза беларускіх пісьменнікаў па сітуацыі ў Курапатах

**6 чэрвеня, фактычна ў трыццатую гадавіну першай публікацыі праўды пра Курапацкую трагедыю ў пісьменніцкім тыднёвіку «Літаратура і мастацтва», непасрэдна каля месца ўшанавання і грамадскага мемарыялу па ахвярах сталінскіх забойстваў, насуперак негатыўнаму стаўленню грамадскасці, быў адчынены забаўляльны комплекс-рэстаран «Поедем, поедим».**

Цягам некалькіх гадоў дэмакратычная супольнасць праводзіла маніторынг дзейнасці ўласнікаў рэстарана і рэагавала на ўсе спробы яго адкрыцця, а пасля таго, як гэта ўсё-такі здарылася, распачала бестэрміновую акцыю негвалтоўнага супраціву.

Рада Грамадскага аб'яднання «Саюз беларускіх пісьменнікаў», разам з усёй неабыякавай грамадскасцю, выказвае рашучы пратэст з нагоды ганебнай падзеі — адкрыцця рэстарана «Поедем, поедим», наведнікі якога будуць харчавацца і танчыць побач з лесам памятных крыжоў курапацкага мемарыялу. Такой ганьбы не зведвала ніводнае месца памяці ахвяр, ніводзін мемарыял у свеце: забудова вакол іх заўсёды і неадменна плануецца з улікам меркаванняў супольнасці, у тым ліку меркаванняў маральна-этычных, якія, як мы вымушаны адзначыць, вельмі рэдка ўлічваюцца ў Беларусі ў дачыненні ахвяр сталінскіх рэпрэсій. З другога боку, ніводзін забаўляльны рэстаран не адкрыецца ў Хатыні, Трасцянцы, як не адкрыты ён у Асвенцыме ці Майданаку. Але ў Курапатах, дзе былі расстраляныя сотні беларускіх паэтаў, празаікаў, акцёраў і навукоўцаў, дзясяткі тысяч дагэтуль невядомых людзей, такая знявага па-ранейшаму магчымая…

Шануючы правы прыватнай уласнасці, мы заклікаем уладальнікаў зямлі, на якой збудаваны комплекс, да шырокага грамадскага дыялогу, у выніку якога будуць выпрацаваны захады да дээскалацыі грамадскага канфлікту і ўлічаны ўсе інтарэсы.

Мы ўпэўненыя, што з усіх бакоў ёсць людзі, для якіх пашана да продкаў, а тым больш да бязвінных ахвяраў, — святое. Гэта ў спрадвечных традыцыях, у самім характары беларусаў, што і мусіць стаць вырашальным у канфлікце, які склаўся вакол нацыянальнага мемарыялу «Курапаты». Памяць пра сотні тысяч загінулых, знішчаных сыноў і дачок Беларусі патрабуе ад нас стварэння ў Курапатах Музея ахвяраў бальшавіцкіх рэпрэсій.

Аксак Валянціна
Алексіевіч Святлана
Аляхновіч Мікола
Арлоў Уладзімір
Багдановіч Ірына
Баравікова Раіса
Бароўскі Анатоль
Брава Алена
Васючэнка Пятро
Вярцінскі Анатоль
Голуб Юрка
Дайнека Леанід
Далідовіч Генрых
Дранько-Майсюк Леанід
Дубатоўка Валянцін
Дубянецкая Галіна
Жук Аляксандр
Жуковіч Васіль
Жыбуль Віктар
Законнікаў Сяргей
Зуёнак Васіль
Казько Віктар
Карамазаў Віктар
Каржанеўская Галіна
Клімковіч Максім
Лазебная Анастасія
Някляеў Уладзімір
Пашкевіч Алесь
Пятровіч (Сачанка) Барыс
Рагойша Вячаслаў
Сіўчыкаў Уладзімір
Скобла Міхась
Спрынчан Аксана
Сцебурака Усевалад
Федарэнка Андрэй
Хадановіч Андрэй
Хатэнка Антаніна
Цвірка Кастусь
Яцкоў Мікола

**Прэс-служба ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў»**

# Першая публікацыя



Уладзімір МАРОЗ

**Я пачаў пісаць у дзявятым класе, год ішоў 1968-ы. Больш звыкла і зразумела гэта можна было б назваць дзённікам, але такая форма найперш мае на ўвазе занатоўванне падзей. Думаю, што ў маіх запісах былі далёка не адны падзеі, а назіранні, разважанні, роздумы, абагульненні. Чаму думаю-мяркую, а не сцвярджаю пэўна? Тры тоўстыя агульныя сшыткі ў клетку, якія я спісаў дробным каліграфічным почыркам (у кожнай клетачцы радок) за тры з гакам гады (канец школы і паўтара курса інстытута), згарэлі падчас пажару разам з дзедавай хатай. Так, трымаў я іх у бабы з дзедам у Мікалаеўшчыне. Напэўна таму, што бліжэй у два разы да Мінска, чым бацькоўскае Даманава, ды і бываў я там нашмат часцей.**

Гэтая сітуацыя ёсць у аповедзе, які так і называецца: «Тры сшыткі». Але тыхчасовыя запісы там не згадваюцца. Я іх рабіў ужо без перапынкаў (хоць і не рэгулярна), проста ў новым сшытку: «...вялікая для мяне страта — тры мае сшыткі. Недзе плывуць аблокам. Яны нясуць у сабе бачанае мною — але ж яны бачаць цяпер больш, чым я» (18 жніўня 1972 года, пятніца, Даманава).

Вось так стала рэагаваў на нечаканую падзею ў сваім жыцці дзевятнаццацігадовы хлопец, ці юнак, ці проста малады чалавек. Які, як цяперша бачыцца, без пісання ўжо не ўяўляў свайго існавання, хоць вучыўся на архітэктара. Вучыўся з цікавасцю, з імпэтам, з сялянскім жаданнем ухапіць чым больш у гэтыя студэнцкія гады.

Горадабудаўніцтва, уласна, асноўны прадмет для студэнтаў маёй групы горадабудаўнікоў, выкладаў у нас Навум Яфімавіч Трахтэнберг, дацэнт. Збольшага мы ведалі, што ён з'яўляецца адным з аўтараў генплана пасляваеннага Мінска, але да ўсведамлення архітэктурнага працэсу ў Беларусі як адметнай паслядоўнай справы з пэўнымі імёнамі яшчэ не даспелі. Ле Карбюзье — во дзе сапраўдны геній! А што тут нашыя, мясцовыя? Юнацкая неабачлівасць, адным словам. Але выкладчыкі ў інстытуце такія, якія ёсць, іх не выпішаш з-за мяжы. Таму, калі ў пачатку вясновай сесіі на другім курсе Трахтэнберг запытаўся, ці не жадае хто заняцца навуковай працай (студэнцкай, зразумела!), я адгукнуўся. А каб не сумна было аднаму, прапанаваў супрацу свайму сябру Колю Дзятко, хоць адразу разумеў, што пісаць (выкладаць думкі на паперы) давядзецца мне аднаму.

За тры гады мы напісалі тры работы. Ад інстытута нас накіравалі на XX студэнцкую навукова-тэхнічную канферэнцыю ВНУ Прыбалтыйскіх рэспублік, Беларускай ССР і Малдаўскай ССР, якая ў той 1974 год праходзіла ў Таліне.

Жылі мы ці не ў «Віру», шыкоўным савецкім толькі што пабудаваным шматпавярховым гатэлі, які ўжо тады ўвайшоў у гісторыю як першы эстонскі небаграй (хмарачос) і самы прэстыжны гатэль у рэгіёне. Хваляваліся, натуральна, перад выступам, слухалі іншых. Помніцца дыскатэка ў політэхнічным інстытуце, які быў гаспадаром канферэнцыі. Першы раз сутыкнуліся з такой праявай, што запрашэнне на танец абазначае адразу на два: хуткі і павольны.

Тут, у Таліне, я і трымаў у руках сваю першую публікацыю. Тоненькая брашура з праграмаю, дзе на авантытуле чырвоным колерам быў адбіты камсамольскі значок і напісаны словы «50-годдзю надання камсамолу імя У.І.Леніна прысвячаецца» (1200 асобнікаў), і тоўстая, ульсная кніжка, з тэзісамі дакладаў накладам 700 асобнікаў.

Тую тэму я працягваў і ў дыпломнай працы, праектаваў новы горад навукі. Кіраўніком быў Навум Яфімавіч. Праект ішоў без асаблівых узрушэнняў і турзаніны, дзесяць падрамнікаў метр на метр памерам пакрысе запаўняліся візуальным увасабленнем задуманага-перадуманага. Праект атрымаўся і нават быў адзначаны на ўсесаюзным узроўні, аб чым сведчыць «ДЫПЛОМ трэцяй ступені Саюза архітэктараў СССР...».

У 1976 годзе дацэнт Трахтэнберг па незразумелых прычынах пакінуў выкладчыцкую працу ў БПІ, якой займаўся з 1954 года, а ў 1977-м памёр яшчэ не старым чалавекам на 67-м годзе жыцця. Цяпер пішуць, што ў яго тады былі няпросты перыяд жыцця, нейкія непаразуменні-праблемы, што і паўплывала на заўчасны зыход... Згадка аб першай публікацыі паклікала ўспаміны аб настаўніку ў прафесіі, якую я набываў на архітэктурным факультэце. Залысіны, высокі лоб. Разумныя вочы за акулярамі. Сівыя валасы. Навум Яфімавіч шмат курыў, і толькі папяросы. Былі мы і ў яго дома, які месціўся на скрыжаванні вуліцы Захарава і Вайсковага завулка. Я ўпершыню бачыў такі агромністы пакой-кабінет, сцены якога выходзілі на абодва бакі дома, а акно было на зрэзе вугла.

Зразумела і бясспрэчна, што асоба Навума Трахтэнберга ў беларускім горадабудаўніцтве значная: ён праектаваў у свой час (больш за трыццаць гадоў!) усе генпланы Мінска. Мяняліся кіраўнікі праектаў і склад калектываў, нязменным заставалася прозвішча архітэктара Трахтэнберга. Уласна, савецкі Ленінскі праспект Мінска ў планіровачным вырашэнні — гэта яго плён. Нездарма ў 1968 годзе далі першую Дзяржаўную прэмію БССР за архітэктуру (якраз за архітэктуру Ленінскага праспекта), і сярод шасці асоб было і прозвішча Трахтэнберга.

Але ж быў у творчай біяграфіі майстра і будынак, узведзены па яго праекце! Толькі ў савецкі час ніхто аб гэтым не ведаў. Зразумела, найперш не хацеў гаварыць аб гэтым сам аўтар — часы не тыя. Навум Трахтэнберг нарадзіўся ў 1910 годзе ва Украіне, скончыў інстытут у Адэсе і працаваў там у філіяле Гіпраграда УССР. У 1934 годзе па запрашэнні «Белдзяржпраекта» пераехаў у Мінск. Відавочна, сваіх спецыялістаў-горадабудаўнікоў у нас тады не было. Дык вось, у гэтым жа годзе ў далёкім Біробіджане, сталіцы Яўрэйскай аўтаномнай вобласці, па праекце Навума Трахтэнберга быў узведзены трохпавярховы будынак гарсавета. Аўтару было ўсяго 24 гады!

Калі Навум Яфімавіч памёр, я ўжо працаваў у «Мінскпраекце». Даведаўся выпадкова, што развітанне будзе ў Доме архітэктара на Карла Маркса. Чамусьці ні з кім з нашых хаўрусу не было. Я прыходзіў туды адзін, купіў кветкі, развітаўся. Здаецца, зайшоў потым некуды ды выпіў сто грамаў за супакой яго душы...

Другая мая «першая публікацыя» сталася як бы працягам студэнцкай навуковай работы, але ўжо без кіраўніка. Бо тычылася архітэктуры, па-першае, па-другое, жаданне пісаць анікуды не знікла і пасля інстытута. Матэрыял, якому прыдумалася назва «На шляхах памяці», быў надрукаваны ў ЛіМе 6 лютага 1976 года і прысвечаны конкурсу на праект мемарыяльнага комплексу «Партызанская слава», які праводзіўся Міністэрствам культуры БССР. Ужо былі мемарыялы ў Хатыні і Брэсцкай крэпасці, таму Пятру Міронавічу Машэраву як былому партызану вельмі хацелася мець маштабны мемарыял народным мсціўцам. Месца меркавалася ў маладзечанскім накірунку каля Ратамкі. Адзначу, што помнік так і не быў створаны. Ды гэта ўжо справы грамадскія, цяпер нават гістарычныя, а тут пападзе літаратурныя. Старонку ў «Літаратуры і мастацтве» (праўда, ілюстрацый было больш, чым тэкста) абсалютна можна лічыць першай публікацыяй, бо газета літаратурная, рэспубліканская, ды і тэкст можна разглядаць не як водгук ці рэцэнзію, а як эсэістычную імпрэсію на тэму мемарыяльных праектаў. Адно што падпісаў зноў жа два, праўда, цяпер мой першы, не па алфавіце: «У. Мароз, М. Дзятко, архітэктары». Навошта я цягнуў Мікалая ў суаўтары — па інэрцыі ці каб весялей было? Скажам проста — выдаткі маладосці...

Невялічкая вытрымка аб адным з праектаў:

«...На далейшым шляху рэзкім кантрастам з папярэднім паўстае кампазіцыя «Рэха вайны» — аскепкі бомбаў і снарадаў, якія ўрэзаліся ў жытнёвае поле. Гэта вобразны напамінак аб пачатку вайны, аб пачатку барацьбы і выпрабаванняў.

Далей з невялікай уваходнай плошчы пачынаецца «дарога ў партызаны», якая ідзе па гаці праз балота, праз лес. Сцяжынкі, як ручайкі ў русла ракі, сцякаюцца ў адзіны шлях — шлях народнай барацьбы...»

Тэкст і сёння цікава прачытаць, бо і сам ён, і праекты, аб якіх вядзецца, ёсць дакладным і праўдзівым адбіткам часу. У іншым праекце пасярэдзіне пантэона гарыць касцёр на магіле невядомага партызана(!). А то як жа — магіла невядомага салдата каля крамлёўскай сцяны ёсць, то няхай у нас у Беларусі будзе магіла невядомага партызана! Чым мы горшыя? Пампезна, але ж і патрыятычна як з беларускага гледжання.

Прыемна было надрукавацца ў рэспубліканскім літаратурным выданні. «ЛіМ» я ведаў са школьных гадоў, бо бацька мой, Вікенцій Іванавіч, выпісваў гэтую газету, як і «Звязду», з самага пачатку свайго настаўніцтва. Так што я быў дасведчаным у беларускім літаратурным жыцці, чытаў шмат беларускіх кніг. Вабіў гэты свет, адным словам. І чамусьці я ўяўляў сябе паэтам. Магчыма, проста таму, што прыгожа — паэт. Праўда, спробы ў вершаскладанні ў школьныя гады і ў студэнцкія нейкага канкрэтнага плёну не давалі, праблемы былі не са словам, а з рытмам. Але ж архітэктура — таксама найперш рытм! Вось і прарэзалася. Вершы пайшлі на апошнім курсе, якраз падчас працы над дыпломным праектам. Якраз тады акром празаічнай мовы праявілася і паэтычная, што стала галоўным штуршком для паступлення ў Літаратурны інстытут праз два гады пасля політэхнічнага.

**Далей усё залежала толькі ад цябе, гэта я разумеў правільна. Як разумеў адразу, што літаратура – справа мужных, бо пытанне "А каму гэта ўсё трэба?" паўстае, на жаль, часта, і не кожны здольны правільна на яго адказаць**

Натуральна, паўстала пытанне паэтычных публікацый. Я б і не спяшаўся (увогуле, заўсёды вельмі доўга збіраюся), але тут мой Вікенцій Іванавіч падціснуў, каб я даў вершы ў раёнку. Газета мела найменне «Кастрычнік». І вось тут, на літаратурнай старонцы «Узлёт» пад рубрыкай «Дэбюты» 24 чэрвеня 1978 года былі надрукаваны два мае вершы «Папяровыя гарады» і «Патрэбныя словы».

Трэцяя «першая публікацыя» ў Івацэвіцкай раённай газеце «Касрычнік» сапраўды першая як чыста літаратурная з біяграфічнай логікі пісьменніка. Але ж я на той час ужо лічыў сябе сталічным хлопцам — каму пахвалішся публікацыяй у раёнцы? Таму карцела надрукавацца ў сталічным выданні. Гэта здарылася ў «Маладосці», дзе загадчыкам аддзела паэзіі быў Пятрусь Макаль. У той «маладосцеўскай» нізцы ў нумары 4 за 1981 год было чатыры вершы ¬— зноў жа «Папяровыя гарады» (мая візітоўка як пачаткоўца), «Верш пра даўгі», «Аэрапорт» і «...Закруціла. Работы многа». Не сорамна мне за тыя вершы і сёння, і я вельмі ўдзячны за публікацыю светлай памяці Петрусю Міхайлавічу Макалю, а ўскосна і Сяргею Зуёнку, які тады быў галоўным рэдактарам часопіса.

Гэтая чацвёртая «першая публікацыя» ў «Маладосці» была калектыўнай, на старонцы сем фотаздымкаў маладых людзей. Зразумела, мне хацелася, каб вершы былі надрукаваны асобна, але гэта было не ў маёй волі. Як і тое, што першая кніжка сталася таксама калектыўнай («брацкая магіла», як жартавалі пачаткоўцы). Тады, напэўна, меў і крыўды крыху, бо сам адчуваеш сябе сапраўдным паэтам, а людзям пры поглядзе збоку так яшчэ не здаецца...

Зборнік вершаў у серыі «Першая кніга паэта» называўся хораша — «Крыло». Выйшла кніга ў «Мастацкай літаратуры» ў 1984 годзе і складалася з васямнаццаці (!) аўтараў. З іх шмат хто застаўся стала ў літаратуры: Мікола Шабовіч, Алесь Усеня, Уладзімір Сцяпан, Анатоль Зэкаў, Васіль Сахарчук (светлая яму памяць), Яўген Гучок, Алег Бембель.

Мая нізка ў зборніку «Крыло» мела назву «Пяшчотны дотык». Вершаў даволі — цэлы аркуш, па ліку дваццаць дзевяць. Фотаздымак рабіў адмыслова — папрасіў калегу па Дзяржкіно БССР узяць фотаапарат, выйшлі ў стары горад (на маю вуліцу Інтэрнацыянальную) ды зрабілі фотасесію, як сказалі б цяпер. Праўда, у кнізе старога горада як фона не відаць, толькі мой твар з позіркам, скіраваным наперад...

У тым жа 1984 годзе адбылася пятая "першая публікацыя", калі мець на ўвазе адметнасць і своеасаблівасць гэтага выдання, у зборніку "Дзень паэзіі/84", – вершы "Ідылічны матыў" і "...Ветрык. Сонца. Парку цішыня", якому пазней я даў назву "Прадчуванне восені". Зазначу, што выданне "Дзень паэзіі" мне вельмі падабалася, харошая была прыдумка. Друкаваўся там амаль кожны год, зборнік выходзіў яшчэ дзесяць гадоў да свайго скарання.

Заканчэнне ў 1983 годзе Літаратурнага інстытута, зборнік "Крыло" і публікацыя ў "Дні паэзіі" ў 1984-м, ужо літаратурная праца старшым рэдактарам Дзяржкіно БССР падводзілі своеасаблівы пачаткоўскі падрахунак. Далей усё залежала толькі ад цябе, гэта я разумеў правільна. Як разумеў адразу, што літаратура – справа мужных, бо пытанне "А каму гэта ўсё трэба?" паўстае, на жаль, часта, і не кожны здольны правільна на яго адказаць.

*11 чэрвеня Уладзімір Вікенцьевіч Мароз адзначыў сваё 65-годдзе. Шчыра віншуем нашага паважанага аўтара і жадаем яму новых «першых» публікацый!*

# Маё Шчонава



Альжбета КЕДА

**Не адпускае мяне маё Шчонава. Кнігу «Шчонаўскія абразкі» напісала, выдала. А ўсё блукаю па тых сцежках-дарожках, даўно зарослых, занядбаных. Прыходзяць у мае мроі шчонаўцы, якія даўно ці нядаўна на высокім грудзе спачын знайшлі. Згадваецца нешта яшчэ, каб укласціся ў новую вязанку «Шчонаўскіх абразкоў»...**

## Каханне ўсяго жыцця

Мо падумае хто: гэтая раманная назва — ды пра Шчонава, пра ягоных людзей, што ўсё жыццё толькі і рабілі, што выжывалі, працавалі. Так! Гэтая назва пасуе. Бо той шчонавец і сапраўды ўсё жыццё кахаў яе, прыгажуню Маню Дубеняву, што ў Дуброву за Бэха замуж пайшла. Шлюб узяў з іншаю, шматдзетным бацькам стаў, гаспадаром не абы-якім — ганаровым, паважаным. А душа ягоная ўсё жыццё да яе, далёкай, не яму аддадзенай, хілілася. Пачуццё сваё хаваў, ніколі і нікому не выказваў. І ёй, каханай, прызнаўся толькі перад смерцю ёе раннюю. Усё расказаў: як пакутаваў, як не пасмеў прызнацца, як шторазу, ведаючы, што яна дзе-небудзь быць павінна, ішоў у надзеі хоць здалёку ўгледзець. Быццам на споведзі, усё ёй расказаў. А праз колькі дзён яе не стала.

Прыйшоў дахаты ўчарнелы, як хмара. Да жонкі:

— Сталін памёр...

Тая не адказала нічога. Ведала, хто памёр...

Сталіну заставалася жыць яшчэ пяць гадоў.

Той, хто кахаў Маню ўсё жыццё, вядомы ўсім шчонаўцам Уладзімір Таўлуй, Валадзенько.

## Першая ахвяра вайны ў Шчонаве

Ёю стаў малады савецкі салдат. Расстраляны сваімі.

Савецкія войскі адступалі. Ішлі групамі, па адным. У таго салдаціка быў харошы конь. Відаць, не аднаму гаспадару ў вока ўпаў. Падпаілі хлопца, спірту поўна было, з Варончы пананосілі, з бровару. Заехаў ён у хату да Сенніка, там яшчэ дабавіў. Пацягнула няшчаснага на любошчы. Пачаў заляцацца да Ліды Сідаравай, рэвальверам пагражаў. Настаўнік Лесэк, што там апынуўся, раззброіў. А тут якраз іншыя салдаты падышлі, і камандзір між іх. Кінуўся да яго Сідар:

— Я батрак, усё жыццё на паноў рабіў, а ён маю дачку згвалціць хацеў!..

Толькі кіўнуў той начальнік, схапілі салдаціка, рукі назад закруцілі. Уладак Лысы заступіцца хацеў, прасіць таго камандзіра стаў:

— Таварыш, не страляйце яго! Ён жа такі маладзенькі...

— Алі дзе ж там — звярына! — гэта ўжо дачка Уладкава цётка Фаня Лысішына, якая ўсё гэта памятае, каментуе тыя падзеі.

Застрэлілі салдаціка, у грудзі куля трапіла. Кінулі каля капцоў у Мокраве і пайшлі далей. Пахавалі яго батракі там жа, каля капцоў...

Уладак забраў паперы, што ў кішэні гімнасцёркі знайшоў. Прастрэленыя, у крыві. Дакументы там былі, здымкі маці, сястры, лісты ад іх. Спачатку хацеў адаслаць родным, паведаміць, што загінуў хлопец. Але пасля перадумаў. Спаліў усё.

— Ні буду пісаць, ні буду адсылаць. Хай маці ні ведая, хай чакая, — так вырашыў...

Цётка Фаня і сёння з болем згадвае тыя падзеі, са шкадаваннем:

— Шкода хлопца, такога маладога загубілі. Алі ж і сам вінаваты: нашто напіўсё? Нашто да Ліды лез? Ды яшчэ з пісталетам. Гарэлка вінаватая...

## Не мог загінуць!..

Траім маладым кабетам, амаль аднагодкам, што мужоў на фронт у 1944-ым годзе выправілі, праз некалькі месяцаў загадалі ў ваенкамат з'явіцца. З'явіліся. А ім пахаронкі ўручаюць. І тканіну на сукенкі. Шоўк. Дзве ўзялі. А трэцяя,Таня Чычукова, дачка Мікалая Абэлгі, адмовілася:

— Не вазьму. Жывы мой муж! Не мог ён загінуць: сын у яго!

Пахаронку дахаты прынесла: загінуў ва Усходняй Прусіі. І нумар магілы пазначаны.

А праз тыдзень прыйшоў ад мужа ліст, зноў пайшла ў ваенкамат праўду шукаць. Сказалі, што памылка выйшла, жывы яе Мікалай, паранены толькі, у шпіталі ляжаў. І ваенком за тое, што яна так верыла, прапанаваў тканіны болей, чым тым іншым, удовам, далі. Але адмовілася ганаровая Таня Чычукова ад «болей» і ўзяла столькі, колькі ўсім давалі.

Адзіная з тых траіх, што мужа з вайны дачакалася.

## Рубель

Вялікія грошы ў пачатку 1960-ых гадоў. Пенсія ўсяго дванаццаць была. А бохан хлеба дванаццаць капеек.

Вось жа, дала мама адной малой шчонаўцы цэлы рубель. Бо дробных грошай якраз у хаце не было, а ў райчанскую краму халву прывезлі. Няблізкі свет. Ісці адной не вельмі файна. Сказала дзяўчынкам суседскім, што ў Райцу збіраецца. І рублём пахвалілася. Тыя з ёю падра́дзіліся.

Толькі калі ў ядлавец увайшлі, зразумела малая, чаму правесці яе ўзяліся: накінуліся выжлы, быццам крукі, рубель той забраць хацелі. Але так моцна трымала малая свой скарб у сціснутым кулачку, што як ні стараліся, як ні расціскалі пальчыкі, вырваць грошы не змаглі. Мёртваю хваткаю трымала.

Кінулі яе «сяброўкі», дахаты вярнуліся. Ды дзяўчынка ў Райцу ўсё ж такі трапіла...

А рубель, вярнуўшыся, маме аддала, бо пакуль да крамы дайшла, халву разабралі.

## Не ўпільнавала

Яблыкі. Белы наліў. Раннія, налітыя, смачныя-смачныя. Мала ў каго ў Шчонаве добра радзілі. А дзяцей, падлеткаў, моладзі ў кожнай хаце поўна было. Усім яблыкаў хочацца. А сваіх няма. Таму не праміналі магчымасці чужымі паласавацца, у сад убіцца. Не лічылася гэта за страшны грэх.

Вось жа, у Ліды Абэлгавай якраз і ўрадзіла тым летам яблыня. Вельмі не хацела гаспадыня свае смачныя яблыкі страціць. Вырашыла вартаваць. На вуліцы стаяў стары жалезны ложак. Прылегла на яго. І заснула. Зразумела ж, стомленая была страшэнна, бо цалюткі дзень у цяжкай працы, ні прылегчы, ні прысесці. Адна, без мужыка, траіх дзяцей падымала.

Маладыя хутаранскія жартаўнікі Валодзя Пэкар і Валодзя Аляксандраў вырашылі правучыць кабету. Занеслі яны яе разам з ложкам у Зямчатку і пакінулі ў бродзе.

Прачнулася Ліда, а вакол яе вада цячэ. Спалохалася, закрычала. Зразумець не можа: што ж гэта робіцца, дзе яна?!..

Многае дзівіць у гэтай гісторыі. Гэта ж трэба, што прыдумалі? А дужыя якія! Праўда, напрасткі ложак з Лідай неслі, праз раўкі. Але ўсё роўна з кіламетар будзе. А сон які ў жанчыны моцны! Не прасnуцца, калі на ложку нясуць.

Не ўпільнавала Ліда свой белы наліў...

## Чычук багаты

Не ўзлюбіла Кацярына Барывана свайго райцаўскага зяця Аркадзя Чычука. Яе Зіна такая харошая, вачэй не адвесці. А Чычук брыдкі, губаты. А тут яшчэ жыць на пачатку разам давялося. Сыйдуць маладыя на працу, а цёшча ўсё бубніць на зяця, злосць наўздагон зганяе. Малая ўнучка Таіса слухае ды дзівіцца сама сабе: «Што гэта бабуля ўсё шэпча: Чычук багаты, Чычук багаты?..» Ды так ёй засмакавала тое незразумелае багаты (так слова малеча перайначыла), што ходзіць яна па вуліцы, і ўсё паўтарае:

— Чычук багаты, Чычук багаты...

Вечарам бацькі з працы вярнуліся, за сталом усе, вячэраюць. А малая і тут выдае сваё:

— Чычук багаты.

Застылі ўсе, зяць чырванню наліўся. Малая зыркае і зноў заводзіць:

— Чычук багаты...

Павярнуўся да яе бацька ды — лясь па губах. Зайшлася Таіса ў плачы. Бабуля суцяшаць кінулася, на зяця наракаць:

— Во бачыш які ты, зяцёк!.. Як гэто можно — малоё па губіць біць?..

А дачка да яе:

— Гэто ж табе, мамо, па зубах трэба было даць...

## Дзеці настаўніцы

У Шчонаве не было садка. Ніколі. За ўсю немалую гісторыю вёскі. Як гадавалія дзеткі? Глядзела мама, дапамагалі бабулі.

— А што яна робіць? Нічога: з дзіцём сядзіць, — так казалі пра самую вялікую працу, якую спаўняе жанчына ў сваім жыцці: нараджае і гадуе дзяцей. Калі яны пачыналі хадзіць, то ўжо былі дарослымі. Іх можна было выпусціць у адных кашульках летам на вуліцу: хай гуляюць. Сядзела старая бабуля, наглядала. І гэтага было дастаткова. А ў шчонаўскай настаўніцы, якая мусіла праз два месяцы быць на працы, не было блізка мамы, што магла б дапамагаць, глядзець дзетак. Гадавала няня. А дзеці пагодачкі. Калі падраслі, ім было па тры-чатыры, чатыры-пяць гадоў, яны ўжо давалі рады сабе самі і летам няблага спраўляліся, а нават ужо ў нечым дапамагалі маме. А зімой, калі мароз, холад, калі пакідаць іх адных у хаце не магла і выпусціць адных, каб яны хадзілі па марозе, баялася, брала дзяцей у школу. Яны прыходзілі, як усе вучні, і рабілі тое, што ўсе дзеці. Пісалі, чыталі, малявалі. Не памятаюць нават, калі чытаць навучыліся. Як да школы хадзіць пачалі. Недзе пасля чатырох гадоў.

Аднойчы ў школу завітаў інспектар. Зрэшты, яны завітвалі неадночы. Былі частымі гасцямі. Тым разам нейкі незнаёмы мужчына, здалёку, не з раёну. Настаўніца хуценька паклікала сваіх дзяцей. Апранае ім палітончыкі, дзяўчынцы завязвае хустку, хлопчыку апранае шапку. У калідор выходзіць інспектар і пытаецца:

— Што гэта Вы робіце? Куды Вы іх збіраеце, зараз жа пачынаецца ўрок?

Настаўніца бянтэжыцца. Яна апускае вочы долу і кажа:

— Гэта мае дзеці.

Яна разумее, што парушае працоўную дысцыпліну.

— І куды Вы іх адпраўляеце?

— На вуліцу, хай ідуць гуляюць.

— І што, ваша сэрца будзе спакойным, калі дзеці будуць адны хадзіць па марозе? Няхай ідуць у клас.

Яна толькі ціха прамовіла:

— Дзякуй...

Інспектар сядае побач з дзяўчынкай. Назірае за ёю, як піша, чытае. Настаўніца не выклікае сваіх дзяцей, не звяртаецца да іх. Як заўсёды. Дзеці здаюць сшыткі, і яны таксама. Іх сшыткаў яна не правярае. Яны ўжо не маюць на тое надзеі. Калісьці крыўдзіліся, а цяпер разумеюць: у мамы столькі працы, што іх сшыткі яшчэ пачакаюць. Іх сапраўднае школьнае жыццё яшчэ наперадзе. Але робяць усё па-сапраўднаму.

Апошні ўрок маляванне. Вучні малююць пейзаж. Маляваць прыроду — улюбёны занятак дзяўчынкі, якая вельмі любіць кветкі. Кветкі зімою не растуць, таму яна малюе лес, дрэвы, засыпаныя снегам. Ёй вельмі хочацца намаляваць зайчыка пад елкай, а зайчыкаў маляваць яна не ўмее. Пачынае маляваць нешта падобнае больш на ката, чым на зайчыка. Інспектар уважліва глядзіць на яе малюнак. Яна бянтэжыцца, атрымоўваецца яшчэ горш. І тады ён бярэ яе алавічок і дамалёўвае зайчыка, які атрымоўваецца бы жывы. Дзяўчынка радуецца.

Яна не ведае, што гаварыў інспектар настаўніцы. Дзеці ідуць дахаты, каб чакаць маму. Інспектар праводзіць разгляд урокаў. Маму заўсёды хвалілі. Яна была старанная, добрай настаўніцай. Дзеці шчонаўцы і сёння памятаюць яе. Давала добрыя веды. Яе выпускі ў Райцы вылучаліся між выпускаў з Дубровы, Плужынаў.

Вечарам маці расказвае бацьку пра візіт інспектара, пра тое, як ён захапляўся ведамі яе малых дзяцей. Асабліва здольнасцю дзяўчынкі маляваць. Сказаў, што яна можа быць мастачкай. Дачцэ гаворыць тое, што гаварыла неаднойчы:

— Ніякай мастачкай ты не будзеш. Хто цябе будзе вучыць?.. Але ён цябе пахваліў.

Яе дачка мастачкай не стала...



# Неба прыйшло на зямлю…



Васіль ЗУЁНАК



* * *

*Заспявалася,*
*Як згадалася,*
*Адгукнулася,*
*Як пачулася,*
*А змаўчалася…*
*Як падумалася.*

* * *

*Выбар вялікі,*
*А пэўнасць адна, —*
*Тут не разлікам*
*Шана і цана,*

*Тут сэрцу мерак*
*Не дадзена знаць:*
*Богу — верыць,*
*Жанчыну — кахаць!..*

### Прышэсце

*Сонечнай радасці крэскі*
*Веснянь крыло матылю,*
*Сведчаць на ўзлеску пралескі:*
*Неба прыйшло на зямлю!..*

* * *

*Даўно такога не было:*
*Пад яблыняй — сумёты.*
*З пялёсткаў снегу намяло,*
*А вулей спеліць соты.*

*Даўно пчаліную гурму*
*Так не шчадрыла квецень:*
*Абвесніў мёдную зіму*
*Рой — і сабе, і дзецям.*

### Наваселле

*Купіў лесавік — і танна! —*
*У чэрвеня новы дом:*
*Без сцен, без вакон — паляна —*
*Дыхае цёплым святлом.*

### Начлежны світанак

*Белы конь, як белы туман*
*Пад чырвонаю грывай зары,*
*І ў кашах сунічных палян*
*Лета выспеленыя дары.*

*З імі ў згодзе й прасмолены бор:*
*Коціць водар на паплавы.*
*Дагарае начлежны касцёр,*
*Уступаючы сонцу правы.*

### Старога парка жыхары

*У атачэнні ліп і клёнаў,*
*Пад іх наглядам векавым*
*Дрэў маладых квітнеюць кроны,*
*На завязь песцячы правы.*

*Ланіты раніцы абвеяў*
*Галінкай яблыневай сад,*
*Як у руцэ паненкі веер*
*Пад сонцам трыста год назад.*

*І тым, хто сёння маладзее,*
*І тым, з вякамі на кары, —*
*Усім вясну пароўну дзеляць*
*Старога парка жыхары…*

### Настальгічны матыў

***Валі***

*«Купіце фіялкі!*
*Купіце фіялкі!» —*
*Спяваў патэфон.*
*А ў памяці даўкай,*
*А ў памяці даўкай*
*Той голас, як сон.*

*Заела пласцінку,*
*Заела пласцінку, —*
*Збіваецца круг.*
*А голас — націнкай,*
*А голас — націнкай:*
*Амаль што заглух…*

*Ды сонечным раннем —*
*Як выклік паданням —*
*На Лысай гары*
*З-пад рук тваіх дбайных*
*Зляцела з гайданнем*
*Сто кропель зары.*

*Як неба прыветнік,*
*Размаіўся кветнік:*
*Цюльпаны цвітуць!*
*Праз вёсны і леты*
*З пласцінкі тандэтнай*
*Той голас нясуць.*

*«Купіце фіялкі!..»*
*А сонечны ранак*
*Ідзе нагадаць:*
*Не ўсё адспявана —*
*Квітнеюць цюльпаны, —*
*Навошта купляць!..*

* * *

*А мне ўжо «энны» дзясятак, —*
*І гэта не трыццаць тры!.. —*
*А ўсё малады, незаняты*
*Гняздуецца чорт унутры.*

*І носіць вясновыя ласкі*
*Асенняя золь у душу,*
*І лета само, без падказкі,*
*Прыходзіць, хоць я не прашу.*

*Аднак, не спяшайце лякацца,*
*Старэчых не тузайце сноў:*
*Віноўніца ўсіх правакацый*
*Адна і нязменная — зноў!..*

*Такі ўжо ў яе характар,–*
*А я — пра яе, пра яе:*
*Гэта паэзія раптам*
*Завалу гадоў узарве.*

*І што з ёй рабіць? «Глуповатой»*
*Сам Пушкін яе ахрысціў…*
*А мне ўсё ж «энны» дзясятак…–*
*Паэзія, адпусці…*

### Надпіс на кнізе «пісьмы з гэтага свету. 1995»

*Лістоў лянотна не пісаў —*
*Разборак і паклонаў сумесь,*
*Паціху рыфмы выкрасаў —*
*І тым трымаў са светам сувязь.*

*З канвертаванай мітуснёй*
*Паштовых не ганяў кур'ераў.*
*Не-не, я не лічыў хлуснёй*
*Лісты, ды болей вершу верыў.*

*З начнымі думамі яго*
*Я адпраўляў да адрасатаў —*
*І да сяброў, і да багоў,*
*І перад кім быў вінаваты…*

*Цяпер шкадую: што ж, стары,*
*Век звекаваў, лічы, сам-насам,*
*І для архіва не стварыў*
*Эпісталярнага запасу.*

*І толькі верш, бяссонніц брат,*
*Зрэдзьчас ці кпіць, ці суцяшае:*
*«Як апраўдацца нам? Наўрад*
*Скажу, бо й сам таго не знаю…»*

### Перад вечнасцю

*Пакуль жыву, пакуль жывыя вы,*
*Ва ўсіх у нас адсутныя правы,*
*Ва ўсіх у нас падсудныя хвіліны:*
*Душу спытае вечнасць за правіны.*

### Зямное і нябеснае

*З часам раблюся ўсё больш зямны:*
*Слухаю не сілы касмічныя,–*
*Хіба мацней, хто скажа, яны*
*За сілу зямную?*
*Не вечнасцю час адлічваю,*
*Ды касмічна шчырую:*
*Дзве-тры вечнасці —*
*І не меней —*
*За адно зямное імгненне*
*Космасу ахвярую.*

*А на зямлі раблюся ўсё больш нябесны,–*
*На зямлі — цесна.*
*Слухаю не ўдары сарака саракоў*
*У адліткі славы пудовыя.*
*Не шукаю скрынку цвікоў,*
*Каб будаваць палацы лядовыя.*

*Ні найдзюкоў,*
*Ні кансерватараў,*
*Ні бальшавікоў,*
*Ні завадатараў,*
*Ні тылавікоў,*
*Ні ліквідатараў-*
*Сілавікоў… —*

*Усе і ўсё —*
*Нібы камень на дно.*

*А са мной*
*На арбіце зямной*
*Застаецца адно:*

*Слухаю ўдары сэрца свайго*
*Маленькага, —*
*О, не знаць бы, што ўсё гэта ў ім*
*сабранае! —*
*І нябеснае, і зямное… —*
*Колькі ў ім усяго-ўсяленькага…*
*А яно ўсё ідзе —*
*Не з жабрацкай кавенькаю,*
*На сардэчнасць не абабранае,*
*Не засіленае маною,*
*Ідзе —*
*Не трымціць па-рабску каленькамі*
*Перад уладнаю брамаю,*
*Ідзе —*
*У саюзе са мною.*

*Веру, сэрца, табе —*
*Ты знаеш:*
*Колькі ў мары маёй магіл,*
*Столькі згублена светам дарог…*
*Ты — зямны мой бог*
*І малітва мая зямная, —*
*Я ўсё табою напоўню,*
*Дзе разрывае вечнасць кругі,*
*І на шляху крыжавым,*
*Зноў і зноў я табе напомню*
*Пра зямныя мае даўгі:*
*Іх цяжар не пакінь жывым.*

### Дыялог

*Жыццё:*
*— А мне ўжо — ці круць, ці верць —*
*Ісці пад тваё крыло.*
*І што б ты рабіла, смерць,*
*Калі б жыцця не было?*

*Смерць:*
*— Запомні: я адбіццё*
*Тваё ў зваротным канверце.*
*І ці было б жыццё,*
*Каб раптам не стала смерці?..*

### Сучасныя

*Да багоў днём і ноччу*
*Абіваюць парогі:*
*На зямлі быць не хочуць,*
*А ў нябёсах — не могуць…*

### Ахова

*Купіла жаба купіну*
*Ў самотнага вужа.*
*А тое, што ўжо куплена,*
*Пазначыла мяжа.*

*Ахова на валоданне*
*Бусліная прыйшла,*
*І жаба ўзнагародаю*
*На снеданне была…*

### Закурвае д'ябал…

*Народ даканала «чарка і скварка»:*
*Співаюцца людзі;*
*Палітыкаў корміць ідэйная сварка:*
*Платформаў студзень;*
*Натхняе творцаў надзея-махлярка:*
*Дух у аблудзе;*
*Аскетаў знявервае догма-святарка:*
*Бог бога судзіць…*

*Закурвае д'ябал пацехі цыгарку:*
*Весела будзе!..*

# Нацюрморты майго



Вольга РОПАТ

**Белы кубачак з бутаньеркай (летні эцюд)**

У кожнага ёсць «свае» рэчы. З кожным дотыкам яны пачынаюць дыхаць. Жыць.

І ў мяне таксама ёсць «свае» рэчы. «Ранішнія», «вячэрнія»... «восеньскія», «летнія»...

Шторанак — у кожнага з нас новы настрой. Ад чаго ён залежыць — невядома. Ад надвор'я, ад сну... Не ведаю. Часцей за ўсё мы, як ледзь ажыўленыя скульптуры з адчуваннем адзіноты, смутку, наліваем у свой кубачак гарачае пітво. Мой белы кубачак апёкся. Ён дыхае ўсё часцей, часцей... Шэранькі дымок пачынае танчыць. Фу— уууу... Фу— уууу. Гэтай восенню я чамусьці палюбіла какаву. Цёплае, па— свойму мяккае...

Самае цікавае: па кубачку можна здагадацца, каму ён належыць. Падкажа не толькі памер і малюнак, але і след вуснаў... Пасля дзяўчынак застаецца непрыкметная сарамлівая ружовая плямка, пасля жанчын — бардовыя ці колеру морквы ўпэўненыя адцені. Кубак — прадмет гасцінны. Ён рады ўсім, хто напоўніць яго цяплом і «растопіць» халодны абадок.

*Пустэча адзіноты яго запаўняе,*
*Квадратная лямпа лашчыць святлом.*
*Кубачак белы ранак чакае,*
*Чакае... Хто будзе з ім за сталом?*

Ранішнія праменьчыкі лашчаць акенца. Праз паўпразрыстыя кветкі на цюлі яны прасочваюцца ў кватэру, быццам хочуць з'яднацца з маім сонным сілуэтам. Прыемныя ранішнія імгненні, калі жанчына з цёплай, ледзь бачнай, патаемнай усмешкай адчувае абдымкі юных праменняў.

Белы кубачак з бутаньеркай чакае мяне, чакае маіх абдымкаў. Ранішнія праменьчыкі ўжо аблізнулі светлы абадок. Яшчэ ўвечары паставіла кубачак насупраць акенца, каб вэлюм святла пакінуў след пачуццёвых пацалункаў — блік.

Раніцу першага дня лета вырашыла зрабіць мятнай, духмянай, жаўтавата-зялёнай. Кубачак здзіўлены — танчыць цень, стаіўся рэфлекс, самаўпэўнена паглядае блік. Ён адвык ад прыемнага, зеленаватага напаўнення. Гэта мой падарунак. Насыпала лісцікаў мяты. Лісточкі, як тэатральныя актрысы, напудраныя, са сціплым водарам парфумы.

Праз акно падзьмуў лёгкі, ледзь чутны халадок: цюль засаромеўся (адышоў убок). Ажывіўся шэры з адценнем блакіту рэфлекс на белым кубку, і я адчула ў гэтае імгненне, што адбылася патаемная размова.

Кубачак ажывіўся. Наліла кіпень — ускочылі, быццам папрыгунчыкі, лісточкі. Здаецца, зялёныя багіні спрабуюць датыкнуцца да абадка. Лыжкай— чарапашкай «утапіла» іх жаданні. Зеленаваты цыліндр аддае спакойны водар — непаслухмяны, звілісты дымок павольна лунае ў паветры кватэры. Ад мятнай вадкасці кубачак з ружовымі кветкамі расслабіўся. Томнае, знясіленае лісце мяты ляжыць на дне, аддаўшы свой колер і водар кавалеру з ружовай бутаньеркай.

Ранішнія прытарныя праменьчыкі, быццам набрыняўшы лімонным сокам, настойліва прасочваюцца скрозь дзіркі на цюлі, — святло і цень адхапілі сабе месца на шурпатай сцяне. Прыпякае. Белы кубачак з ружовымі кветкамі таемна слухае жоўта-зялёны водар...

Сяджу за сталом каля акна — трэба напісаць матэрыял. Дваццаць трэцяя раніца вясны выдалася вохрыста-блакітнай: жоўта-арэхавы пясок мяжуецца з травой бутэлечнага колеру (здалёк здаецца, што гэта балоцістыя мясціны), голыя таліі дрэў. Яны старанна цягнуцца не да схаванага ў пярыне аблокаў сонца, а да металічнай шэрай нагі-ліхтара, каб перарасці «ненатуральнае» святло. Рабрыстыя аблокі навісаюць над дахамі; чым далей ад мяне, тым яны ўсё святлей. Пагляд аю на неба, і здаецца, што яно шурпатае, як акварэльная папера. На ўзроўні маіх вачэй працягнулася далікатна-блакітнае крыло анёла. Вось дзе пачынаецца ўсё светлае і прыемнае.

Але я не пішу. Сяджу і пагля даю на неба, як малое дзіця. Жоўтае люстэрка ў выглядзе сонца адвярнулася ад мяне — пазірае ў акно, быццам зазывае мінскае бляклае сонца. А мой белы кубачак з ружовымі кветкамі не зводзіць з мяне свайго пагляду і напаўняе пакой пахам зялёнай мяты. Адвярнулася ад аблокаў і зірнула на кубачак: гэта не гарбата з зёлкамі, гэта бледна-фісташкавы паўпразрысты цыліндр спакою. У ім уверх і ўніз — скача распраўленае лісце. Узяла лыжку-чарапашку, зрабіла тры кругавыя рухі — і лісце зноў тан-

# Беспрынцыповы



Тацяна КАРЫТКА

— І не сорамна табе?

— У сэнсе... сорамна? Я, мабыць, ідэйны. Ці я не плакаў, калі глядзеў «Плошчу»?

— Так, плакальшчыкаў у гэтай краіне хапае і без тваёй хітрай морды.

— Вось гэтых несправядлівых абвінавачванняў не трэба! Ну, пісаў па- расейску, размаўляў таксама, дык мяне ў школе толькі таму і навучылі! Гэта вы тут у Менску такія, прасветленыя. А ў нас, у Магілёве, гэта было не ў трэндзе. Атрымаў бы пару разоў па мордзе, і не стала б вялікага пісьменніка. Каму б ад таго лепей было?

— Вялікі пісьменнік не прадаецца за трыццаць срэбранікаў.

— Яшчэ як прадаецца! Нечага тут гарадзіць вакол асобы пісьменніка нейкія хлуслівыя агароды! Ён перш за ўсё правадыр мастацтва, а мастацтва маральным не бывае; за гэтым, калі ласка, да каментатараў у Інстаграме, там усе высокамаральныя ды вечна абураныя чужой разбэшчанасцю.

— А, чорт з табой! Тады хаця б слоўнік купі.

— У мяне ёсць адзін.

— На дзесяць тысяч слоў?

— Мне больш і не трэба. Вунь музыкі на сямі нотах сімфоніі пішуць, хіба я горш?

Тым не менш, слоўнік на ўсялякі выпадак Косця купіў. Ліха яго ведае, можа, спатрэбіцца дзеля натхнення.

Усё пачалося з Яны (сам Косця да такога жаху не дадумаўся б), калі тая вырашыла выдаваць часопіс для таленавітай, сумленнай моладзі. Само сабою, на беларускай мове (на рускай хай там у сваёй Расеі выдаюць). І стукнула Яне ў галаву, што Косця ў гэтым часопісе павінен весці калонку. Нібыта Сара Джэсіка Паркер, хіба што горад паменш. Калонка, як прынята, ні пра што, нейкая балбатня «за жыццё», з якой Косця справіцца, як ніхто іншы, ці дарма ў дыпломе напісана, што філосаф. Вось хай і філасофствуе.

Зразумела, на беларускай мове.

Косця спачатку адмовіўся.

— Ну які з мяне беларус! Я толькі ў чатырнаццаць гадоў сюды пераехаў, я да гэтага года слова «Часопіс» чытаў з націскам на апошні склад, у мяне нават і беларускага пашпарта няма!

— Гэта ўсё глупства! — адмахвалася Яна. — Дзяўчат беларускіх любіш?

— Вядома, люблю, — зніякавеў Косця.

— Значыць, і па-беларуску загаворыш! Тут галоўнае — практыка. Ніякай рускай мовы з гэтага часу. Гавары, пішы, чытай, выключна па-беларуску. Праз два тыдні чакаю ад цябе першы артыкул.

**Усе будуць маўчаць, і толькі потым, недзе там, у сваім куточку, падзеляцца вядомым позіркам ці іранічным шэптам. Хочаце верце, хочаце не, Бог выгнаў людзей з Раю, калі яны пачалі іранізаваць»**

Косця і рады быў адмовіцца, але ж у той час знаходзіўся на вяршыні магчымасцяў свайго чарговага кахання. З такім запалам можна і ў космас на веніку паляцець, не тое, што там нешта па-беларуску накалякаць.

— І апошняе, — дадала Яна, развітваючыся. — Часопіс будзе з невялікім ухілам у фемінізм. Не палохайся, ад цябе ніякіх асаблівых тэм не патрабуецца, пішы, што хочаш, але... ну быццам ад імя жанчыны.

І Яна шматспадзеўна пацалавала яго ў вусны.

***Дзённік Косці Арлова*** *(заведзены ў тым самым сшытку, дзе ён спачатку канспектаваў К'еркегора, пасля адпрацоўваў розныя шрыфты на семінары па каліграфіі, пасля пісаў вершы, а ўсе палі якога, тым часам, абпісаны бездухоўнымі «хлеба, макароны, пластыр»)*

*Паставіў беларускую раскладку (і куды яны дзелі «у нескладовае», а вось!), абклаўся Караткевічам, як бабуля абразамі. Самому смешна. Які ты пісьменнік, калі ўчора хвілін на дзесяць заліп на слова «разбэшчаны». І так яго круціў, і гэтак; якое ўдалае слова, ці не напісаць пад яго апавяданне? Сорамна толькі будзе перад нашчадкамі, яны ж пазнаходзяць потым такія другія ці трэцця сэнсы, што вочы на лоб палезуць. А разбэшчаныя, скажуць, было лішняе. Лепш было б сказаць — «юрлівыя». Ага, калі б аўтар на той момант ведаў такое слова.*

*Наступны сказ павінен быў пачацца са слова «Забавно», але, глядзі ж ты, няма ў руска-беларускім слоўніку такога слова. Можа, дрэнны слоўнік, ці, можа, беларусам не бывае «забавно», а ўсё больш балюча ды прыкра, не ведаю.*

*Дарэчы, праблема. Як можна сур'ёзна пісаць апавяданне, калі кожнае слова разглядаеш як цацку? Вось гэта, думаеш, гучнае, цікавае, падобнае на французскі аналаг, а другое — не, нейкая сялянская лексіка, а я ж хацеў гучаць па-сучаснаму! І пакуль гэтыя думкі туды-сюды бегаюць, накрылася мядніцай сюжэтная лінія. Ну добра. Не за дзень Вільня станавілася. Нездарма ж купіў слоўнік, га?*

*03.01.2018*

— Ну што, напісаў? — спыталася Яна ў дамафон.

— Так, адчыняй хутчэй!

Шчаслівы Косця, пераскокваючы праз прыступкі, узляцеў на трэці, дзе ўрачыста перадаў Яне букет і флэшку. З парога палез цалавацца, нават паспеў запусціць рукі пад блузку, але Яна незадаволена адхілілася.

— Спачатку справа.

— Ну... справа, дык справа, — расчаравана ўздыхнуў Косця і папёрся ўслед за Янай. У наступны раз будзе выбіраць менш апантаных дзяўчын.

**Артыкул Першы. Цяжка не зайздросціць экстравертам**

«Калі і былі ў дзяцінстве нейкія ўрокі, на якіх вучылі, як завязваць лёгкія, добразычлівыя адносіны з іншымі людзьмі, то я іх паспяхова прапусціла. Магчыма, хварэла. Шкада, бо без гэтых ведаў уладкавацца ў сучасным свеце цяжка. Тым больш, па натуры я хутчэй экстраверт, і ў нейкім сэнсе нават цягнуся да людзей, але раблю гэта так нязграбна ці няўмела, што сустракаю ў адказ адны напружаныя, насцярожаныя позіркі. Мабыць, нешта ў маёй манеры выдае, што я з іншай пясочніцы, але дзе яна, мая? Дзе водзяцца такія ж адшчапенцы, што і я? І ці спадабаюцца яны мне навогул? Ці не пагляджуся я ў іх, як у люстэрка, з думкамі «Ну і дзівакі?»

Давайце ўжо прызнаемся разам: з людзьмі цяжка. Асабліва — з добра выхаванымі. Паспрабуйце па позірку, па секунднай змене ў твары, па непрыкметна наморшчаным носе зразумець, што яны падумалі насамрэч. Нярэдка, да крыўднага нярэдка, вось так ляпнеш што-небудзь, і чуеш у адказ няспрытную, ці нават абураную цішыню. І думаеш: ды што не так?! Не, вы скажыце, мы абмяркуем. Але ніхто не скажа. Усе будуць маўчаць, і толькі потым, недзе там, у сваім куточку, падзеляцца вядомым позіркам ці іранічным шэптам. Хочаце верце, хочаце не, Бог выгнаў людзей з Раю, калі яны пачалі іранізаваць».

Тут Яна спыніла чытанне.

— Так, гэта ўсё, вядома, добра, але нецікава... Засне твой чытач над такім артыкулам. Трэба дадаць агню, гневу, ну ці мне цябе вучыць! Напрыклад, напішы што-небудзь пра маці.

— І да чаго тут будзе маці?

— О, гэта ўжо няважна! Пра маці ў цябе заўсёды выходзіць добра, шчыра, шчымліва. У кожнага ёсць маці, кожны зразумее. А вось гэтыя дэпрэсіўныя соплі нікога не хвалююць.

— Яны хвалююць мяне.

— Тады пачытай Карнэгі! Схадзі да псіхатэрапеўта. Ды і я ўпэўнена, што яно табе насамрэч не трэба. Прыдумаў сабе вобраз незразумелага паэта і носішся з ім, як дурань з торбай.

Косця абыякава пацінуў плячыма. Трэба табе маці — калі ласка.

**Артыкул Першы. Цяжка не зайздросціць экстравертам.**

***(Працяг, звязаны з папярэднімі думкамі выключна жаданнем хутчэй перайсці да рамантычный часткі спаткання)***

# ЖЫЦЦЯ

чыць (а можа, карагодзіць, — хто ведае?) вакол белых сцен, потым мякка апускаецца да насычанага донца. Люблю свой кубачак за тое, што ў ім ажываюць пахучыя зёлкі. Яму ўтульна тут, каля мяне. Калі стаўлю яго ў шафу з іншымі кубкамі і зачыняю навясную драўляную скрынку, ён пачынае сарамліва глытаць цёмнае паветра. Сцены ціснуць на яго, ён адчувае пустэчу і адзіноту…

Мой белы кубачак ненавідзіць празрысты кубак за тое, што ён не мае колеру. Ледзі Ніхто. А што, калі гэтая празрыстасць толькі пачынае жыць? Можа, яна чакае, каб яе напоўнілі? Мой герой абыходзіць кубак з надпісам «Cappuccino». Надпіс ёсць, а «напаўнення» няма. Мой белы кубачак раўнуе мяне да астатніх…

### Жоўтае адлюстраванне

У кожнага з нас ёсць свае рэчы— сябры. Мы так прывыклі да іх, што іншы раз ужо не звяртаем увагі на тое, што менавіта яны ніколі не перасяляюцца ў іншыя куткі нашай кватэры. Новы прадмет — як кватарант: трапіў у новы асяродак… не ўтульна яму. Вось і пераходзіць з месца на месца. А нашыя родныя рэчы заўсёды побач, мы іх нідзе не забываем…

Вось і са мной заўсёды пераязджае жоўтае люстэрка на тонкай бялявай ножцы. Мне яго падарылі яшчэ ў родным Мазыры на дзень народзінаў, а цяпер яно пазірае ў акно на мінскую светлую вуліцу. Кожную раніцу яго жоўценькі ў выглядзе кветкі абадок аблізвае, лашчыць востры сонечны прамень. А люстэрка з вечара рыхтуецца да сустрэчы: выпростваецца і падстаўляе круглы тварык. Мабыць, рэпетуе. Люстэрка ўжо немаладое, згінаецца час ад часу, ад чаго яго твар часта апускаецца ўніз. А мне шкада. Мы столькі разоў пераязджалі… і я ніколі не забывала яго, не шукала замену.

А цяпер 7:22. Люстэрка атаграецца пасля халоднай ночы, ловіць праз цюль з кветкамі і жоўта-малочную штору сонечны свет. Ранішняе святло цёплае… Яно яшчэ чыстае, не кранутае. Гэта як першае каханне. Раніцай люстэрка заўсёды вельмі прыгожае; здаецца, быццам бы кожны дзень нанова гатовае закахацца ў маладое сонечнае святло… А ўдзень ужо бавіць час са мною. Калі ў яго няма настрою (звычайна гэта восенню і зімою) ці яно не хоча мяне бачыць (пакрыўдзілася) — твар вісіць. Люстэрка ў мяне капрызлівае, з характарам. Да яго патрэбен асаблівы падыход. Я некалькі хвілін яго супакойваю і стараюся падняць настрой.

*Жоўты свет — белы блік*
*На круглым люстэрку.*
*Ён прыціх. Светлы твар*
*Пaглядае праз цюль.*
*Раніца. Першы абдымак…*
*Жнівень.*
*Святло.*

### Малочная прыгажуня

Гэтая ваза малочная… Як быццам майстар, калі рабіў яе, у апошні момант вырашыў дадаць лыжачку мёду, але не такога яскравага, аранжава-карычневага, зацукраванага, а прыемнага: жаўтавата-малочнага, мёду, які яшчэ не выкупаўся ў промнях пяшчотнага ранішняга сонца, яшчэ не паспеў насыціцца — пажаўцець.

Але за той час, пакуль я яе разглядала, яна зрабілася для мяне роднай. Яна ціха стаіць на сваім месцы, пасярэдзіне століка, як гаспадыня, бо назірае за іншымі рэчамі ў кватэры. Ваза адразу мне спадабалася. Бывае, думаю, што засталася тут, у гэтай кватэры, таму, што закахалася ў яе. У гэтыя жаночыя, плаўныя, абцякальныя формы, невялічкі памер і колер, які зрэдзьчас нагадвае мне родны дом, мой цёплы Мазыр і пухнатыя, духмяныя булкі з карыцаю з крамы «Каравай».

Ваза мне здаецца заўсёды вясёлай і стрыманай. У сонечны дзень яна зліваецца са святлом, плоскімі круглымі «зайчыкамі» ад люстэрка, у шэравата-празрысты дзень — выглядае як радасная, прыгожая постаць, зацікаўленая ў маім настроі. Яна таксама штосьці думае, адчувае… Але што?

Яе плаўныя выгіны нагадваюць мне добрую, спакойную жанчыну ў сукенцы з кветкамі і салодкімі мядовымі, аліўкавымі ўзорамі. Светлую, з доўгімі валасамі, блакітнымі вачыма, у якіх блішчыць маленькая, ледзь бачная слязінка. Ад радасці, мабыць. Даўгія блікі толькі падкрэсліваюць яе жаночы стан, тонкую талію…

Сёння ваза назірала за мною. Калі ўбачыла, што пішу пра яе — узрадвалася, падміргнула мне (штосьці хуткае праляцела за акном і на паўсекунды адлюстравалася ў вазе). Ваза падказала, які водар ахутвае яе. Цёплы ванільны, пах свежых булак і малака. Ён нагадвае яе дзяцінства. Гэта пяшчотнае, здаецца, летняе і «цёплае» адценне водару.

Каб не было ёй сумна, пазнаёміла з травамі— дзяўчаткамі, якія штодзень апускаюць тварыкі, каб сказаць ёй некалькі прыемных слоў. Бывае, яны гуляюць з вазай: дакранаюцца сваімі пухнатымі косамі да яе шыі… Ім весела. І мне ад гэтага радасна.

*Стаіць адзінокая ваза,*
*Глядзіць яна ў акно…*
*Плаўныя формы здзіўляюць,*
*У водары смачным яны*
*Прападаюць…*

«У дарослым жыцці часцяком не хапае ванны.

Памятаю, калі была маленькай зубрылкай з жыдзенькім хвосцікам валасоў на патыліцы, ніяк не магла выправіць шасцёрку па біялогіі. Шасцёрка ў маёй маці за адзнаку не лічылася. Шасцёрка была першай прыкметай майго хуткага падзення ў галечу і невядомасць. І вось, пасля чарговага беспаспяховага перапісвання нейкага тэста, я прыцягнулася дамоў, з панурым разуменнем, што дома нічога добрага мяне не чакае.

— Ну што? — запыталася маці з кухні.

Я ў той час ціхенька стаяла ў калідоры і здымала боты. Маўчала. А што гаварыць? Усё, што вы скажаце, будзе скарыстана супраць вас.

Не дачакаўшыся адказу, маці выглянула з кухні.

— Выправіла? — зноў запыталася маці, хаця нявыпраўленная адзнака ўжо завісла над маёй галавой і чырванела адтуль сваёй бязлітаснай круглясцю.

Не памятаю, што дакладна я адказала, але памятаю, што нешта зусім няправільнае. Мабыць, што не люблю біялогію. Мабыць, нават некалькі разоў гэта паўтарыла: не люблю, не люблю! Мабыць, што мне пляваць на гэту адзнаку, хай будзе і шасцёрка, што мне з таго?

Памятаю, як маці крычала. Крычала нешта традыцыйнае, звычайнае, што я проста лянуюся, што не будзе ў мяне ніякага Менску, бо куды я са сваім шасцёрачным атэстатам, што як кніжкі чытаць — на гэта часу хапае; ну нешта такое, што ведае кожны школьнік. І вось выплюхнуўшы ўсё гэта, маці сыйшла на кухню, а я так і засталася стаяць у калідоры без ботаў, але ў зашпіленным на ўсе гузікі паліто. І так мне прыкра і балюча стала: бо я ж так старалася, зубрыла гэтыя віды і падвіды, але тэст быў цяжкі, з тых, дзе па некалькі варыянтаў адказаў правільныя (чорт бы пабраў такія тэсты), што я, як была, у


Фота www.ubscribe.ru

паліто, зайшла ў прыбіральню, забралася ў бліскуча белую ванну і заплюшчыла вочы. І на нейкі кароткі момант жыццё спынілася. Мне падалося, што больш нічога не будзе, зусім нічога: я так і буду ляжаць у гэтай ванне, дзесьці далёка маці будзе лямантаваць, настаўніца біялогіі — здзекавацца, але мяне, мяне ўжо не будзе, я на векі вечныя захавалася ў гэтай ванне і больш не падымуся.

Праз некалькі хвілін да мяне зазірнула маці. Падаецца, здзівілася, але не тое, каб моцна.

— Падымайся, — сказала яна і зачыніла дзверы.

Я і паднялася, я заўсёды была паслухмяным дзіцем. Дыхаць стала неяк лягчэй.

Але дзе ў дарослым жыцці набыць гэтыя ванныя, каб класціся туды кожны раз, калі захочаш, каб свет хоць на трохі перастаў існаваць?»

— Ну во, гэта лепш, — пахваліла Яна.

Косця быў няўпэўнены.

— Ведаеш, не хацелася, каб думалі, што я зусім завіс у гэтых дзіцячых успамінах. Што я сваё няўдалае жыццё апраўдваю складаным дзяцінствам. Бо, на самай справе, у мяне было добрае дзяцінства. І маці пра мяне заўсёды клапацілася, можа, больш, чым патрэбна, але клапацілася.

— Ой, ды хто пра цябе будзе думаць, гора ты маё! Галоўнае, што пра ваннaчку — гэта пікантна, з прыбабахам. Адразу паказвае, які ты нетыповы, цікавы. Звычайных людзей нам не трэба. Пра звычайных ужо зашмат напісалі ў дваццатым стагоддзі. Лепш скажы, ты наступную тэму выбраў?

— А як жа, — адказаў Косця, нацягваючы штаны. — Наступная будзе — каханне.

### Артыкул другі. Цяжка быць Казановай

«Ладна, не тое, каб цяжка. Хутчэй — няёмка. Асабліва перад сабой. Асабліва, калі гэта здараецца ў тысячны раз, і ты ўжо ведаеш усе свае рэакцыі і паслядоўнасць пацуццяў, і мозг табе крычыць: «Назад, куды лезеш, няўжо не сорамна?!». А сорамна заўсёды потым. Спачатку заўсёды прыемна.

Не, сур’ёзна, хацелася б быць іншай. Такой, хто кажа «назаўсёды», а не падлічвае, наколькі хопіць гэтага «назаўсёды»: на гэты год ці толькі да наступнай пятніцы?

Такой, ведаеце, Кацюшай, якая зберажэ каханне, пакуль там хтосьці зямлю родную беражэ.

Кацюша ўнутры мяне нічога не хоча берагчы. Кацюша жадае феерыі пачуццяў і калейдаскопа эмоцый, новых твараў, новых пахаў, новых прызнанняў і новых дасягненняў.

Кацюша хоча гуляцца. Ёй бы падпісваць напачатку дамову: «Мы з табой несур’ёзна». Бо сур’ёзна ёй нельга, у яе ёсць галава на плячах, ім ніколі не быць разам: яна транжыра, ён эканом, у яе ўсе сукенкі развешаны па колеру, у яго ўсе швэдары — на крэслах. Не, дакладна нельга. Але ж вось так, на паўжартах, чаму не? Пакуль пячэ ў сэрцы ад яго позіркаў, ад яго ўсмешак?

Ды толькі дамовы ляжаць пакінутыя, непадпісаныя, а людзі ўжо гуляюць сур’ёзна. Цяжка такіх сустракаць пасля расстання.

Адны пакрыўджаныя праз мяне на весь свет.

— Я праз цябе страціў давер да ўсіх жанчын! Я цяпер пусты. І мне лёгка.

А я пра сябе думаю: паглядзі на мяне, я ж маленькая. Ці варта на мяне такое вешаць? Ці ёсць тут мая віна?

Другія, наадварот, пазабывалі на ўсе крыўды і сустракаюць са шчанячай радасцю.

— Ведаеш, гэта знак! Як у той дзень, калі мы пазнаёміліся. Толькі тады першы снег пайшоў, а цяпер — жнівень…

Ад гэтых яшчэ больш агідна. Дурны-дурны, няма ніякіх знакаў. Можа і ёсць адзіны ва ўсім знак, што свет з цябе здзекваецца».

***Дзённік Косці Арлова*** (сшытак той самы, але Косця нейкі іншы)

*Ну вось, зноў не тое. Зусім не пра тое хацелася распавесці. Дарэчы, у Маэма ёсць знакамітая цытата (Божа, можна хаця б яе не перакладаць, няма ніякіх сіл на гэтую мову!): «We are like people living in a country whose language they know so little that, with all manner of beautiful and profound things to say, they are condemned to the banalities of the conversation manual. Their brain is seething with ideas, and they can only tell you that the umbrella of the gardener’s aunt is in the house.»*

*Вось я такі чалавек. Столькі ўсяго роіцца, мітусіцца на сэрцы, у галаве, столькі ўсяго хочацца выліць, як брудную ваду з карыта, на чытача (няўдалае параўнанне, але як мог, так і параўнаў), а на выхадзе, на паперы, у электронным файле, — адны мёртвыя словы, роўныя, прылізаныя, няздольныя нікога не абразіць, не зачапіць.*

*Гэй, чытач, ты як там, ці адчуваеш мой боль, маю пяшчоту? Ці разумееш? Я ж тут спецыяльна для цябе распрануўся, і голы, з непрыгожай, сіняй скурай, стаю на марозе, затуляючы рукамі пахвіну, і гэта ўсё дзеля таго, каб ты заўважыў, спыніўся, каб сэрца тваё захлынулася нечым, чым захлынаецца маё.*

*Не адварочвайся ад мяне, не ігнаруй. Так, я кепскі пісьменнік, кепскі жанглёр словамі, але я навучуся, я калісьці здаў біялогію, што мне гэта гульня з паперкамі! Толькі дзе ўжо гэты чытач? Бяжыць на апошні тралейбус, адказвае на сто сорак сёмае на сёння паведамленне, гартае навінавую стужку. Ён заняты, яму патрэбна сачыць за ўсім светам, а са мной яму ўжо усё зразумела. Ён ужо недзе такое чытаў. І, падаецца, там было сказана лепш.*

— Косця, ты куды знік? Дзе артыкул? Дзе ты сам, урэшце?

— Яночка, ты прости. Нужно помочь одной знакомой: тоже, представляешь, решила выпускать журнал. Говорит, на белорусском писать снова немодно, эти белорусы со своим пробуждением самосознания уже и так всё заполонили, надо дать дорогу русскоязычным!

— Якая знаёмая?! Што ў цябе з ёю?

— Исключительно, исключительно рабочие отношения, Яночка! Журнал у неё с лёгким уклоном в ЛГБТ. Буду вести колонку от имени гомосексуалиста. Будет интересно. Я тебе как-нибудь принесу номер.

# Дарогі, дзе я не хадзіў



Валеры ДУБОЎСКІ

***

*Этнаграма беларуса*
*анясмелена*
*сіпласцю нацыі.*

*Час ламае яе*
*праз нас.*

***

*Жэст прыроды*
*даўжынёй*
*у тваё дыханне.*
*Жыццё.*

*Жэст прыроды*
*даўжынёй у бясконцасць.*
*Сусвет.*

*Жэсты быцця.*

***

*Зімы хачу.*
*Каб дух мароз прадзёр.*
*Каб першы снег*
*Бясконцасць распумачыў.*
*З табой у снезе я*
*Крылаты і гарачы.*
*І не пазёр —*
*Нябёсны фантазёр.*

*Там, пад аблокамі,*
*Дзе краявід — амбон,*
*Да слоў тваіх*
*Дадасца замірэння.*
*Душа твая*
*Палёт маёй пярэйме —*
*З палону восені*
*У снежаньскі палон.*

***

*Зачытаўся табою,*
*як кнігай настольнай,*
*восень.*
*Глядзь — а не восень ужо,*
*а снежань.*
*Насміхацца ўмее*
*бяда нястомна —*
*снежань,*
*а я без адзежын.*

*Нікім нявы-*
*кляты,*
*а такі надрыў.*
*Побач — ні ворагаў,*
*ні дарадцаў.*
*Ды што б там хто*
*ні гаварыў —*
*ніякай ахвоты*
*халадам здавацца.*

***

*Падгледжанае шчасце*
*не сагрэе.*

*Падслуханая мудрасць*
*не ўразуміць.*

***

*Шкло нечакання працёр.*
*Мяцеліца.*
*Ты.*
*Пачуццё.*

***

*Я ахвярую часам*
*Час ахвяруе мной.*

***

*Памяць не рызыкуе.*

*Рызыкуе*
*Наступства.*

***

*Адсунься ад поўні*
*на адлегласць*
*нявыпітай жарсці.*
*Бліжэй да мяне.*

***

*Небанальнае*
*адчуванне банальнага*
*і ёсць паэзія.*

***

*Пазыкі знакаў.*
*Пратэсты жэстаў.*
*Праз цэлы свет*
*Душа твая жывая.*
*І ўсясвет міжволі абуджае,*
*І стаўшы знакам,*
*Устае пратэстам.*

***

*Імжа.*
*Забросніла.*
*Іржа*
*на ціх-ставочку.*
*З'яўленне восені.*
*Знікненне ў адзіночку.*

*Як рух смаўжа.*
*Як тло лаўжа.*

***

*Сляды.*
*Запарушыла*
*Неслухмяным снегам.*
*Сівая вершаліна*
*Маўчыць паган-*
*скім слэнгам.*



*Ты йдзеш сюды.*
*Я йду туды.*
*Ці сыйдуцца*
*Сляды ў адны?*

***

*З летуценняў,*
*з трывог дарогі,*
*з імкнення, смагі, знямогі.*
*І пераступаў парогі,*
*у кроў паразбіўшы ногі.*

*Дзяды*
*і бацька з матуляй*
*праз Неба мяне адчулі.*
*Прыйшлі да мяне*
*адкуль вы, —*
*дарогай адной,*
*перакуленай?*

*Дарогі,*
*дзе я не хадзіў,*
*і тыя, дзе наслядзіў,*
*выбіраў зусім не адзін —*
*наступцам-унукам*
*наўздзіў.*

***

*Не тое...*
*Не пра гэта...*
*Не пра тых...*

*Не хочацца*
*Ні гаварыць,*
*Ні слухаць...*

*Неабыякі і збавенны слых...*

*Да восені я*
*Прыкладаю вуха...*

***

*Лужок кашу*
*І знакі шлю каўшу.*
*Таму, што ў небе,*
*Ля Палярнай Зоркі.*

*Дазволу —*
*З конаўкі даліць прашу*
*Зямнота кону смак*
*Саладкавата-горкі.*

*Вось на лужку расклаў*
*Свае зямныя знакі:*
*Пачуцці, словы*
*І сыноў і ўнукаў.*
*І дождж — няхай,*
*Саладкавата-мяккі.*
*І гром — няхай,*
*Што мне*
*Маўчаў і грукаў.*

***

*Брукам іду*
*ці па рытвінах,*
*Аблокі лаўлю,*
*аднакрылы вятрак...*
*Яшчэ напружыцца —*
*і магчыма, вытрываю.*
*Напружваюся — і*
*нешта не так.*

*Уздымаюцца*
*ў роспачы грудзі.*
*Не адбалела,*
*баліць крыло.*
*Даруй за тое,*
*чаго не было,*
*і за тое,*
*чаго*
*ніколі*
*не будзе...*

***

*«Гэта проста быў вецер», —*
*падумалася*
*цёплым вечарам*
*ля рэчкі,*
*у цэнтры горада.*

*І падняў голаў я,*
*зірнуў у здагадцы*
*туды,*
*наўздагон нечаму.*

*«Гэта проста быў вецер», —*
*падумае нехта*
*пасля,*
*праз дні і ночы,*
*праз гады і вуліцы,*
*праз пытанні і неадказы.*

*А гэта ляцела*
*мая душа.*

***

*Гадую*
*дванаццаць дубоў:*
*быць,*
*думаць,*
*тварыць,*

*жадаць,*
*любіць,*
*нараджаць,*

*ведаць,*
*верыць,*
*вучыць,*

*бараніць,*
*даваць,*
*помніць.*

*Узрастаючы, мізарнею.*
*І выбіраю.*

*З дванаццаці адзінаццаць,*
*з адзінаццаці дзесяцёх,*
*з дзесяцёх дзевяць,*
*з дзевяцёх восем,*
*з васьмёх сем,*
*з сямёх шэсць,*
*з шасцёх пяць,*
*з пяцёх чатыры,*
*з чатырох тры,*
*з трох два,*
*з двух адзін.*

*Які?..*



***

*Маё старое драпавае*
*паліто*
*даўно зраслося*
*са мной.*
*Стала мной.*
*Увасабленнем мары:*
*бадзяцца па свеце,*
*па шклоўскіх пагорках,*
*па ашмянскім бруку.*
*Паліто*
*гатовае без мяне,*
*ужо былога,*
*як сцень-невідзімка,*
*пайсці самахоць.*
*Адчуць пах*
*неспазнанай прасторы.*
*І маёй самоты.*

***

*Чэрвень.*
*Пярэспа.*
*Вечар.*
*Пяшчоціць таполевы пух.*
*Марыць і плакаць*
*аб нечым*
*лягчэй, калі вы удвух.*
*Калі*
*набрынялыя стомай*
*сэрцы гатовы змаўчаць,*
*збылое даруй другому,*
*у прышлым*
*другому харадзь.*
*Калі*
*незбянтэжана й плыўна*
*пасля гаваркіх перуноў*
*пачуццяў таемных*
*хвіліна*
*звякуе ў Свіслачы*
*зноў.*

***

*Урэшце*
*мне сэнс вядомы*
*і слоў,*
*і далёкіх дымоў.*
*Думаў —*
*дарога з дому.*
*Напраўдзе —*
*дарога дамоў.*

*Віншуем Валерыя Леанідавіча ДУБОЎСКАГА з 70-годдзем і зычым яму новых «няходжаных» дарог, здароўя і радасці!*

# Маскульт

**Іншым разам жыццё нечакана высалаплівае нам з люстэрка язык. Мы пачынаем абурацца: «Што гэта за пачвара?! Як такое можа здарыцца?! Гэта не мы!» Б'ём у набат, шукаем прычыны ў люстэрку. А трэба ў сабе...**



Менавіта такім адбіткам успрымаўся многімі пераможца Еўрабачання 2014 года Канчыта Вурс. Шмат хто палічыў сябе ў той момант пацярпелым: «Як так?! Хтосьці здзекуецца з нашага пачуцця прыгожага! Мы такімі не жадаем быць!» А не-е... То, як раз, самае наша! Гадамі, бы малпы, пераймалі чужыя «ужимки и прыжки», чужыя словы, міміку, жэсты, тэлеперадачы, думкі, музыку і лічылі, што класна выглядаем. Разгубіліся, занепакоіліся... Што ж нам цяпер пераймаць?! А глядач Еўрабачання паказаў кукіш усім тым, хто не здолен прыняць сябе. Нездарма той ноччу больш за ўсіх «пацярпелі ад абразы нашы беларускія меламаны», не прысудзілі выдатнаму голасу ні бала. Мы так звыкліся да калькавання, да другаснасці, што не адчуваем сораму за паўсюднае малпаванне. На экранах маладыя журналісты, высока адукаваныя выпускнікі акадэміі, абавязкова распавядаюць навіны, ідучы і махаючы рукамі, як то некалі для сябе прыдумаў расійскі, сапраўды імклівы, журналіст Леанід Парфёнаў. А мне сорамна за нашых выкладчыкаў ВНУ. Няўжо яны не маглі падказаць сваім выхаванцам чагось свежага, калі ўжо не здольныя навучыць самастойна разважаць.

Маскульт — абязножана-абязручаны па слыхавой асацыяцыі і вобразным уяўленні інвалід з кульцёй і абоймай танных бляшаных медалёў-бранзэлак, юбілейных і памятных значкоў, урачыста пачэпленых на сухотныя грудзі героя, узамен страчаных ног-рук на полі бою. Маскульт — пярэварацень, вырадак народнай, нацыянальнай культуры, кармушка для шэрасці, «обуреваемой жаждой деятельности», вялікіх арганізатараў і энтузіястаў чужых выслікаў, дзе на аднаго майстра-прафесіянала альбо таленавітага самародка дзесяць верхаводаў-прысмоктышаў, бязглуздых, некампетэнтных, адпаведна не адукаваных самадураў і самадурак, паталагічна амбітных, з маніяй самазначнасці «выходцев из народа»: начальнікаў, здольных стакроць адцурацца папярэдніх лозунгаў, каб, борздзенька падбрыкваючы, гнацца за любымі свежанаквэцанымі і гвалтоўна праз маскульт «внедрять» іх у галовы народа; здольных прыстасавацца і паверыць любой палітычнай канфесіі, калі тая не пагражае стратай пасад і не заяўляе: «Аюсь — ад карыта!» Галоўнае — масавасць, як залог народнай падтрымкі і апірышча.

Ёсць вялікі змысел ва ўсім: у замен народу змантаваць маналітную папуляцыю паслухмяных чальцоў. Багата прыродай адораны талентамі спяваць, жартаваць, танчыць, народ уціскваецца ў пракрустава ложа хлуслівай ідэалогіі пры дапамозе падмены Божага дару на «яешню».

**Ёсць вялікі змысел ва ўсім: у замен народу змантаваць маналітную папуляцыю паслухмяных чальцоў. Багата прыродай адораны талентамі спяваць, жартаваць, танчыць, народ уціскваецца ў пракрустава ложа хлуслівай ідэалогіі пры дапамозе падмены Божага дару на «яешню»**

Эксплуатацыя духоўнай каштоўнасці чалавека ва ўгоду Молаху, Ваалу, Асмадэю ды Мамоне перасягнула ў нашым грамадстве ўсе дазволеныя межы. Таму не менш спрыяе індэксаванне ўчэпістых ідэалагем, накшталт: «Искусство принадлежит народу», — нават са слоў свайго куміра ціхенька выціснулі галоўны сэнс «...его лучшей части». Але ў гэтую «лепшую частку» так лоўка ўвінчваюцца прайдзісветы — без асаблівага нюху не разбярэш, дзе «мастак», а дзе мастацтва. Менавіта ад здрады прыспешніцкай калямастацкай, калядухоўнай нівы, а то і сапраўдна адораных дзеячоў культуры, ды не асвечаных промнем сумлення, якія хутка ў пагоні за надзённымі патрэбамі і палітычнымі лозунгамі забываюць пра абавязак зберагаць вечнае духоўнае, і ствараецца глабальны МАСКУЛЬТ.

**Да сямнаццатага стагоддзя агульнанародная духоўнасць праяўлялася праз іканапісцаў, потым на варту заступілі паэты, мастакі, музыканты... Сёння дастаткова цырульніка з мадэльерам**

Сваёй увішнасцю гнуткія дзеячы культуры мацуюць дамбу, якая не дае праходу жывой вадзе і сіле чыстага народнага мастацтва.

Кутні камень маскульта — «чарніла», яго пуцяводная рака і зорка. Ці то вёска, ці сталіца: застолле з начальствам — лепшая ўзнагарода, асаблівая традыцыя ў дзень работніка культуры. Яно і магчымасць «патапіць такі-сякі адкат», без яго маскульт ніякай матэр'яльнай карысці для дробнага чыноўніка не нясе. Процівагай усенароднаму дзяржаўнаму крадзяжу, прывітаму ў савецкія гады савецкаму грамадству ўлада выпрацавала яшчэ адну лінію гвалтавання чалавецтва: паўсямесны АДКАТ. Адкат велізарных сродкаў ад будоўлі, медыцыны, аграпрамысловасці, гандлю, навукі, спорту, культуры... Таму цякуць дахі, разбураюцца сцены, ламаюцца машыны, гніюць ураджаі, гінуць людзі... Таму, што народныя сродкі, адпісаныя на дабрабыт краіны, асядаюць у кішэнях злодзеяў-чыноўнікаў любога рангу. Здольныя, таленавітыя прафесіяналы атрымліваюць ганебны жабрацкі «заробак», якога павінна хапіць урэшце на лекі ад усіх праблем — на «чарніла». (Трэба пісаць асобны артукул, каб раскрыць усе хітрасці роднай бюракратыі: як ашукваць спецыялістаў, не выплочваць ім справядлівы заробак, афармляць яго пад «сумяшчэнне», штучна выдумляць таннейшыя тарыфы...) Як у той час за голыя азадкі, за падстаўленыя сіліконавыя грудзі, паказаныя на ўсю прастору былога Саюза, ахвяруюцца велізарныя сродкі — з мэтай адкату.

Чарніла — звада, прыманка, допінг, узнагарода, суцяшэнне, штучнае панібрацтва — ого-о! — артысты за адным сталом з начальствам, якое назаўтра не гляне і ў той бок; чарніла — кляп у рот, корак у вушы, павязка на вочы, гэта самы ўлюбёны дыпламатычны ход прайдзісветаў. Чарніла (не таннае па кошце) — для справаздач, для хвалебных одаў, чарніла на стол для камісіі і праверак, чарніла пад прыгажэйшай этыкеткай — пад стол начальству, каб лагадней паглядала і не перашкаджала працаваць. Чарніла перад і пасля рэпетыцый, перад і пасля канцэртаў, аглядаў, конкурсаў... Чарніла — мора — пі, народ! Быдлаватыя ад збытку моцы пры кідкім недахопе розуму дзецюкі і дзявулі ў сініх халатах са швабрамі ў руках (калі гэта правінцыя — там заўсёды не хапае сродкаў на сцэнічныя касцюмы) ці вёрткія «вандэрлогі» — абсалютная калька расійскіх «зорак», толькі ў значна больш вартым шкадавання варыянце з відавочна падробнай весялосцю і неспажывальным гумарам, прадукуюць «спушчаны зверху» маскульт. Перадчасна ўсвядоміўшы сябе абранцамі і ўлюбёнцамі «сильных мира сего».

(Звярніце ўвагу на нашу інтэрнацыянальнасць беларускага тэлебачання — каго толькі не ангажавалі ў дыктары і вядучыя: тут і азербайджанцы, і грузіны, і армяне, і габрэі, і цыганы... толькі не беларусы — не дай Бог захочуць на мове загаварыць! Нават дзень беларускай пісьменнасці бессаромна аддыктавалі на замежнай мове. За апошнія гады беларуская мова страціла ў сваёй сіле так, як ніколі не страчвала ні пры адным царскім рэжыме, ні пры адным са сваіх «кесараў». У 1998 годзе выйшла мая першая кніга, яе хутка раскупілі ў раёне колькасцю ў чатырыста асобнікаў. Чытачоў хапала, цікавіліся — калі выйдзе новая кніга? Пакуль змагла выдаць новую, ведома ж, за свае грошы, зусім не стала беларускамоўнага чытача.)

«Культура должна греметь!», «По сто мероприятий в год на каждую кадровую единицу!», «Наши учреждения культуры сэкономили в прошлом году 15% энергозатрат в период отопительного сезона! Обязуемся в текущем году сэкономить 25%». (А ў наступным — абрасці поўсцю, каб не змерзнуць на працоўнай вахце!) Наступны перл трыбуннай красамоўнасці трэба чытаць «чеканя слог и буравя взглядом». «Ког-да бар-ран р-руководит стадом львов — ничего хор-рошего из этого не выйдет! А вот когда л-лев р-руководит стадом бар-ранов — дело идёт на лад!» (не прыдумка... літара ў літару!)

Пры наяўнасці адпаведнага патрабаванням (паслухмянасць вышэйстаячаму) льва, сама сабой паўстае неабходнасць для поўнай камплектацыі падстрыгчы ўвесь статак пад баранаў. Кожны паасобку хоць леў, хоць баран, а ўсё ж — індывідуум з уласнымі прыхільнасцямі, сімпатыямі, густам, а разам, дагаджаючы адно аднаму, каб не парушыць штучна выдабыты хвараблівы панятак субардынацыі, дзе баран губляе мову ад жаху перад ільвом, а самы найгалоўны ЛЕЎ больш за ўсё на свеце, як ні дзіўна, дрыжыць ад страху перад статкам, бо «народ честной — честной он до поры, а коль что не так — опять за топоры! Сколь ни масли ты его, ни ублажай, всё равно для них ты — хан да Мамай...» — ствараюць разам заняпалы шлях, духовае бухалава, няемную баланду, гумовую жуйку — МАСКУЛЬТ.

Апошнія дзесяцігоддзі гэтая з'ява набыла глабальны маштаб. Яна так адпавядае патрабаванням сучаснай постсавецкай сістэмы, так прыйшлася даспадобы ўладам па вертыкалі і гарызанталі, і не толькі бязмежнай магчымасцю адмываць бабкі, баксы, маны, лавэ, — мегасродкі плывуць у пашчу маскульта, які цяпер выпрастаўся зусім у іншую плынь — ШОУ, магчымасцю пад выбухі салютаў і выкрунтасы голых дзяўчат кіраваць да шызу шчаслівымі масамі пры дапамозе сучасных псіхатронных сродкаў; то пагражае паглынуць цяжка напрацаваныя вякамі здабыткі духоўнага развіцця грамадства. (Класічнае мастацтва патрабуе душэўнай працы, а ў нас няма за што бібліятэкам набыць новую літаратуру, акрамя «рэкамендаванай прынудзілаўкі», няма за што купіць у музычную школу самы танны інструмент...) Сіліконавыя цёткі пад шашлычок і грыль, пад папсу і «гапату» разбэшчваюць моладзь «шэдэўрамі маскульта»: «Баунти, баунти, баунти ... уаунти! Сникерсы, сникерсы, сникерсы ...уикерсы!»

Да сямнаццатага стагоддзя агульнанародная духоўнасць праяўлялася праз іканапісцаў, потым на варту заступілі паэты, мастакі, музыканты... Сёння дастаткова цырульніка з мадэльерам. Прыкінутыя адпаведна геі і лесбіянкі, альбо робленыя пад іх, — натуральны не ў модзе, грабуць бабкі, адабраныя ў народа, каб той забыўся назаўсёды пра свае таленты. Густ, душу знішчае дзяржаўна дазволеная «духоўнасць». Дарэчы, нашыя беларускія мадэльеры запыталіся ў сусветна вядомых, як ім выйсці на высокі ўзровень, каб у свеце пра іх загаварылі. Адказ узрадаваў!!! «Калі вы жадаеце сказаць штосьці сваё... перш за ўсё станьце сабой! Цікаўцеся сваімі каранямі, сваёй гісторыяй, сваёй культурай... Толькі тады вамі зацікавяцца іншыя».

Дадам — і мовай, яна ёсць скарбніца ўсяго імі пералічанага.

**Людміла Андзілеўка**

# Беларуская Адысея

## Беластоцкія вершы Андрэя Чэмера

**Пад псеўданімам Андрэй Чэмер на старонках беларускага друку выступаў мемуарыст, педагог, журналіст і грамадскі дзеяч з Вільні Аляксей Анішчык (1912–2007).**

Складаны лёс быў у гэтага чалавека, хаця пражыў ён шмат гадоў. Нарадзіўся на хутары Мондзіна на Навагрудчыне непадалёку ад возера Свіцязь. Закончыў Навагрудскую беларускую гімназію, а потым эканамічны факультэт універсітэта ў Познані.

Перад Другой сусветнай вайной Аляксей Анішчык апынуўся ў Варшаве. А калі пачалася вайна, запісаўся ў батальён абароны польскай сталіцы, за што быў пазней узнагароджаны медалём.

Пасля капітуляцыі Польшчы вярнуўся на Навагрудчыну выкладчыкам роднай мовы і літаратуры ў школе. А потым пераехаў на Беласточчыну, дзе быў прызначаны дырэктарам школы, некалькі разоў сустракаўся і гутарыў з Хведарам Ільяшэвічам — рэдактарам беластоцкай беларускай газеты «Новая дарога».

У гады вайны Аляксей Анішчык працаваў выкладчыкам настаўніцкай семінарыі ў Навагрудку, удзельнічаў у рабоце Другога усебеларускага кангрэса. Пасля вайны жыў у Кракаве, працаваў у розных выданнях. Але ў 1948 годзе яго арыштоўваюць савецкія спецслужбы і прывозяць у Мінск. Савецкі трыбунал прыгаварыў яго да расстрэлу, аднак смяротнае пакаранне хутка было заменена на 25 гадоў лагераў строгага рэжыму.

На Поўначы Аляксей Анішчык адбыў 14 гадоў і вярнуўся дамоў.

Аднойчы ён напісаў ліст у беларускую беластоцкую газету «Ніва», а праз пэўны час атрымаў адказ з Беларускага грамадска-культурнага таварыства (БГКТ), у якім яго запрасілі на працу ў БГКТ на пасаду кіраўніка аддзела культуры. Такая прапанова Аляксея Анішчыка задаволіла, і ён паехаў у Беласток. Гэта была другая палова 1960-х гадоў.

Аляксей Анішчык стаў працаваць у БГКТ, наладзіў добрыя стасункі з «Нівай», дзе друкаваў уласныя матэрыялы.

У сваёй кнізе «Беларуская адысея» (Вільня, 2005–2006) Аляксей Анішчык прыгадвае: «У «Ніве» друкаваліся даволі часта вершы Баршчэўскага, які мне тады паказаўся ў нейкай меры прэтэнцыёзным і ганарыстым... Самыя шчырыя і нават сардэчныя суадносіны завязаліся ў нас са Шведам і Юзьвюком. Швед быў стопрацэнтна тыповым сынам беларускай вёскі. Стрыманы, сціплы, спагадлівы і працавіты, ён быў да дна душы шчырым і добрым, учынным інтэлігентам (падкрэсліваю гэта слова). Прыроджаны такт і добразычлівасць паглыблялі абаяльнасць гэтага чалавека, а паэтычны талент (у асноўным, дзіцячая тэматыка) як бы ствараў арэол рамантычнасці... Юзьвюк умеў працаваць... Я, наглядаючы за стылем працы Юзьвіка, мімаволі заўважыў штодзённы парадак у яго працы, паперах, прыладах...».



Аляксей Анішчык у сваёй віленскай кватэры, 2002 г.

У Беластоку Аляксей Анішчык шчыра пасябраваў з калектывам ансамбля «Лявоніха», які актыўна выступаў з канцэртамі на Беласточчыне. Ансамбль у той час быў вельмі папулярны. Напрыклад, у верасні 1966 года «Лявоніха» дала 500 канцэртаў. А 501-ае выступленне было ў вёсцы Шымкі Беластоцкага павета перад школьнікамі.

Аднойчы, як прыгадвае ў сваёй кнізе «Беларуская адысея»Аляксей Анішчык, яны сядзелі ў памяшканні БГКТ і гутарылі пра жыццё-быццё. Былі там Анішчык, Юзьвюк, Лобач і нейкі Куц, які працаваў у гарадской управе. Лобач сказаў, што абрыдзела тут жыць у гэтым «шалмане і здзеку польскіх шавіністаў». «Едзь-едзь на Беларусь! — сказаў яму Анішчык, — там паспрабуеш чэкісцкай ласкі, дык будзеш ва ўсе лапаткі перціся назад..».

Пасля гэтай гутаркі Анішчыка праз пару дзён выклікаў камендант ваяводскай управы паліцыі і следчы. Ва ўспамінах Аляксей Анішчык прыгадвае: «Спярша камендант запытаў, як даўно я прыехаў (хоць яны ўжо ўсё пра мяне дасканальна ведалі), з якой мэтаю і што думаю далей рабіць. Я коратка адказаў, што жыву ў Польшчы другі год. Польшча мне не чужая — тут канчаў універсітэт, шмат гадоў працаваў і дабравольцам бараніў Варшаву ў часе нямецкай інвазіі... А Беласточчына для мяне амаль родная, бо я працаваў тут дырэктарам школы і маю шмат блізкіх сяброў — так беларусаў, як і палякаў. А калі ўсё пойдзе ладам, то можа зноў пайду працаваць у школу. У часе гэтай размовы другі функцыянер (праўдападобна з польскага УБ, гэта значыць — бяспекі) часта ўмешваўся, задаючы колкія і нават злосныя пытанні і нешта запісваючы. Пратрымалі мяне каля гадзіны і развіталіся. Хутка выявілася, што Куц быў стукачом, настрачыў на мяне данос і перадаў свайму начальству ва УБ. Хутка паліцыя выклікала Юзьвюка і дала яму такую галавамыйку, так запалохала, што ён запрапанаваў мне неадкладна выязджаць з Беластока, хоць яму гэтага вельмі не хацелася. Сітуацыя была яснай: энкавэдысты Беларусі баяцца, што магу расказаць зашмат праўды пра жыццё ў савецкай імперыі...» («Беларуская адысея»).

Хутка Аляксей Анішчык пакінуў Беласток і прыехаў на Віленшчыну ў Эйшышкі. А потым перасяліўся ў Вільню, дзе і пражыў да канца свайго жыцця. Там прымаў актыўны ўдзел у беларускім руху. Ён узначальваў суполку віленскіх беларускіх палітвязняў, быў адным з заснавальнікаў беларускай школы ў Вільні, уваходзіў у склад рэдкалегіі старонкі «Беларус Віленшчыны».

З Аляксеем Анішчыкам я шмат гадоў перапісваўся, захаваліся яго лісты, успаміны, кнігі з аўтографамі. Дарэчы, спадар Аляксей за доўгае жыццё сабраў добрую бібліятэку кніг, калекцыю музычных інструментаў. А яшчэ ён шмат пісаў, пісаў на польскай, рускай і вядома ж на роднай мове. У канцы ХХ стагоддзя адна за адной выходзілі яго кнігі: кніга вершаў на рускай мове «Жизнь живым принадлежит» (1996), вершы і нарысы «За калючым дротам» (1996), «Мондзінская балада» (1996), кнігі артыкулаў і ўспамінаў «Партрэты», «Выбраныя Богам», «Сяргей Хмара» і іншыя.

Але самым каштоўным выданнем Аляксея Анішчыка была і застаецца кніга «Навагрудская беларуская гімназія» (Вільня, 1997) з прадмоваю вялікага беларуса, акадэміка Барыса Кіта. Усе вышэй пералічаныя кнігі спадар Аляксей Анішчык пры жыцці прыслаў з аўтографамі мне. На кнізе «Навагрудская беларуская гімназія» аўтар напісаў: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну з самымі шчырымі пажаданнямі поспехаў у яго публіцыстычнай і літаратурнай творчасці. Вільня, 27.02.1999 г. Аўтар Аляксей Анішчык». А на зборніку «За калючым дротам» напісаў: «Паважанаму Сяргею Чыгрыну з найлепшымі пажаданнямі. Аўтар Аляксей Анішчык. Вільня, 27.02.1997 г.». Пішу гэта не дзеля таго, каб пахваліцца аўтографамі Анішчыка, а дзеля таго, што часта перачытваю, пераглядаю ўсе выданні забытага беларускага аўтара.

Звярнуў увагу, што Аляксей Анішчык вельмі шмат сваіх паэтычных радкоў прысвяціў сваім сваякам, сябрам, знаёмым, а таксама вядомым беларусам і тым мясцінам, дзе жыў, працаваў, бываў. У паэтычных зборніках сёння згубіліся і тры вершы Аляксея Анішчыка, прысвечаныя Беласточчыне. Яны былі напісаны якраз тады — у 1967–1969 гадах, калі Аляксей Анішчык жыў у Беластоку. Гэта вершы «Беласток», «Белавежа» і верш «Прывітанне», прысвечаны ансамблю БГКТ «Лявоніха».

Прапаную чытачам «Літаратурнай Беларусі» беластоцкія вершы Аляксея Анішчыка (Андрэя Чэмера).

**Сяргей Чыгрын**

# БЕЛАВЕЖА

Андрэй ЧЭМЕР

### Беласток

*Трывожнае сэрца і пытлівы крок*
*Ізноў прывялі да цябе, Беласток.*
*У гомане шумнай людской грамады*
*Здаецца, я зноў, як калісь, малады.*
*Таксама цяпер, як даўней, як учора,*
*Хвалюецца натоўпу шумнае мора.*
*Іскрацца задорам юначыя вочы,*
*І сыплецца срэбрам, звініць смех дзявочы.*
*Касцёлаў і царкваў гучыць пераззвон...*
*Прыміце ж вы, сведкі вякоў, мой паклон!*
*Хоць шчыра скажу, што пашаны нямала*
*Ў мяне і да новых, сучасных кварталаў.*
*Тут многія пнуцца да хмар этажы*
*І зверху глядзяць на старыя крыжы...*
*Тут слухаюць кросен бязлікіх стук часты*
*Сапраўдныя цуды: Антонюк і Фасты!*
*Каханне і радасць, смутак і гора*
*Вядуць нас у парку зялёнае мора —*
*Ў зацішныя сцежкі, дарожкі, альтаны...*
*Між імі шумяць, серабрацца фантаны,*
*А там, за дарогай, імкнуцца далей*
*Квадраты узорных дыванаў, алей...*
*Прыпынак тут мае народ усялякі:*
*Спрадвеку жывуць беларусы, палякі,*
*Татары, расейцы і жмудзь, ліцьвіны*
*І нават Славаччыны братняй сыны.*
*Мне радуе сэрца іх праца і згода*
*На славу Айчыне, на славу народа.*
*І радасцю шчырай засціцца зрок,*
*Каля я гляджу на цябе, Беласток.*

**1967 г.**

### Белавежа

*Морам зялёным раскінула межы*
*Магутная пушча вакол Белай вежы,*
*А побач спрадвеку, праз тысячы год*
*Прыбоем шумеў беларускі народ.*
*Любімая, родная маці-зямля!*
*Твая жыватворная вечная сіла*
*І нас, і чужынцаў, і зубра-камля*
*Ў добрыя, цяжкія годы карміла.*
*Народы, як грозныя хвалі сівыя,*
*Ўсцяж залівалі твае берагі.*
*Падзеяў крывавых вятры штурмавыя*
*Наносілі раны на край дарагі.*
*І жэрла тваё дабрадзейнае цела*
*Навала чужацкая так, як хацела,*
*Хоць часам ламала крывавыя зубы*
*Аб косці-лясы твае, краю мой любы...*
*Па нетрах зялёных гулялі тэўтоны,*
*Тапталі і зубраў знішчалі цары...*
*Татары калісьці, не знаючы стомы,*
*Палілі пасёлкі, лясы і двары...*
*Знішчалі чужынцы зялёнае мора,*
*Дзяўчат паланілі на ганьбу і здзек...*
*І тысячы мерлі ад цяжкага гора,*
*Ды выжыў усё ж такі наш чалавек!*
*Прымі ж мяне, краю пушчанскі, свабодны,*
*З табою мы шчыра, навекі сябры!*
*Бо ты для мяне, як заўсёды, быў родны,*
*Як родныя мне і лясы, і зубры!..*
*Хай песні пра шчасце спяваюць вяршыні*
*Магутных, нязлічаных сосен, дубоў,*
*Хай казкі снуюць беластоцкай дзяўчыне,*
*Хай сны навяваюць пра шчасце, любоў...*
*У змроку тваіх пераплеценых кронаў*
*Турыст для турыста і друг, і зямляк.*
*Навокал у згодзе і без праклёнаў*
*У дружбе жывуць беларус і паляк.*
*Магутная пушча ніколі не згіне,*
*Зубрам дасць апеку на тысячы год!*
*Служыць будзе верна народнай Айчыне,*
*Таксама, як ты, беларускі народ!*

**Беласток, 1968 г.**

### Прывітанне

***Ансамблю БГКТ «Лявоніха»***

*У смутку і ў каханні, у шчасці і ў бядзе*
*«Лявоніха» з бадзёрай песняю ідзе.*
*Цяпла і смеху, жартаў і ласкі хоць крыху*
*Мы з радасцю прыносім пад кожную страху.*
*Вітаюць вас сардэчна між ніваў і бяроз*
*Наш паважаны Крупа і Марыся Мароз!*
*Адкрытым, шчырым сэрцам і поціскам рукі*
*Вітаюць вас і Янка, і Люба Блізнюкі!*
*Няхай жа танцам звонкім усіх нас развяселіць*
*Наш гарманіст вясёлы — Станіслаў Станкевіч!*
*Каб радасным і звонкім быў сэрца перастук,*
*Пацешыць жартам, песняй вас Юрка Гаўрылюк!*
*Як музыка зайграе, дык ножанькі — стук-стук!*
*Не ўседзяць, як станцуе вам Оля Андраюк...*
*Жадаем вам сардэчна, каб сонца шчасця, згоды*
*І добрага настрою свяціла вам заўсёды!..*

**Беласток, 1969 г.**

# Кола існавання: пра новую кнігу Віктара Казько

**Віктар Казько што于разу нібыта заваблівае чытача ў непраходны лясны гушчар сэнсаў, адначасова ствараючы ілюзію знаходжання ў звычайнай сялянскай хаце.**




На ўлазіны ў новую хату, як вядома, трэба першага запускаць ката. Аднак новая кніга прозы Віктара Казько «Казань пра ката, каторы смяяўся» (Бібліятэчка часопіса «Дзеяслоў», 2018) — не зусім пра гэта. Кот там сапраўды ёсць, і не проста кот, а адзін з галоўных герояў. Дзіўнаватая мянушка Біч (былы інтэлігентны чалавек) вельмі пасуе людскому атачэнню. Біч ратуе гаспадара ад смерці, наладжвае сувязь з сапраўднымі гаспадарамі зямлі — міфалагічнымі істотамі (Цмокам, Русалкай, Лесавіком, Берагуном, Вохам), спазнае сэнс усяго існага...

Хата як выспа надзеі на выратаванне душы — не па-музейнаму ўладкаваная, з этнаграфічнай ідэалізацыяй традыцыйнага побыту. Але гэта жытло, якое спрабуе пабудаваць сучасны чалавек паводле запаветаў продкаў. Бяда ў тым, што многага з тых справедчых правілаў чалавек сённяшні ўжо не ведае, і, адпаведна, хата будуецца няправільна, грунт пад нагамі — нетрывалы. Бо ўжо даўно пачалося разбурэнне «выпеставанага і запушчанага чалавекам кола яго існавання», якое адмовіла ў існаванні тым тром кітам, на якіх спрадвеку грунтавалася жыццё чалавека на зямлі, — плугу, касе і сякеры.

Унутраныя маналогі галоўнага героя і аўтарскія філасофскія адступленні вельмі падобныя: аўтар і герой прамаўляюць адначасова, і не заўсёды можна адрозніць іх галасы. Мо таму, што ў творы багата аўтабіяграфічнага. Пісьменнік прымушае галоўнага героя, сталага мужчыну, штораз вяртацца ў далёкае мінулае, на тыя дарогі вайны, крыві і жаху, дзе ён страціў маці і сястру. Для героя, які лічыць сябе Анёлам смерці, бо тыя, што загінулі, «аплацілі працяг яго існавання на гэтым свеце», такая сустрэча — крыніца невылечнага болю.

У прозе Віктара Казько вельмі мала людзей. І калі ёсць такое паняцце як «вера ў чалавека», то ў дачыненні да мастацкай канцэпцыі прозы Віктара Казько ёсць сэнс казаць пра «бязвер'е ў чалавека». Свету прыроды і надчасаваму свету памерлых пісьменнік давярае значна болей: там усё пэўна, там няма здрады.

Касмічнае, тагасветнае, міфічна-неверагоднае цесна пераплятаюцца нават у межах аднаго сказа. З Месяца мы вяртаемся не проста на Зямлю, а ў Беларусь — Пупляндыю (і ўжо не бульбашы, а «пупляндцы», якія «глядзяць сабе пад ногі, моўчкі смаркаюцца ў анучку і часта бегаюць за хлеў»). Пупляндыя — краіна, у якой усе жыццёвыя інтарэсы гуртуюцца вакол «пупа», вакол карыта, месца, якое падаецца дасягненнем раю. «Бязвер'е ў чалавека» нейкім неверагодным чынам спалучаецца з глыбокім спачуваннем гэтым бездапаможным істотам, душы якіх выпальваюцца, бы пякельным агнём, страхам. Чалавек насамрэч сваю бездапаможнасць адчувае. І ўсё, што стварае вакол сябе, увесь гэты лес з прывідных добротаў і сумнеўных асалодаў — толькі спосаб нават не пазбыцца страху, а хаця б на кароткі час уцячы ад яго.

Нешта ёсць у такім адстароненым аўтарскім успрыманні зразумелай для яго безнадзейнасці будучыні чалавецтва ад разважанняў галоўнага міфалагічнага персанажа — Цмока, які спачуваў чужым пакутам, але ўжо і не хваляваўся за людзей, бо «перахварэў на гэта»: «Адвечная гэтаму зямному люду дарога ў нікуды».

Віктар Казько задае пытанне: «Хто спакусіў чалавека на аднаасобнае валоданне ў гэтым царстве зямным?» Бо ўсё, чалавекам цягам тысячагадовай гісторыі здзейсненае, не дае адказу. Аднак пры гэтым няма маралізатарскага пафасу і пазёрскага стагнання: так, «канчаюць самагубствам азёры, рэкі, рыбы, птушкі і людзі», так, чалавек пазбавіў ужо сябе будучыні на гэтай планеце. Але і планета — часовая знічка ў бязмежным сусвеце, што ўжо пра чалавека разважаць...

Вось толькі каб не гэты пранізлівы боль — такі зямны, такі рэальны, што пульсуе ў грудзях маленькага хлопчыка, асуджанага на вечнае адмаўленне сябе, замест сэрца.

**Надзея Раманчык**

### Алесь Камоцкі. «Не як так»

«Голас барда Алеся Камоцкага хораша пачувае сябе ў міжзор'і ўдзячных сэрцаў. Філосаф па адукацыі, тонкі лірык на паслугах у роднага слова. У век усеагульнай папсы яго песні вяртаюць душу да вытокаў, натуральна гучаць беларускаму вуху, не губляюцца ў сугуччы песняў суседзяў», — гэтыя словы-вітанні Рыгора Барадуліна, датаваныя 2004 і 2012 гадамі, абраныя замест прадмовы, ёмка і дакладна прадстаўляюць аўтара і выканаўцу ўласных песняў, з якім Народны паэт Беларусі сябраваў шмат гадоў.

Сапраўды, усё, напісанае і праспяванае Алесем Камоцкім, аўтарскае або на вершы іншых беларускіх або замежных творцаў, кранае сэрца. У яго новай кнізе выбранай паэзіі «Не як так» (бібліятэка Саюза беларускіх пісьменнікаў) — найлепшае, што назбіралася ў творчым багажы спадара Алеся, пачынаючы з 1997 года, калі выйшаў яго зборнік «Спроба ісьці па расе», і заканчваючы нізкай 2017 года.

***

*Лагодным ліпеньскім дажджом*
*Вясёлку з неба змыла лета.*
*Жыццё маё ішло дагэтуль*
*Не пакідаючы слядоў.*
*Ішло жыццё маё пакуль*
*Не разбіраючы дарогі,*
*Ішло таму, што неслі ногі*
*Не да таго, хто крокі чуў.*
*Лагодным ліпеньскім дажджом*
*Вясёлку з неба змыла лета,*
*Мне паказаў напрамак вецер,*
*А я дарогу не знайшоў.*

«Не буду шмат прыводзіць цытат на майстэрства і непаўторнасць. Давялося б як не ўсю кнігу прывесці ў прыклад. А што тады чытачу рабіць? Не асмелюся красці ў яго радасць», — Рыгор Барадулін.

### Сяргей Шаматульскі. «Они»

Яны — гэта людзі, якіх мы бачым на старых фота або калі стаім у чарзе ў краме, пра якіх чуем у кароткіх застольных размовах. Гісторыі пра іх маленькія і мімалётныя, з-за чаго не атрымліваецца аналізаваць іх дзеянні, рэфлексаваць над правільнасцю-няправільнасцю ўчынкаў. Застаецца толькі спачуваць. Або праходзіць міма.

Сяргей Шаматульскі адразу развеяў надзеі на тое, што людзі з кнігі існуюць у рэчаіснасці, — па словах аўтара, ён не ставіў мэты прысвяціць кнігу камусьці канкрэтнаму.

Ад лёгкага суму першых апавяданняў кнігі, якія закранаюць тэму адзіноты сярод людзей, бліжэй да канца «Яны» даводзяць да ўздрыгу — з'едзены сабака, пахаванне, нябачная прысутнасць Другой сусветнай вайны. Усё гэта яднае старое калектыўнае пастановачнае фота, узятае дызайнерам Юліяй Кандрацюк з архіву Лізы Неўмяржыцкай, якое стварыла, на думку аўтара, «наглядны сінапсіс усяго таго, што хацелася напісаць». З фотаздымкаў на чытача глядзяць безыменныя людзі са стуленымі вуснамі — маўляў, мы сюды не паскардзіцца прыйшлі, а па справе...

Анатацыю рэдактара кнігі Наталлі Паваляевай Сяргея Шаматульскі лічыць самай дакладнай: «Яны — гэта мы». Можа, кніга такая зразумелая чытачу менавіта таму, што ён бачыць у ёй сябе?..

**Алена Босава**

### Адам Глобус. «Казкі сталічныя»

**Пісьменніку пашанцавала, і ён змог пажыць і папрацаваць у гэтых цудоўных сталіцах. У дадатку аўтар змясціў казкі пра мастакоў віцебскай школы і неверагодныя гісторыі пра іх таленавітыя творы.**




Па словах адной чытачкі, гэта «Зборнік кароткіх апавяданняў-казак пра Парыж, Вільню, Мінск і Віцебск (казкі-паданні пра К. Малевіча і не толькі). Звычайнае гарадское жыццё пераплятаецца з містыкай, казкамі: анёлы, ведзьмаркі, пярэваратні, чараўніцтва... Будзе цікава і падлеткам, і дарослым, — кожны знойдзе свой сэнс: філасафічныя па сваёй сутнасці, казкі маюць яркую сюжэтную лінію пра простыя і зразумелыя кожнаму чалавеку рэчы: ежа, хвароба, каханне...»

Кніга выйшла ў серыі «Кнігарня пісьменніка» Бібліятэкі Саюза беларускіх пісьменнікаў у выдавецтве «Кнігазбор».

Шукайце яе ў мінскіх крамах: «Акадэмкніга», «Цэнтральная», «Светач», «Веды», «Кнігарня пісьменніка», «Кнігі і кніжачкі», а таксама ў буйных кнігарнях ААТ «Белкніга» па ўсёй Беларусі!

### Уладзімір Папковіч. «Зазімак: Выбраныя вершы»

**Імя Уладзіміра Папковіча, сябра Саюза беларускіх пісьменнікаў з 1981 года, доўгія гады — выкладчыка і загадчыка кафедры Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя Машэрава, перакладчыка з нямецкай і на нямецкую мовы, лаўрэата прэмій «Сузор'е муз» і імя Уладзіміра Караткевіча, добра вядомае чытачам.**

Новая кніга паэта прыйдзецца даспадобы аматарам класічнай рыфмаванай традыцыі, сур'ёзнай філасофскай тэматыкі, тонка аздобленай доляй іроніі і самаіроніі лірычнага героя.

### Жыццё

*Жыццё раствaралася ў шуме і галасе,*
*Яно зіхацела, трымцела, гуло.*
*Відовішчам дзіўным яно мне здавалася,*
*Сачыць за якім так цікава было.*
*Там людзі смяяліся, пелі, злаваліся,*
*І слёзы лілі, і на скокі ішлі.*
*А збоку здавалася, што прыстаўляліся,*
*Што прытвараліся, а не жылі.*
*Ды раптам мяне падхапіла няўмольная*
*Магутная плынь, як паводка вясной,*
*Кідала, гайдала цячэнне раздольнае,*
*Гуляла ды забаўлялася мной.*
*Мне дух захапіла ад нечаканасці,*
*Я лётаў над хвалямі, падаў на дно.*
*Глядзеў маладзёнак з ружовай туманнасці*
*І весела думаў: «Вось гэта кіно!»*

У вобразе лірычнага героя, сталага, які азіраецца назад і па-добраму пакепліваe з сябе маладога, многія могуць пазнаць сябе. І ў адначассе ў гэтым зборніку шмат прыватнага, шмат асабістага. Нават калі Уладзімір Антонавіч піша пра вёску — а гэтая тэматыка найбольш звыклая і кансерватыўная для беларускай паэзіі, — ён робіць гэта настолькі па-свойму, інтымна, з вышыні свайго жыццёвага досведу, што гэта кранае.

Поруч з адмыслова беларускай прывязанасцю да сваёй зямлі, «укаранёнасцю» ў крэўныя сувязі, свойскасцю можна знайсці ў зборніку і матыў падарожжа. Нездарма




ж архетыповы вечны вандроўнік ужо колькі стагоддзяў вывучае дарогі еўрапейскай літаратуры!

***

*Люблю падацца ў белы свет,*
*У шлях нязнаны і наблізкі,*
*Купіць да пункта Х білет,*
*Жыць без нагляду і прапіскі.*
*Пакінуўшы свой родны дах,*
*Пакуль душа зноў не заные,*
*Павандраваць па гарадах,*
*Дзе ёсць музеі і піўныя.*
*Худым, счарнелым, з барадой*
*Вярнуцца і паспавядацца...*
*Піць роднай мовы сырадой*
*І ад зласліўцаў адбівацца.*

Такім чынам, кніга «Зазімак» выправілася ў белы свет, і спадзяемся, на сваім шляху яна сустрэне нямала ўдзячных чытачоў.

**Прэс-служба СБП**

«ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» | № 6 (142) | 29 чэрвеня 2018 | № 24 (587) Новы час

# Міжнародная прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн

**На ўрачыстай цырымоніі ў Стакгольмскай філармоніі амерыканскай пісьменніцы Жаклін Вудсан была ўручана міжнародная прэмія памяці Астрыд Ліндгрэн. Узнагароду за дасягненні ў галіне літаратуры для дзяцей і падлеткаў лаўрэат атрымала з рук кронпрынцэсы Вікторыі.**



У гэтым годзе прэтэндэнтамі на прэмію сталі 235 дзіцячых пісьменнікаў, ілюстратараў і арганізацый з 60 краін.

Журы прэміі адзначыла, што Ж. Вудсан уганаравана ўзнагародай за асаблівы стыль і мову ў апісанні праблем сучаснай моладзі; аўтар піша «на амаль бязважкай мове» і «дазваляе нам сустрэць маладых людзей, якія з усіх сілаў спрабуюць справіцца са сваёй уразлівасцю і знайсці месца, дзе можна пачаць сваё жыццё». Сябры журы падкрэслілі, што ў сваіх апавяданнях яна ўмее «ўлоўліваць унікальны паэтычны тон у паўсядзённым жыцці, у якім ёсць і смутак, і надзея».

Самымі вядомымі творамі Ж. Вудсан з'яўляюцца «Хлопчыкі цуду» ( «Miracle's boys», 2000) — аповед пра 22-гадовага юнака, які пасля смерці маці вымушаны клапаціцца за двух братоў-падлеткаў) і «Пёры» («Feathers», 2007) — аповесць, дзеянне якой адбываецца ў 70-я гады ў мястэчку з афраамерыканскім насельніцтвам, куды аднойчы прыязджае белы хлопчык, а таксама аўтабіяграфічны раман «Мары цемнаскурай дзяўчыны» («Brown Girl Dreaming», 2014).

Міжнародную літаратурную прэмію памяці Астрыд Ліндгрэн заснаваў урад Швецыі пасля смерці вядомай пісьменніцы ў студзені 2002 года дзеля садзейнічання развіццю дзіцячай і юнацкай літаратуры. Сума грашовага ўзнагароджання дасягае 5 мільёнаў шведскіх крон (каля 610 тысячаў даляраў ЗША). Гэта самая буйная прэмія ў галіне дзіцячай літаратуры.

# Букераўская прэмія-2018

**Лаўрэатам Міжнароднай Букераўскай прэміі 2018 года стала польская пісьменніца і паэтэса Вольга Такарчук. Цырымонія ўручэння ўзнагароды адбылася ў лонданскім Музеі Вікторыі і Альберта, паведамляецца на сайце прэміі.**



Прэмія прысуджаная ёй за раман «Палёты» (Flights), пераклад — Джэніфер Крофт.

Вольга Такарчук — польская пісьменніца, яна нарадзілася ў польскім Сулехуве ў сям'і выхадцаў з Украіны. Вучылася ў Варшаўскім універсітэце. З'яўляецца суарганізатаркай Фестывалю апавяданняў, падчас якога аўтары кароткіх літаратурных формаў з Польшчы і з-за мяжы прадстаўляюць свае творы. З 2008 вядзе заняткі па творчым пісьме ў Апольскім універсітэце.

Спіс фіналістаў «Man Booker International Prize» быў абвешчаны ў красавіку.

Акрамя Вольгі Такарчук, у яго ўвайшлі француженка Віржыні Дэпэ з раманам «Вернан Субутекс 1» (Vernon Subutex 1), іспанец Антоніо Муньас Малін з творам «Як гаснучы цень» (Like a Fading Shadow), пісьменнік з Ірака Ахмед Саадаві з раманам «Франкенштэйн ў Багдадзе» (Frankenstein in Baghdad), пісьменніца з Паўднёвай Карэі Хан Ган з кнігай «Белая кніга» (The White Book) і венгр Ласла Краснахоркаі з раманам «Свет працягваецца» (The World Goes On).

Памер грашовага ўзнагароджання складае 50 тысяч фунтаў стэрлінгаў. Аўтар і перакладчык кнігі падзеляць іх паміж сабой.

Міжнародная Букераўская прэмія — прыз у галіне літаратуры, заснаваны ў 2004 годзе. Да 2015 года ўручаўся адзін раз у два гады аўтарам, чые кнігі напісаны на англійскай альбо перакладзеныя на англійскую мову, па сукупнасці літаратурных заслуг. З 2016 года прэмію сталі прысуджаць штогод за раман або зборнік апавяданняў, перакладзены на англійскую мову і апублікаваны ў Вялікабрытаніі.

Як паведамлялася раней, юбілей Букераўскай прэміі адзначаць уручэннем «Залатога Букера». Уладальніка прэміі выберуць з папярэдніх лаўрэатаў.

# Муракамі — вядучы на Tokyo FM

**Японскія СМІ паведамілі, што з 5 жніўня вядомы пісьменнік Харукі Муракамі стане вядучым аўтарскай музычнай праграмы RUN & SONGS на радыёстанцыі Tokyo FM.**



Прадстаўнік радыёкампаніі пракаментаваў, што падчас сваёй перадачы Муракамі будзе ставіць музыку, якую ён сам слухае падчас прабежкі.

Паколькі пісьменнік практычна не дае інтэрв'ю пад запіс, навіна была ўспрынятая на «ўра!».

Харукі Муракамі даўно захапляецца бягом на доўгія дыстанцыі (нягледзячы на свае 69 гадоў!). Ён нават прабягаў ультрамарафон (100 кіламетраў!) вакол возера Сарома ў Японіі.

Нярэдка ён піша артыкулы для папулярных часопісаў на тэму забегаў. У літаратара нават ёсць кніга пад назвай «Пра што я кажу, калі кажу пра бег».

Паводле яго слоў, гэта збор «замалёвак пра бег, а не сакрэтаў здаровага ладу жыцця».

З той жа фірмовай лёгкасцю і недаказанасцю, віртуозна балансуючы на мяжы бытавога нарысу і алегорыі, Муракамі фіксуе свае разважанні, якія набываюць праз штодзённае паўтарэнне «нейкую медытатыўную сутнасць».

«Шчыра пісаць пра бег, — кажа ён, — азначае шчыра пісаць пра самога сябе».

«...я ўсё роўна буду ўцякаць да таго часу, пакуль мне гэта будзе па сілах. Людзі могуць казаць што хочуць, мяне гэта не хвалюе. Кожнаму сваё: скарпіён джаліць, цыкада чапляецца за дрэва, ласось вяртаецца на нераст у родную раку, дзікія гусі выбіраюць сабе пару на ўсё жыццё».

Харукі Муракамі — вялікі знаўца музыкі, у яго калекцыі каля 40 тысяч джазавых пласцінак. Пісьменнік прызнаваўся, што можа слухаць джаз па 10 гадзін у дзень.

У рамане «На поўдзень ад мяжы, на захад ад сонца» галоўны герой — уладальнік джаз-бара. Што характэрна, Муракамі сам некалькі гадоў кіраваў сваім джаз-клубам.

Пісьменнік таксама любіць класіку рок-музыкі. А адзін з самых вядомых раманаў «Нарвежскі лес» названы ў гонар знакамітай песні «Norwegian Wood» гурта «The Beatles».

Сёлета ўсе тры кнігі выйшлі ў фармаце «еўрапакет» у міжнароднай серыі, якую аформіў знакаміты мастак Нома Бар (Noma Bar).

# Біл Клінтан і палітычны трылер

**Паводле паведамлення «The Washington Post», у Тэатры Ўорнера ў Вашынгтоне экс-прэзідэнт ЗША Біл Клінтан прадставіў палітычны трылер «The President Is Missing» («Прэзідэнт знік»), створаны ім у суаўтарстве з адным з самых паспяховых пісьменнікаў свету Джэймсам Патэрсанам.**

Сюжэт такі: Амерыка зноў падвергнулася кібератацы, і толькі прэзідэнт можа выратаваць краіну.

Клінтан раней выдаў 4 кнігі, прычым адна з іх — «Маё жыццё» — стала бэстсэлерам. Вострасюжэтны раман «Прэзідэнт знік» стаў яго першай мастацкай кнігай. Аднак гэта ўжо не першы раман з вобласці мастацкай літаратуры, напісаны амерыканскім прэзідэнтам, хай і былым: у 2003 годзе Джымі Картэр апублікаваў сур'ёзны раман пра вайну за незалежнасць пад назвай «The Hornet's Nest» («Гняздо шэршняў»), а цяперашні прэзідэнт ЗША Дональд Трамп з'яўляецца майстрам аўтаэратычнай фантазіі.

Тым не менш, кніга «The President Is Missing» з'яўляецца незвычайнай падзеяй. Як паведамляюць выдаўцы, гэта першы раман, «які інфармуе пра такія інсайдэрскія дэталі, аб якіх можа ведаць толькі прэзідэнт».

Па словах Біла Клінтана, у кнізе падрабязна апісана жыццё ў Белым доме: ад боўлінга ў склепе да бегавых дарожак у спальні прэзідэнта. Ён сказаў: «Мы сапраўды пастараліся апісаць гэта як мага больш дакладна».

У інтэрв'ю BBC Клінтан распавёў, што пасля прагляду тэлесерыялаў пра жыццё ў Белым доме захацеў паказаць рэальнае жыццё прэзідэнта: «Я паглядзеў першыя некалькі сезонаў«Картачнага доміка». Першы быў добры, вельмі добры». І дадаў: «Я доўга глядзеў«Скандал». Многія працавалі над ім — мае сябры і паплечнікі. Але калі я глядзеў абодва серыялы, я думаў: о божа, многія вырашаць, што гэта нармальна, што людзі ў Белым доме забіваюць іншых людзей. Магчыма, нават прэзідэнт кагосьці забіў. І тады яны не ўспрымуць той факт, што ёсць людзі, якія устаюць кожны дзень і робяць тое, што, як яны думаюць, правільна».

Як прызнаўся абраны на пасаду прэзідэнта ў 1992 годзе Клінтан, праца прэзідэнта — магчыма, самая цяжкая ў свеце. Ён падкрэсліў: «Я хачу, каб чытачы ўбачылі, што гэта рэальныя людзі, якія робяць рэальную працу. Яны прымаюць рашэнні. І іх рашэнні ўплываюць на вашыя жыцці».

Былы прэзідэнт ЗША паведаміў: «Я люблю трылеры. Я чытаю іх у велізарнай колькасці. Вось толькі што скончыў трэцюю кнігу ў трылогіі «Чырвоны верабей» [Джэйсана Мэцьюс]». Ён таксама заявіў, што «фанацее» на Патэрсану і залпам праглынуў усе яго 25 кніг пра псіхолага-дэтэктыва Алекса Крос. Біл Клінтан распавёў: «Я асабліва не захапляўся крымінальнымі і вострасюжэтнымі раманамі да пачатку 1980-х, а потым цалкам пагрузіўся ў іх». З тых часоў Біл Клінтан, паводле яго слоў, песціў мару напісаць уласную кнігу. Ён прызнаўся: «Я заўсёды гэтага хацеў».

# Кніга вершаў да 70-годдзю Ізраіля

Паэтычная анталогія «70», прысвечана 70-годдзю заснавання Дзяржавы Ізраіль, пабачыла свет у Нью-Ёрку.

У яе ўвайшлі вершы 70 рускамоўных сучасных паэтаў з 14 краін свету: Ізраіля, ЗША, Расіі, Украіны, Беларусі, Латвіі, Эстоніі, Германіі, Францыі, Вялікабрытаніі, Італіі, Швецыі, Ірландыі і Аўстраліі, якія пісалі пра Ізраіль, яго гісторыю, народ, традыцыі і культуру.

Адзін з арганізатараў праекта і заснавальнікаў руска-амерыканскага выдавецтва «KRiK Publishing House», якое выпусціла кнігу, Рыка Кацова ў гутарцы паведаміла: «У анталогію ўвайшлі вершы на тэму Ізраіля і яўрэйства сучасных аўтараў. Сярод іх — Вераніка Даліна, Аляксандр Гарадніцкі, Навум Каржавін, Уладзімір Гандэльсман і многія іншыя вядомыя паэты».

Выдавец таксама дадала: «Усе тэксты, сабраныя ў анталогіі, зусім розныя як па стылі, так і па настроі. Аўтары закранаюць тэмы гісторыі і традыцый, Халакоста, эміграцыі і іміграцыі, паўсядзённага жыцця Ізраіля і ўражанняў ад яго наведвання. У тэкстах прасочваецца яўрэйскія лёсы і характары, пакуты народа і яго нязменная здольнасць пасмяяцца з сябе. Кніга атрымалася такой жа эклектычнай, як і сам Ізраіль, дзе зусім арганічна суіснуюць тысячагадовая гісторыя і суперсучасныя дасягненні ў самых розных галінах, старадаўнія традыцыі і нястрымная энергія маладой дзяржавы».

Праект быў прэзентаваны 8 мая ў Нью-Ёрку, а 12 чэрвеня — у Іерусаліме.

Літаратурная Беларусь
Кіраўнік праекта «ЛІТАРАТУРНАЯ БЕЛАРУСЬ» Алесь ПАШКЕВІЧ. Рэдактар Барыс САЧАНКА.
Тэлефон для даведак: (8-017) 200-80-91. Адрас электроннай пошты: sbp@tut.by

# Польшча–1918: вяртанне страчанай дзяржаўнасці

Анджэй ХВАЛЬБА

**Больш за стогадовыя намаганні палякаў, скіраваныя на вяртанне незалежнасці дзяржавы, скончыліся згодна з традыцыяй галівудскіх фільмаў — шчаслівым фіналам. Аднак...**



Юзаф Пілсудскі. Львоў, 1920 год

Фота www.diletant.media

У Еўропе ў 1918–1921 гадах з'явілася больш за дзесяць дзяржаў і, адпаведна, новая палітычная архітэктура Еўропы. Сярод іх адны, як, напрыклад, Польшча, вярталіся да перапыненай у канцы XVIII стагоддзя дзяржаўнай гісторыі. Іншыя, як Латвія, Эстонія, Славакія ў складзе Чэхаславакіі і Славенія ў складзе федэратыўнай ДСХС, з'явіліся на карце Еўропы ўпершыню.

Польшча, якая пачала адраджацца з канца кастрычніка 1918 года, мэтанакіравана звярнулася да спадчыны і традыцый сваёй папярэдніцы — польска-літоўскай дзяржавы. Гэта была дзяржава, якая, між іншым, распрацавала ідэю саюзу суверэнных дзяржаў. Сучасны Еўрапейскі саюз выкарыстоўвае спадчыну саюзу Польшчы і Літвы. Нягледзячы на розныя інтарэсы палітычнай эліты дзвюх дзяржаў, увесь час перамагаў вышэйшы інтарэс і перакананне, што саюз — гэта выгаднае для абодвух бакоў аб'яднанне. Цанілася наяўнасць грамадзянскіх свабод і агульнага парламента (сейма). Польскі парламент XXI стагоддзя невыпадкова звяртаецца да свайго папярэдніка і называецца Сеймам. Згодна з гэтай традыцыяй дзейнічаюць таксама літоўцы, парламент якіх называецца «Sejmas», і латышы — «Saeima». Палякі, літоўцы, латышы, а таксама ўкраінцы і беларусы з гонарам гавораць пра першую ў Еўропе і другую ў свеце канстытуцыю, прынятую 3 мая 1791 года.

Польскі палітычны мысляр Гуга Калантай увёў у тэкст канстытуцыі запіс пра палітычную адказнасць выканаўчай улады (урада) перад заканадаўчай (парламентам), чальцы якога выбіраюцца выбаршчыкамі, дзякуючы чаму парламент прадстаўляе суверэна. У XIX і XX стагоддзях у многіх краінах свету былў уведзены прынцып Калантая.

Народы і дзяржавы, якія з'яўляюцца пераемнікамі Рэчы Паспалітай, звяртаюцца і да традыцыі палітычнай і рэлігійнай талерантнасці. У 1573 годзе польская палітычная эліта ў акце канфедэрацыі прыняла запіс аб рэлігійнай талерантнасці на землях Рэчы Паспалітай, гэты акт быў унесены ў спіс сусветнай спадчыны ЮНЕСКА. Габрэйская супольнасць, якую пераследавалі на захадзе Еўропы і выганялі адтуль, знайшла бяспечны прытулак у Рэчы Паспалітай. Дзякуючы падтрымцы каралёў і Сейма габрэі атрымалі правы і свабоды, параўнальныя з саслоўнымі правамі. У іх нават быў уласны заканадаўчы орган. Адкрытасць палітычнай эліты Рэчы Паспалітай для тых, каму патрэбна была дапамога, прывяла да з'яўлення тут выгнаных з Галандыі менанітаў і шатландцаў, якія ўцякалі ад рэлігійнага пераследу. Сярод перасяленцаў былі таксама грэкі, жыхары Італіі, армяне, караімы, рускія, нямецкія пратэстанты. Усе яны ўзбагачалі культуру Рэчы Паспалітай і ўносілі ў агульную скарбніцу свае каштоўнасці.

Нягледзячы на намаганні рэфарматараў у канцы XVIII стагоддзі Рэч Паспалітая перастала існаваць. У супрацьстаянні з трыма моцнымі імперыямі — Расіяй, Аўстрыяй і Прусіяй — у яе не было шанцаў. Аднак для палякаў свабода і незалежнасць — гэта непарыўна звязаныя каштоўнасці. Пра гэта сведчаць арганізаваныя ў XIX стагоддзі пасля падзелаў дзяржавы польскія падпольныя ўтварэнні, якія змагаліся за незалежнасць, нацыянальныя паўстанні: пад кіраўніцтвам Касцюшкі ў 1794 годзе, паўстанне 1830–1831 гадоў, паўстанне 1863–1864 гадоў, удзел у «Вясне народаў» у Аўстрыі, Прусіі, Венгрыі, Заходняй Германіі, Францыі, Італіі, пад польскім, а пазней перанятым іншымі народамі дэвізам: «За нашу і вашу свабоду».

У перыяд паўстання 1830–1831 гадоў польскі паўстанчы Сейм зацвердзіў песню «Яшчэ Польшча не загінула» ў якасці нацыянальнага гімна, а бела-чырвоныя колеры — як нацыянальныя колеры і сімвалы, так засталося да сёння. Палякі былі ўпэўнены, што толькі ўласная дзяржава гарантуе ім свабоднае і адпаведнае чаканням і традыцыі духоўнае і матэрыяльнае развіццё. Таму ў польскім нацыянальным пантэоне знаходзяцца постаці, якія са зброяй альбо пяром у руках змагаліся за вяртанне Польшчы яе месца ў Еўропе — сярод свабодных са свабоднымі і роўных з роўнымі. Найбольш выдатныя з іх, як вайскоўцы Касцюшка і Панятоўскі, а таксама паэты Міцкевіч і Славацкі, былі пахаваны на Вавелі ў Кракаве, у каралеўскім некропалі. Роўныя каралям. Пасля смерці ў 1935 годзе на Вавелі былі таксама пахаваны астанкі першага маршала і аднаўляльніка Польшчы Юзафа Пілсудскага.

На працягу ўсяго XIX стагоддзя ў рознай ступені важным было польскае пытанне — пытанне вяртання Польшчы ў пэўнай тэрытарыяльнай канфігурацыі. Дзякуючы Напалеонаўскай эпосе ў складзе французскай Еўропы было створана Варшаўскае княства, а пасля таго, як яно перастала існаваць, да 1832 года дзейнічала незалежнае, канстытуцыйнае, ліберальнае Польскае каралеўства ў складзе персанальнага саюзу з дынастыяй Раманавых, а да 1846 года функцыянаваў незалежны вольны горад Кракаў. Нягледзячы на тое, што нацыянальныя паўстанні не дасягнулі поспеху, яны ўвесь час узварушвалі гісторыю і нагадвалі пра польскае пытанне.

Пакуль існаваў саюз трох захопнікаў — Прусіі, Аўстрыі і Расіі — вяртанне незалежнасці было немагчымым. Аднак пад канец XIX стагоддзя ў Еўропе сфармаваліся два ваенныя блокі — блок Цэнтральных дзяржаў і краін «Антанты». Упершыню за больш чым сто гадоў шляхі захопнікаў кардынальна разышліся.

У 1916 годзе палітычная сітуацыя ў Еўропе і свеце пачала складвацца на карысць польскіх інтарэсаў. Па-першае, Германія і яе саюзнікі занялі шматлікія тэрыторыі на ўсходзе, дзе жылі розныя народы. Берлін вырашыў стварыць на ўсходзе сістэму дзяржаў, фармальна незалежных і адначасова ўзаемазалежных палітычна і эканамічна, якімі кіравалі нямецкія манархі, што павінны былі ўтвараць Нямецкі саюз у Еўропе. Да ідэі стварэння польскай дзяржавы Германію дадаткова падштурхнулі Польскія легіёны, добраахвотніцкія атрады, якія з пачатку вайны змагаліся побач з войскамі Цэнтральных дзяржаў. Іх нефармальным лідарам быў Пілсудскі. У 1916 годзе Германія і Аўстрыя прызналі Польскія легіёны лепшымі вайсковымі фарміраваннямі на Усходнім фронце.

Першым дакументам міжнароднага ўзроўню, які распачаў працэс адраджэння Польшчы, быў акт ад 5 лістапада 1916 года, падпісаны двума імператарамі — Вільгельмам II і Францам Іосіфам I. Акт прадугледжваў стварэнне Польскага каралеўства са сталіцай у Варшаве. На працягу наступных месяцаў, побач з акупацыйнымі, былі створаны польскія дзяржаўныя ўлады, урад, трохасабовае рэгенцтва.

1917 год прынёс чарговыя добрыя навіны, якія адпавядалі польскім спадзяванням. Спачатку ў Расіі новыя паслярэвалюцыйныя ўлады абвясцілі, што Польшча можа быць створана, хоць пажадана ў складзе свабоднага саюзу з новай Расіяй, а ў красавіку ЗША пачалі вайну на баку саюзнікаў. У пасланні да Кангрэса ЗША ад студзеня 1918 года прэзідэнт Вудра Вільсан у 13-м пункце абвясціў аб стварэнні незалежнай Польшчы са свабодным выхадам да мора (Балтыйскага) як аб адной з мэт вайны. Істотны ўплыў на змест 13-га пункта аказаў сусветна вядомы польскі музыкант, піяніст і кампазітар Ігнацы Ян Падэрэўскі, які сябраваў з амерыканскім прэзідэнтам.

Пасля амерыканцаў права палякаў на стварэнне ўласнай дзяржавы прызналі і еўрапейскія саюзнікі. У Францыі была створана саюзная польская армія пад камандаваннем былога афіцэра Польскіх легіёнаў генерала Юзафа Халера, палітычна падначаленая Нацыянальнаму польскаму камітэту (НПК) з сядзібай у Парыжы, якім кіраваў Раман Дмоўскі. НПК выступаў у якасці афіцыйнага прадстаўніка Польшчы. Ён меў права выдаваць польскія пашпарты і браць крэдыты ад імя Польшчы на яе будучы рахунак.

У 1918 годзе будучыня Польшчы была забяспечана. Адраджэнне было гарантавана, як і параза блока Цэнтральных дзяржаў. Але было пытанне: які польскі палітычны лагер атрымае ўладу ў адроджанай Польшчы і хто з палітыкаў? Пілсудскі ці Дмоўскі? Перамог Пілсудскі, некалі былы аўстрыйскі саюзнік, а з ліпеня 1917 года нямецкі вязень, які ўтрымліваўся ў Магдэбургскай крэпасці. У Варшаву Пілсудскі вярнуўся 10 лістапада 1918 года. Яго сустракалі як збаўцеля, месію. Ён стаў часовым начальнікам дзяржавы. Разам з урадам і польскім народам ён стварыў Польшчу — адкрытую, талерантную і дэмакратычную рэспубліку.

Пытаннем адкрытым і вельмі складаным заставаліся межы Польшчы, бо акрамя палякаў пераемнікамі Рэчы Паспалітай былі таксама літоўцы, латышы, украінцы, беларусы — яны ўсе стварылі ўласныя нацыянальныя дзяржавы, часта на спрэчных тэрыторыях. Здаралася, што на адну і тую ж тэрыторыю прэтэндавалі дзве і нават тры краіны. На этнічна і рэлігійна дыферэнцыраваных тэрыторыях было складана вызначыць справядлівыя межы. У гэтай сітуацыі канфлікты і войны паміж пераемнікамі Рэчы Паспалітай за як мага большыя яе кавалкі былі непазбежнымі.

Канчатковыя польскія межы сфарміраваліся ў 1918–1923 гадах дзякуючы пераможнай вайне з бальшавіцкай Расіяй у 1920 годзе. Адроджаная Польшча не магла быць нацыянальна аднароднай, як і суседнія дзяржавы, бо на працягу стагоддзяў на тэрыторыі Рэчы Паспалітай жылі побач людзі, якія карысталіся рознымі мовамі, належалі да розных культур. Усе краіны новай Еўропы былі шматнацыянальнымі і шматрэлігійнымі. У Польшчы было шмат нацыянальных меншасцяў, сярод якіх найбольш буйнымі былі ўкраінская і габрэйская, адначасова ў суседніх краінах жылі больш за 2 мільёны палякаў.

Напружанне ўтрымлівалася і паміж хрысціянамі, у тым ліку палякамі, і шматлікім габрэйскім насельніцтвам, якое спадзявалася, што будучыя дзяржавы гарантуюць ім культурна-нацыянальную аўтаномію. Пасляваенная беднасць, голад, разбурэнні, эпідэміі ўплывалі на адносіны паміж людзьмі і этнасамі.

Але больш за стогадовыя намаганні палякаў, скіраваныя на вяртанне незалежнасці дзяржавы, скончыліся згодна з традыцыяй галівудскіх фільмаў — шчаслівым фіналам. Аднак фільм пра змаганне палякаў здымаўся ў Цэнтральнай Еўропе. Сярод рэжысёраў і адначасова стваральнікаў польскай дзяржаўнасці былі вядомыя і паважаныя ў Польшчы і свеце асобы: Тадэвуш Касцюшка, Юзаф Панятоўскі, Адам Ежы Чартарыйскі, генерал Юзаф Бем, Рамуальд Траўгут, Юзаф Пілсудскі, Ігнацы Ян Падэрэўскі. Без іх мудрасці і смеласці, без іх бачання будучыні мары палякаў пра ўласную дзяржаву ніколі б не здзейсніліся.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### РАСІЯ. Абралі галоўнага шамана

Міжнародны шаманскі з'езд «Дух Мядзведзя», які прайшоў у Тыве, абраў вярхоўным шаманам Расіі чалавека з вельмі складаным імем — Кара-оол Дапчун-оол (ён, дарэчы, кіраўнік мясцовай рэлігійнай арганізацыі шаманаў). За дзеючага вярхоўнага шамана Рэспублікі Тыва прагаласавалі амаль аднагалосна. Шаманы, як кажа новы правадыр, маюць патрэбу ў лідары, які змог бы арганізаваць дыялог паміж традыцыямі розных народаў. Сярод мэтаў сходу была таксама выпрацоўка стратэгіі «прасоўвання шаманізму і аб'яднання шаманаў для вырашэння надзённых пытанняў». Але галоўная мэта аб'яднання — увядзенне шаманізму ў прававое поле. «Разумееце, цяпер мы нідзе. Нас ставяць у адзін шэраг з ведзьмакамі, экстрасэнсамі, чараўнікамі і гэтак далей, а гэта не так: шаман — гэта духоўная асоба», — скардзіцца галоўны шаман РФ. Цікава, што ў яго ёсць шаманы-канкурэнты, якія байкатавалі з'езд. На думку гэтай фракцыі, выбары галоўнага шамана і аб'яднанне шаманаў у адну структуру — гэта рудымент савецкіх часоў, калі ўсе формы грамадскай дзейнасці імкнуліся цэнтралізаваць і падпарадкаваць дзяржаве.

**Паводле расійскай прэсы**

### ІРЛАНДЫЯ. Бога дазволяць абражаць

Не паспелі абвясціць вынікі травеньскага рэферэндуму, які дазволіў у Ірландыі аборты, як прагрэсіўныя ірландцы моцна задумаліся наконт яшчэ аднай папраўкі ў тэкст Канстытуцыі (яна была прынятая ў 1938 годзе). На старонках ліберальнай «The Irish Times» заклікаюць выкрасліць з мясцовай Канстытуцыі параграф, які забараняе блюзнерства. За публічны здзек з Бога можна атрымаць да сямі гадоў катаргі або буйны штраф. У прынцыпе, на архаічны закон даўно глядзелі скрозь пальцы, хаця перыядычна каталіцкая грамадскасць біла ў званы. Апошні раз такое здарылася ў 2015-м, калі Ірландыю наведаў вядомы брытанскі комік Стывен Фрай. Падчас шоў ён заявіў, што «Бог — гэта эгаіст і нават, магчыма, маньяк». Адзін з мясцовых клерыкалаў вельмі абурыўся і падаў на брытанца ў суд. Следства цягнулася амаль два гады, і ў выніку справу закрылі праз адсутнасць складу злачынства. Каб не паўтараліся падобныя камічныя гісторыі, «The Irish Times» і прапануе змены ў Асноўным законе. Вернікам у якасці кампенсацыі абяцаюць прыняць простыя закон, якія забараняе заклікі да рэлігійнай нянавісці. Ужо нават агучана дата магчымага плебісцыту — кастрычнік гэтага года.

**Паводле брытанскай прэсы**

### Швецыя. Неўзабаве выхад з ЕС

Магчыма, Швецыя пакіне Еўрасаюз ужо ўвосень гэтага года. Менавіта такую будучыню для краіны намаляваў лідар партыі «Шведскія дэмакраты» Йімі Акесан. Абяцанне вельмі амбіцыйнае, асабліва з улікам таго, што толькі 20 працэнтаў шведаў выступаюць за выхад са складу ЕС, а больш за 50 працэнтаў падтрымліваюць сяброўства ў Еўрасаюзе. Аднак Акесан аптымістычна глядзіць наперад. Swexit (так ужо загадзя называюць працэс разводу Брусэля і Стакгольма), на яго думку, непазбежны, паколькі ўвосень у Швецыі адбудуцца выбары, і электарат даведаецца адну непрыемную навіну. Праз выхад са складу ЕС Вялікабрытаніі ўнёсак для краінаў-сябраў ЕС у супольны саюзны бюджэт будзе павялічаны. У прыватнасці, шведам трэба будзе заплаціць на мільярд еўра больш, што, натуральна, выклікае крамольную думку: ці патрэбна краіне тое сяброўства ў Еўрасаюзе? Так ці інакш, каб вынесці прапанову пра выхад Швецыі з ЕС на рэферэндум, еўраскептыкам патрэбна мець 117 дэпутатаў у парламенце. Пакуль іх усяго 42, хаця «Шведскія дэмакраты» хутка набіраюць папулярнасць на антыміграцкай рыторыцы. Цяпер яны маюць другі рэйтынг сярод палітсілаў краіны.

**Паводле брытанскай прэсы**

### КАЗАХСТАН. Назарбаеў сыходзіць

Касым-Жомарт Такаеў, спікер сената парламенту Казахстана, агаломшыў казахскую грамадскасць сваім інтэрв'ю на BBC 20 чэрвеня. Падчас размовы журналіст спытаў пра перспектывы ўдзелу Назарбаева на выбарах прэзідэнта ў 2020 годзе, адначасова нагадаўшы, што Елбасы ўжо споўніцца 80 гадоў. «Шчыра кажучы, я не веру, што прэзідэнт Назарбаеў пойдзе на выбары ў 2020 годзе», — сказаў у адказ Такаеў. Сама ідэя, што ўжо праз два гады краінай будзе кіраваць не Назарбаеў, а іншы чалавек, шакавала казахаў. Доўгае знаходжанне ва ўладзе Нурсултана Назарбаева заўсёды называлася галоўнай гарантыяй стабільнасці. Пакуль дамінуюць дзве ацэнкі. Адны кажуць, што сенатар дапусціў скандальны пасаж, каб выратаваць імідж Казахстана як дэмакратычнай краіны. На думку іншых, наўрад ці чыноўнік зрабіў бы такую заяву без дазволу зверху. Трэба ўзгадаць, што 31 мая Сенат парламента Казахстана ўхваліў законапраект, які замацоўвае за першым прэзідэнтам Казахстана права пажыццёва ўзначальваць Савет бяспекі. Саўбез, у сваю чаргу, кантралюе магчымага новага прэзідэнта. Праўда, дакумент гэты пакуль не падпісаны і не ўступіў у сілу.

**Паводле казахскай прэсы**

# Хорст Зеехофер — новы канцлер ФРГ?

*Алег НОВІКАЎ*

**Міграцыйны крызіс настолькі расхістаў нямецкі ўрад, што палітолагі не выключаюць самых неверагодных сцэнараў.**



Фота www.radio.cz

Мала хто ведае, што ў 1976 годзе Франц Ёзэф Штраўс, харызматычны лідар баварскага Хрысціянска-сацыяльнага саюза (CSU) планаваў перагледзець статус сваёй партыі ў нямецкай палітыцы. На думку Штраўса, яго структура павінна была выйсці за межы Баварыі і пачаць працаваць на агульнанямецкім узроўні. Аднак праз пратэст Саюза хрысціянскіх дэмакратаў (CDU) — партнёрскай партыі — ад напалеонаўскага плану давялося адмовіцца. Гельмут Коль, на той час лідар CDU, прыстрашыў Штраўса парытэтным адказам: хрысціянскія дэмакраты маглі адкрыць офіс у Мюнхене. Штраўс у выніку даў задні ход.

На думку палітолагаў, сёння ў баварцаў ёсць унікальны шанец рэалізаваць фантазіі Штраўса. Паводле апошніх сацыялагічных апытанняў, у выпадку трансфармацыі CSU у фармат федэральнай партыі, яна можа разлічваць на 18 працэнтаў галасоў. Гэта другі паказчык у партыйным спаборніцтве. Больш могуць набраць толькі хрысціянскія дэмакраты (22 працэнты).

Тое, што традыцыйны выбаршчык CDU гатовы здрадзіць Меркель, тлумачыцца апошнімі разборкамі ўнутры кансерватыўнага лагеру. Розныя, і нават часам полюсныя погляды CDU і CSU на праблему міграцыі дасягнулі кульмінацыі, калі Хорст Зеехофер, кіраўнік МУС і прадстаўнік CSU, на пачатку чэрвеня прапанаваў план вырашэння праблемы ўцекачоў.

Зеехофер прапануе, каб мігранты без дакументаў аўтаматычна, адразу на мяжы, атрымлівалі адмову. Не могуць заехаць у краіну і тыя, хто быў дэпартаваны раней. Паводле міністра, трэба адмовіцца ад грашовага прынцыпу дапамогі ўцекачам. На думку Меркель, такая практыка падарве еўрапейскія прынцыпы міграцыйнай палітыкі. Не кажучы пра тое, што прапанаваны Зеехоферам план — гэта ўвогуле стылі выглядзе «бунт на караблі». У прагераме ўраду падобных кампетэнцый ніхто кіраўніку МУС не надаваў. Адным словам, бакі не на жарт паспрачаліся. Зеехофер нават пагражае адстаўкай.

Дасюль не зразумела, як у Берліне збіраюцца паслабіць эскалацыю. Адсюль сапраўдны карнавал спекуляцый на старонках нямецкай прэсы. Найбольш мяккі сцэнар магчымай развязкі — усё неяк само сабой наладзіцца. Аднак наўрад ці гармонія працягнецца вельмі доўга — у тым ліку праз складаныя асабістыя адносіны паміж кааліцыянтамі. Зеехофер дазволіў сабе нават публічна сказаць на адрас Меркель некарэктную фразу: «Я не магу больш працаваць з гэтай жанчынай».

Існуе яшчэ адзін варыянт — Меркель і Зеехофер падаюць у адстаўку, што, праўда, з улікам характару канцлера, цяжка ўявіць. Таксама не ўкладаецца ў галаву схема, калі яна капітулюе перад Зеехоферам, даўшы зялёнае святло яго праекту. З катэгорыі фантастычных — і версія, паводле якой адна з азіяцкіх або афрыканскіх краінаў нечакана пагодзіцца за адпаведныя грошы адкрыць на сваёй тэрыторыі лагер, куды будуць накіроўвацца ўсе мігранты, якія штурмуюць кардоны ФРГ.

Таму большасць каментатараў сапраўды не выключае сыходу баварцаў у аўтаномнае плаванне, што аўтаматычна выклікае ўрадавы крызіс. Кааліцыя, дзе пасля эвакуацыі CSU застануцца кансерватары і эсдэкі, страціць дэпутацкую большасць. У такой сітуацыі Меркель павінна шукаць трэцяга — у асобе, напрыклад, Зялёных, або паспрабаваць руліць, не маючы большасці да 2021-га, калі адбудуцца чарговыя выбары.

**Сам факт краху кансерватыўнага блоку будзе маральнай катастрофай для Меркель, якая не здолела захаваць міжпартыйную кааперацыю, што цягнецца з 1949 года. Супраць Меркель спрацуе і стомленасць ад яе выбаршчыкаў**

Аднак усе чакаюць выбараў, паколькі без CSU кабінет будзе мець слабую легітымнасць у грамадстве. І, як сведчаць згаданыя вышэй дадзеныя сацыёлагаў, найбольш верагоднымі кандыдатамі на пасаду канцлера будуць менавіта Меркель і Зеехофер. Хто можа перамагчы ў гэтай дуэлі ўчорашніх паплечнікаў?

Кансерватыўная прэса робіць стаўку на Зеехофера. Як піша «Junge Freiheit», сам факт краху кансерватыўнага блоку будзе маральнай катастрофай для Ангелы Меркель, якая не здолела захаваць міжпартыйную кааперацыю, што цягнецца з 1949 года. Супраць Меркель спрацуе і стомленасць ад яе выбаршчыкаў — як-ніяк, ва ўладзе Меркель ужо 13 гадоў.

Нарэшце, як лічаць некаторыя каментатары, дапамогуць Хорсту Зеехоферу і тыя, хто абірае правапапулісцкую «Альтэрнатыву для Германіі» (AfD). Гэта партыя, па сутнасці, — пратэстная тусоўка, дзе шмат праварадыкалаў. Такое суседства шмат каму з «альтэнатыўшчыкаў» не падабаецца, і фракцыя гатовая галасаваць за больш правую за CDU памяркоўную кансерватыўную партыю, а Зеехофер для іх — проста ідэальны кандыдат.

Праўда, гучаць і іншыя галасы. Як адзначае часопіс «Der Spiegel», выбары, на якіх галоўнай тэмай будзе міграцыйнае пытанне, робяць адназначным фаварытам «Альтэрнатыву для Германіі», што ў рамках кампаніі будзе даваць самыя неверагодныя папулісцкія абяцанкі.

Між тым, час ідзе — і Меркель трэба прымаць рашэнне наконт свавольнага міністра. Хутчэй за ўсё, разгадку рэбуса мы пабачым бліжэйшым часам. І, дарэчы, на рашэнне Меркель можа паўплываць трагедыя зборнай ФРГ на Мундыялі. Ёахім Лев — трэнер нямецкай зборнай — у вачах правых немцаў выглядае як Меркель нумар два. Узгадваюць і тое, што Лев, як і Меркель, вельмі доўга займае пасаду кіраўніка (з 2006 года). Не прайшлі жартаўнікі міма падабенства прычосак Меркель і Лева. Таксама трэнеру закідаюць і сімпатыі да футбалістаў іншаземнага паходжання (маўляў, гэта калька міграцыйнай палітыкі Меркель) і, нарэшце, упартае нежаданне Ёахіма нешта мяняць у гульні каманды. Гучнае фіяска зборнай ФРГ, якая ўпершыню ў гісторыі не выйшла з групавой стадыі Чэмпіянату свету, дакладна стымулюе раздражненне немцаў на адрас канцлера з усімі адпаведнымі палітычнымі наступствамі.



Фота www.ipolitics.ca

# Алігарх ідзе ва-банк

Алег НОВІКАЎ

**У Малдове — эскалацыя палітычнай сітуацыі праз адмену выбараў мэра сталіцы. Пра прычыны і магчымыя наступствы «Новаму Часу» распавядае малдоўска-ўкраінскі грамадскі актывіст Анатоль Чубак.**

***— Празаходні палітык Андрэй Нэстасе 3 чэрвеня выйграў выбары мэра Кішынёва — ён набраў у другім туры 52 працэнты галасоў. Нечакана для ўсіх 19 чэрвеня гарсуд Кішынёва прызнаў вынікі галасавання несапраўднымі. Суддзі мяркуюць, што Нэстасе падчас кампаніі здзейсніў «парушэнні, якія паўплывалі на ход галасавання». Нэстасе падаў апеляцыю, але нічога не дамогся. У выніку з 24 чэрвеня тысячы жыхароў малдоўскай сталіцы выходзяць на вуліцы. У паветры адчуваецца пах Майдану.***

***Ва ўсёй гэтай гісторыі самае загадкавае — чаму алігарх Уладзімір Плахатнюк, які кантралюе судовую сістэму краіны, вырашыў адмяніць вынікі галасавання? Хіба ён не пазіцыянуе сябе як праеўрапейскі палітык? Нашто праеўрапейскаму палітыку адмяняць перамогу іншага праеўрапейскага палітыка?***

— Дэмакратычная партыя Плахатнюка і яе ўрад не маюць манаполіі на праеўрапейскі вектар. У Малдове дзейнічаюць платформа «Годнасць і праўда» Андрэя Нэстасе і «Дзеянне і салідарнасць» Маі Санду, якія знаходзяцца ў апазіцыі да дэмакратаў. Відавочна, што адмена «па бязмежжы» суддзямі Плахатнюка выбараў мэра, на якіх перамог кандыдат праеўрапейскай апазіцыі, адлюстроўвае глыбінную барацьбу паміж рэжымам і апазіцыяй за падтрымку з боку Захаду. Перамога апазіцыі ў Кішынёве стала шокам для Уладзіміра Плахатнюка і рэзка змяніла баланс сілаў унутры празаходняга блоку на карысць групоўкі Санду. Узнікла пагроза, што Захад будзе «зліваць» алігарха. Дадатковая прычына для непакою — навіны з суседняй Румыніі, дзе суд прысудзіў за карупцыю да трох з паловай гадоў пазбаўлення волі лідара ўрадавай (!) Сацыял-дэмакратычнай партыі і кіраўніка ніжняй палаты парламента Лівіў Драгню. Гэта — вынік працы створаных па загадзе ЕС антыкарупцыйных структур. Таму малдоўскі алігарх вырашыў рэзка ўзняць стаўкі ў палітычнай гульні.

***— Чаму Захад намагаецца адмовіцца ад Плахатнюка?***

— Гэта відавочны крок з улікам шалёнай непапулярнасці Плахатнюка, ілюстрацыяй чаго былі апошнія выбары таго ж кішынёўскага мэра. На іх кандыдат ад Дэмпартыі пацярпеў катастрафічнае фіяска. Акрамя таго, самі Нэстасе і Санду ўвесь час кажуць, што алігархічная ўлада дыскрэдытуе празаходні выбар і адмаўляюцца ад супрацоўніцтва з дэмакратамі.

***— На што спадзяецца алігарх, які пачаў такую небяспечную гульню?***

— Алігарх вырашыў пайсці ва-банк і навязаць гульню паводле сваіх мафіёзных правілаў. Цалкам незаконным рашэннем так званай малдоўскай юстыцыі (у яе «рэфармаванне», па іроніі лёсу, заходнікі ўклалі шалёную хеўру грошай), Плахатнюк дасылае заходнім сталіцам сігнал: «Рана спісваць мяне з рахункаў. Я — галоўны кіраўнік у Малдове. Вам усё роўна і надалей давядзецца мець справу са мной». Ён дае зразумець, што без яго праект стварэння пасля восенькіх выбараў новай празаходняй кааліцыі на чале з Санду можа не адбыцца. Плахатнюк шантажуе заходніх палітыкаў па прынцыпе: «Ці вы са мной — ці ўвогуле ніяк».

***— Якая рэакцыя Захаду на штукарствы алігарха?***

— Пакуль усё абмежавалася серыяй рэзалюцый і заяў, у якіх крытыкуюць адмену вынікаў выбараў. Хаця Захад тэхнічна здольны пачаць «рашэнне пытання Плахатнюка»: напрыклад, увесці супраць яго санкцыі, замарозіць яго активы або даць рэальны ход крымінальным справам, распачатым супраць алігарха ў заходніх юрысдыкцыях. Расія, дарэчы, завочна арыштавала Плахатнюка, а вось Захад чаго цягне? А цягне таму, што такі арышт можа разбурыць геапалітычны баланс у Кішынёве, дзе ўрад дэмакратаў блакуе ініцыятывы прарасійскага прэзідэнта Ігара Дадона. Апошні прыклад — рэзалюцыя пра вывад расійскіх войскаў з Прыднястроўя на сесіі Генасамблеі ААН, якую прапанаваў малдоўскі ўрад. Такім чынам Плахатнюк яшчэ больш набівае сабе цану ў вачах Захаду.

***— Як апошнія падзеі адбіліся на пазіцыях вядучай малдоўскай прарасійскай партыі сацыялістаў, якой кіруе прэзідэнт Ігар Дадон?***

— Думаю, кепска, паколькі сацыялісты міжволі сталі інструментам у гульнях алігарха. Плахатнюк падтрымліваў кандыдата сацыялістаў у другім туры выбараў мэра. Менавіта праз скаргу таго кандыдата суд адмяніў вынікі галасавання. Пасля Дадон асабіста вітаў такое рашэнне. У выніку сацыялістаў перасталі разглядаць як сапраўдную апазіцыйную партыю. Больш за тое — некаторыя з левых сёння выходзяць на мітынгі Санду і Нэстасе. Людзі кажуць: а што яшчэ рабіць, калі замест склікання мітынгу з правільнымі лозунгамі лідар левай апазіцыі паспяшаўся ў Маскву прасіць кіраўніцтва «Газпрома» прызначыць на пасаду дырэктара «Малдова-газ» чалавека Плахатнюка?

***— Чым могуць скончыцца цяперашнія пратэсты?***

— Зараз усё залежыць ад лідараў дэмакратычнай апазіцыі, якую Плахатнюк намагаецца загнаць у пастку. З аднаго боку, яны могуць працягваць Майдан, аднак ёсць небяспека, што ён будзе фальстартам у кантэксце восенькіх парламенцкіх выбараў. Падтрымліваць тонус так доўга — вельмі цяжка. Адмовіцца ад пратэстаў — азначае публічна падпарадкавацца прававому сваволлю і страціць твар. Трэці варыянт, якога дамагаецца Плахатнюк, — пагадзіцца ўключыць яго ў празаходнюю кааліцыю на парламенцкіх выбарах. За гэта суд, напэўна, можа прызнаць Нэстасе кішынёўскім мэрам. Ёсць яшчэ адзін важны нюанс. Шмат хто параўноўвае цяперашні стан Плахатнюка з Парашэнкам, якому Захад таксама шукае альтэрнатыву. Калі ў Плахатнюка атрымаецца прапятляць, то, магчыма, малдаўскія тэхналогіі будуць пазычаныя Кіевам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



### Сіндза Абэ

Прэм'ер японскага ўрада трапіў пад крытыку з-за прынятага ў сакавіку закона, які радыкальна пашырыў правы японскай моладзі.

Новы закон дазваляе маладым японцам па дасягненні 18-гадовага ўзросту купляць алкаголь, мець банкаўскія карткі і, нарэшце, заключаць шлюб — прычым, без згоды бацькоў. Раней такое дазвалялася рабіць толькі з дасягненнем 20 гадоў. Лібералізацыя, на думку ініцыятараў, павінна спрыяць працэсу больш ранняга ўступлення моладзі ў дарослае жыццё, што ў тым ліку палепшыць дэмаграфічную сітуацыю.

Аднак рэалізацыя закона на практыцы мела незвычайныя наступствы. Нечакана супраць новай моладзевай палітыкі Сіндза Абэ выступілі нацыяналісты, якіх падтрымліваюць вытворцы нацыянальнага адзення кімано (менавіта ў кімано ў Японіі павінны быць апранутыя ўдзельнікі шлюбных цырымоній). На думку крытыкаў, згаданая рэформа пахавае нацыянальную культуру вопраткі і сектар вытворчасці кімано. Справа ў тым, што, вызваліўшыся ад дыктату бацькоў, дзеці, як сведчыць практыка, цалкам ігнаруюць традыцыі і заключаюць шлюбы ў чым заўгодна.

Зрэшты, маладых японцаў можна зразумець. Кімано — вельмі дарагі прадмет гардэроба. Арэнда шлюбнага кімано можа каштаваць некалькі тысяч долараў.

### Юлія Цімашэнка



Лідарка ўкраінскай партыі «Батьківщина» прымусіла гаварыць пра сябе ўсю краіну пасля таго, як правяла форум «Новы курс».

Гэтае мерапрыемства разглядалася ўсімі як старт яе прэзідэнцкай кампаніі. Многія чакалі ад «лэдзі Ю» чарговай порцыі нястрыманага папулізму. Але нечакана для ўсіх Цімашэнка адмовілася ад раздачы абяцанняў, хіба што заклікала ўсіх перафарматаваць Украіну ў парламенцкую рэспубліку.

Значна цікавейшымі сталі яе заклікі выкарыстоўваць сучасныя тэхналагічныя працэсы для будаўніцтва ўкраінскай дзяржаўнасці. Стратэгічна прапануецца ўвесці электронную дэмакратыю, змагацца з карупцыяй з дапамогай блокчэйнаў, вырашаць усе важныя для краіны пытанні рэферэндумамі, як у Швейцарыі, наладзіць выпуск 3D-прынтэраў.

Аўдыторыя не чакала столькі разумных слоў ад Цімашэнкі, якая з'яўляецца лідаркай рэйтынгаў сярод кандыдатаў у прэзідэнты на выбарах 2019-га. Няўжо ў наступным годзе з перамогай Цімашэнкі Украіну чакаюць такія рэвалюцыйныя трансфармацыі? Адзінага меркавання на гэты конт няма. Многія лічаць, што яна проста хацела прыцягнуць да сябе частку моладзі і інтэлектуалаў.

Самае цікавае пытанне — як адрэагуе на блакчэйны электаральная база Юліі, якая засталася на ўзроўні патэрналісцкі арыентаванага выбаршчыка?



### Абу Ахмед

У кіраўніка ўрада Эфіопіі хапіла мужнасці запусціць механізм, прапісаны ў мірнай дамове з Эрытрэяй, што быў падпісаны ў 2000 годзе ў Алжыры.

Дакумент паклаў канец гарачай фазе аднаго з самых доўгіх канфліктаў у сучаснай Афрыцы, які, па сутнасці, цягнуўся з 1961 года, калі эрытрэйскія сепаратысты пачалі вайну з Адыс-Абебай за незалежнасць. Незалежнасць яны атрымалі ў 1993-м, каб праз пяць гадоў зноў пачаць вайну з эфіопамі.

Абедзве краіны належалі да самых бедных у свеце, але ваявалі яны на шырокую нагу. У выніку гэта выклікала эканамічны калапс па абодва бакі фронту, што не дазволіла эфіопам захапіць сталіцу Эрытрэі, да якой заставалася каля 40 кіламетраў. Нягледзячы на дэкляраваны мір, адносіны ў поўным аб'ёме так і не аднавіліся. І вось нечаканая спроба Абу Ахмеда.

Каментуючы ход эфіопскага кіраўніцтва, аглядальнікі лічаць, што Адыс-Абеба фарсіруе мірны працэс, каб падтрымаць і ўмацаваць свой статус рэгіянальнай эканамічнай сталіцы. У апошні час Адыс-Абеба стала цэнтрам размяшчэння буйных заходніх кампаній. Мясцовы аэрапорт лічыцца адным з найбуйнейшых хабаў на Чорным кантыненце. Краіна дэманструе рост па 7 працэнтаў штогод. Відавочна, што ўрэгуляванне адносін з Эрытрэяй, якая да вайны займалася марскім транзітам эфіопскіх тавараў, яшчэ больш умацуе эфіопскую эканоміку.

# Аперацыя «233», ці Як дабівалі «Народную газету»

Аляксандр КУР'ЯНОВІЧ

**Аляксандр Лукашэнка 28 чэрвеня 1996 года падпісаў незвычайны ўказ за нумарам 233. Нарматыўны прававы акт называўся «Аб рэарганізацыі газеты "Народная газета"». Ён прадугледжваў стварэнне на базе рэдакцыі закрытага акцыянернага таварыства. Пры гэтым 70% акцый пераходзіла ва ўласнасць дзяржавы, а астатнія 30% — ва ўласнасць чальцоў працоўнага калектыву.**

В а ўказе было напісана, што новая структура ЗАТ «Народная газета» ажыццяўляе выпуск масавага грамадска-палітычнага і парламенцкага перыядычнага выдання Рэспублікі Беларусь. Такім чынам Лукашэнка вывеў «Народную газету» з-пад юрысдыкцыі Вярхоўнага Савета. Парламент страціў важны і даволі ўплывовы на тыя часы сродак масавай інфармацыі. У той жа дзень беларускі кіраўнік падпісаў указ №235, згодна з якім галоўным рэдактарам (адначасова генеральным дырэктарам ЗАТ) «Народнай газеты» прызначаўся Міхаіл Шыманскі, які раней кіраваў «Белорусской нивой». Каб адказаць на пытанне, чаму так адбылося, трэба зрабіць невялічкі гістарычны экскурс у мінулае.



**Павел Якубовіч, Павел Шарамет, Мікалай Галко.** Фота з асабістага архіву Мікалая Галко

### Сапраўды народная

Гісторыя «Народнай газеты» пачалася 3 ліпеня 1990 года, калі на чарговым пасяджэнні сесіі Вярхоўнага Савета 12 склікання дэпутаты ўзнялі пытанне пра стварэнне парламенцкага перыядычнага выдання. Як і чакалася, меркаванні кардынальна падзяліліся. Калі адны дэпутаты (Сяргей Навумчык: «Беларусь — сябар ААН, а газет менш, чым у Гамбургу») адназначна выступалі за стварэнне газеты, то іншыя (Аляксандр Лукашэнка: «Прибыль нам нужна, товарищи, извините за банальность, не от газеты, а от молока и мяса») — супраць.

Аднак большасць народных дэпутатаў 12 ліпеня 1990 года прагаласавала за стварэнне самастойнай «Народнай газеты». 23 ліпеня 1990 года на пасадзе галоўнага рэдактара «Народнай газеты» быў зацверджаны Іосіф Сярэдзіч, які працаваў намеснікам галоўнага рэдактара «Советской Белоруссии».

Першы нумар «Народнай газеты» выйшаў 2 кастрычніка 1990 года накладам у 253 тысяч асобнікаў. Нумар адкрываўся ўступам галоўнага рэдактара з феерычнай назвай «Жыві, Беларусь!». Сярэдзіч у ім заявіў, што выданне ніколі не стане закладнікам нейкіх карпаратыўных жаданняў.

25 чэрвеня 1991 года Прэзідыум Вярхоўнага Савета зацвердзіў Часовы Статут «Народнай газеты». Асноўнымі мэтамі газеты абвяшчаліся: інфармаванне насельніцтва рэспублікі пра дзейнасць Вярхоўнага Савета, яго Прэзідыума і камісій; забеспячэнне высокага прафесійнага ўзроўню пры падачы публікаваных матэрыялаў; аб'ектыўнае асвятленне фактаў і падзеяў, прадстаўленне старонак газеты для розных меркаванняў.

Ці ўдалося гэта НГ за перыяд рэдактарства Сярэдзіча? З поўным правам на гэтае пытанне можна даць станоўчы адказ. Калі ў 1992 годзе наклад «Народнай газеты» складаў у сярэднім 400 тысяч асобнікаў, то на пачатку 1994 года — 607 тысяч.

І гэта пры тым, што газета фактычна не датавалася з дзяржаўнага бюджэту, сам-насам заставалася з дарагавізнай паперы, адсутнасцю кампутарнай тэхнікі і іншымі праблемамі. Тым не менш, дзякуючы намаганням рэдакцыі, выданне, у тым ліку і за кошт рэкламы, фактычна перайшло на самаакупнасць.

17 сакавіка 1994 года дэпутат Лявонцій Здcraneвіч заявіў, што «Народная газета» ў 1993 годзе не атрымала ад дзяржавы «амаль нічога». Між іншым, па словах Зданевіча, у 1993 годзе на «Советскую Белоруссию» далі 309 мільёнаў рублёў, на «Рэспубліку» — 357 мільёнаў, на «Белорусскую ниву» — 286 мільёнаў.

### Скрозь шыхты

У выдання не маглі не з'явіцца нядобразычліўцы, і нават ворагі (у Вярхоўным Савеце — дэпутаты-ветэраны і камуністы, у Савеце Міністраў — дзяржаўны сакратарыят па барацьбе са злачыннасцю і па нацыянальнай бяспецы на чале з Генадзем Данілавым). 9 лістапада 1993 года пытанне аб справаздачы галоўнага рэдактара Іосіфа Сярэдзіча было ўнесена ў парадак дня. Разгляд яе адбыўся 16–17 красавіка 1994 года і больш нагадваў здзек з галоўнага рэдактара з боку пракамуністычнай парламенцкай большасці. Аднак, дзякуючы рашучай пазіцыі дэмакратычных дэпутатаў, Сярэдзіч застаўся на сваёй пасадзе.

«Народнай газеце» было наканавана фатальнае выпрабаванне. У ліпені 1994 года кіраўніком краіны быў абраны Лукашэнка. Насуперак перадвыбарчым абяцанням, ён пачаў рэальна абмяжоўваць свабоду слова. Газета пачала крытыкаваць і сацыяльна-эканамічную палітыку новай улады.

Роўна праз год пасля парламенцкіх «разборак» з «Народнай газетай», 17 сакавіка 1995 года, прыйшла сумная навіна: паводле ўказа №113 аб асобных парушэннях заканадаўства ў сродках масавай інфармацыі Іосіф Сярэдзіч быў вызвалены з пасады галоўнага рэдактара. З мэтай падвесці юрыдычную базу пад звальненне, ва ўказе ішла гаворка пра канстытуцыйныя захады кіраўніка дзяржавы па забеспячэнні палітычнай стабільнасці, абароне правоў і свабод грамадзян. Такія правы Лукашэнку даваў пункт 1 артыкула 100 тагачаснай рэдакцыі Канстытуцыі (у лістападзе 1995 года ў інтэрв'ю германскаму выданню «Handelsblatt» Лукашэнка прызнаўся, што паводле пункта 1 артыкула 100 можа рабіць усё, што захоча).

Фармальнай прычынай паслужыла публікацыя 10 сакавіка ліста на адрас Лукашэнкі аднаго з чытачоў, што падпісаўся Здзіславам Вальняровічам. Аўтар ліста рэзка выступіў супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму па змене сімволікі, дзяржаўнасці рускай мовы, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і па роспуску Вярхоўнага Савета. Ліст быў расцэнены як заклік «да гвалту і грамадзянскага супрацьстаяння».

Нягледзячы на сыход Сярэдзіча, газета працягвала дзейнічаць на дэмакратычных прынцыпах. Гэтаму спрыяла і тое, што 20 красавіка 1995 года на пасаду галоўнага рэдактара Лукашэнкам быў прызначаны Мікалай Галко. Апошні, аднак, не збіраўся прагінацца пад выканаўчую ўладу: газета публікавала ў тым ліку і крытычныя матэрыялы. З абраннем Вярхоўнага Савета 13 склікання газета адчула сябе больш упэўненай, зрабіла даволі смелыя крокі, распачаўшы публікацыі інтэрв'ю з галоўнымі палітычнымі апанентамі Лукашэнкі.

**Нягледзячы на сыход Сярэдзіча, газета працягвала дзейнічаць на дэмакратычных прынцыпах. Лукашэнка прызначыў галоўным рэдактарам Мікалая Галко, аднак апошні не збіраўся прагінацца пад выканаўчую ўладу**

У першым нумары за 1996 год было змешчана інтэрв'ю з экскіраўніком МУС Юрыем Захаранкам («Александр Григорьевич знал меня как министра, но не знал как человека»), а ў нумары за 13 лютага — з Віктарам Ганчаром («Человек с неистребимым желанием быть лучше всех»).

Цярпенне Лукашэнкі скончылася 18 сакавіка 1996 года. У гэты дзень ён падпісаў указ (№103) аб звальненні Галко «в связи с несоответствием выполняемой работе». Адначасова Лукашэнка падпісаў указ (№104) аб прызначэнні выконваючым абавязкі галоўнага рэдактара Міхаіла Шыманскага. У гэтым указе таксама гаварылася пра тое, каб унесці ў парадак дня першай сесіі Вярхоўнага Савета Беларусі 13 склікання пытанне пра зацвярджэнне Шыманскага ў якасці галоўнага рэдактара.

### За «Народную»!

Аднак парламент не жадаў саступаць кіраўніку дзяржавы. Шыманскі так і не быў зацверджаны ў якасці галоўнага рэдактара. І гэта пры тым, што Лукашэнку, напрыклад, 4 мая 1996 года ўдалося дабіцца ад

Вярхоўнага Савета прызначэння самых важных кандыдатур: Леаніда Мальцава (міністр абароны), Валянціна Агальца (міністр унутраных спраў) ды іншых. Больш за тое, парламент даў згоду на вызваленне ад пасады міністра ўнутраных спраў Юрыя Захаранкі (адстаўка адбылася яшчэ ў кастрычніку 1995 года).

У канцы мая 1996 года адносіны кіраўніка дзяржавы і Вярхоўнага Савета зноў рэзка абвастрыліся. Галоўным чынам гэта было звязана з тым, што большасць дэпутатаў адмовілася разглядаць прапановы прапрэзідэнцкай фракцыі «Згода» аб рэарганізацыі Канстытуцыйнага Суда, які, як вядома, цалкам фарміраваўся парламентам. Кіраўнік «Згоды» Уладзімір Канаплёў назваў Канстытуцыйны Суд «однокрылой птицей» і заклікаў разглядзець такія прапановы (падпісаліся 40 дэпутатаў), паводле якіх палова Канстытуцыйнага Суда фарміравалася б Лукашэнкам.

Апагей супрацьстаяння паміж Лукашэнкам і Вярхоўным Саветам прыйшоўся на 4 чэрвеня 1996 года, калі старшыня парламента Сямён Шарэцкі публічна раскрытыкаваў палітыку Лукашэнкі, назваўшы яго генсекам, а яго адміністрацыю — Палітбюро.

На працягу месяца сітуацыя напружвалася. У СМІ кіраўнік дзяржавы і Вярхоўны Савет абвінавачвалі адзін аднаго ў нежаданні ўзаемна працаваць, нагнятанні палітычнай істэрыі і гэтак далей. Паміж заканадаўчай і выканаўчай уладай вяліся бясконцыя «войны законаў»: Лукашэнка накладваў «вета», Вярхоўны Савет яго скасоўваў, дзвюма трацінамі галасоў пацвярджаючы свае рашэнні.

Дзень «Д» настаў, калі 26 чэрвеня 1996 года дэпутаты ўнеслі змены і дапаўненні ў закон аб друку і іншых сродках масавай інфармацыі: дзяржаўныя тэлебачанне і радыё павінны былі штотыднёва «в удобное время» ажыццяўляць трансляцыю праграм (45 хвілін) аб працы Вярхоўнага Савета, яго пастаянных камісій, дэпутацкіх фракцый.

Акрамя таго, дзяржтэлебачанне і радыё абавязаліся (раз на месяц) даваць дэпутатам магчымасць для выступу або ўдзелу ў тэледэбатах. Працягласць такой перадачы павінна была быць не менш за 30 хвілінаў. Па просьбе дэпутатаў праграма магла ісці ў прамым эфіры без папярэдняга запісу.

Таму Лукашэнка і нанёс 28 чэрвеня моцны контрудар у выглядзе акцыянавання «Народнай газеты». У вочы адразу ж кідаліся тры спасылкі на канстытуцыйныя нормы (частка трэцяя артыкула 33: аб недапушчальнасці манапалізацыі СМІ, артыкул 34: права грамадзян на інфармацыю і вышэйадзначаная частка 1 артыкула 100), што падкрэслівала важнасць указа для кіраўніка дзяржавы і жаданне надаць гэтаму акту як мага больш прававой моцы.

Фармальнай нагодай акцыянавання стаў зварот да Лукашэнкі працоўнага калектыву газеты. У звароце было сказана, што газета ператварылася ў закладніка палітычнай барацьбы розных фракцый і груповак, што яна да сёння не мае пастаяннага статута і гэтак далей.



Фота www.belapan.by

**Фармальнай прычынай адстаўкі Сярэдзіча была публікацыя ліста на адрас Лукашэнкі аднаго з чытачоў, што падпісаўся Здзіславам Вальняровічам. Аўтар рэзка выступіў супраць ініцыяванага Лукашэнкам рэферэндуму па змене сімволікі, дзяржаўнасці рускай мовы, эканамічнай інтэграцыі з Расіяй і па роспуску Вярхоўнага Савета**

Таму адзінае выйсце, сцвярджалася ў дакуменце, — гэта акцыянаванне з доляй дзяржаўнага ўдзелу. Аднак распрацоўшчыкі плана акцыянавання (гэтым пытаннем займаўся намеснік кіраўніка прэзідэнцкай Адміністрацыі Уладзімір Замяталін) сур'ёзна «пракалоліся». У адпаведным нумары «Народнай газеты» апублікаваны ўказ і зварот датаваліся аднолькава — 28 чэрвеня 1996 года, што выглядала камічна.

Праўда, для Вярхоўнага Савета не было нічога смешнага. Ён кінуўся ў бой за сваё выданне. 11 ліпеня 1996 года дэпутат Аляксандр Дабравольскі заклікаў сваіх калегаў не хаваць галаву ў пясок, а вырашыць пытанне з газетай. У гэты ж дзень пытанне «Народнай газеты» было ўнесена ў парадак дня. За гэта прагаласавалі 130 дэпутатаў пры кворуме ў 100 (з зарэгістраваных 166 прагаласавалі 134, устрымаліся 2 і «супраць» — 2).

Па газеце даклад зрабіў сябар сацыял-дэмакратычнай фракцыі «Саюз працы» і намеснік старшыні камісіі (пасаду старшыні займаў нядаўна звольнены дырэктар Інстытута сацыялогіі НАН Беларусі Ігар Катляроў) Вярхоўнага Савета 13 склікання па правах чалавека, нацыянальных пытаннях, сродках масавай інфармацыі, сувязях з грамадскімі і рэлігійнымі аб'яднаннямі Уладзімір Нісцюк. Па яго словах, аніякага агульнага сходу калектыву газеты не было, пра што маюцца пісьмовыя паказанні супрацоўнікаў выдання. Таму, казаў Нісцюк, трэба звярнуцца ў Генпракуратуру, каб яна дала прававую ацэнку ўказу Лукашэнкі. Больш за тое, працягваў Нісцюк, ва ўказе відавочны парушэнні, напрыклад, заканадаўства аб акцыянаванні, бо ў выдання перад Вярхоўным Саветам, як яе заснавальнікам, існуюць пэўныя гаспадарчыя абавязкі.

У сваім выступе дэпутат Віктар Ганчар назваў указ №233 «ничтожным»: «Это тоже самое, если бы президент издал указ об учреждении на базе "Народной газеты" корпункта "Сокол и Жириновский"». Ганчар заклікаў не абмяркоўваць указ, а вырашыць пытанне аб прызначэнні галоўнага рэдактара. Ганчара падтрымалі Аляксандр Бухвостаў, Валерый Новак, Павел Данейка.

Сітуацыя з галоўным рэдактарам сапраўды была дзіўная. Нягледзячы на ўказ №113 ад 17 сакавіка 1995 года, Вярхоўны Савет 12 склікання так і не вызваліў Іосіфа Сярэдзіча з пасады галоўнага рэдактара. Доўгі час не мог вырашыць гэтае пытанне і Вярхоўны Савет 13 склікання. Ігар Катляроў заявіў, што яго камісія некалькі разоў збіралася наконт Сярэдзіча, але без поспеху. Зараз жа дэпутаты вырашылі рассекчы «гордзіеў вузел» — і 11 ліпеня 1996 года прынялі пастанову (134 — «за» са 135 галасаваўшых) аб вызваленні Іосіфа Сярэдзіча з пасады галоўнага рэдактара «Народнай газеты».

Паўстала пытанне пра новага рэдактара. Тут дэпутаты падзяліліся на тры групоўкі. Адна (фракцыя «Згода») настойвала на Шыманскім, пра што заявіў член гэтай фракцыі Юрый Кулакоўскі. Праўда, Кулакоўскі дадаў, што такія вылучэнні — «цирк и ребячество», бо Шыманскі адсутнічае ў залі. Другая («Саюз працы») лічыла, што на пасаду галоўнага рэдактара павінен вярнуцца Мікалай Галко. Пра гэта сказаў дэпутат Пётр Жушма.

Аднак большасць сімпатыяў набраў журналіст і дэпутат Вярхоўнага Савета Леанід Юнчык, якога актыўна лабіявала фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Член фракцыі Вячаслаў Герасіменка заявіў, што дэпутацкі мандат Юнчыка — перавага над астатнімі кандыдатамі, бо ёсць магчымасць уплываць на яго. За Юнчыка выказалася і камісія Катлярова.

У галасаванні па кандыдатурах узялі ўдзел 114 дэпутатаў пры кворуме ў 100. Шыманскі атрымаў 33 галасы, Галко — 44, Юнчык — 99.

Напярэдадні другога тура кандыдаты на пасаду галоўнага рэдактара выступілі перад дэпутатамі. Мікалай Галко колькі слоў распавёў пра тое, як цяжка супрацоўнічаць з існуючай выканаўчай уладай. Асабліва калі ў яе складзе такія людзі, як намеснік кіраўніка адміністрацыі прэзідэнта Уладзімір Замяталін, які ўвасобіў «настойчивость в попирании здравого смысла».

Галко і сам адчуваў, што не будзе зацверджаны. А таму выказаў падтрымку Юнчыку і пагадзіўся пайсці да яго ў намеснікі.

У сваёй прамове Юнчык абмаляваў перспектывы «Народнай газеты»: садзейнічанне дыялогу ўсіх галін улады, «мощный рупор» Вярхоўнага Савета, прарыў інфармацыйнай блакады вакол парламента, «отстаивание и культивирование идей парламентаризма» і гэтак далей. Газета, лічыў ён, павінна стаць бліжэй і да парламентарыяў. Кандыдат прапанаваў прыняць такое рашэнне: дэпутацкія артыкулы да 5 старонак стандартнага тэксту павінны друкавацца на працягу двух тыдняў.

Станоўча адказаў Юнчык (дарэчы, адзін з першых з расійскім пісьменнікам Львом Корсунскім лаўрэатаў прэміі імя Дзмітрыя Холадава) на некаторыя пытанні дэпутатаў. Генадзь Усюкевіч: «Вы смелый человек? Будете ли вы служить Верховному Совету?». Станіслаў Шушкевіч: «Ці хопіць у вас дзяржаўнай мужнасці служыць беларускай дзяржаўнасці, беларускай Канстытуцыі, беларускаму Вярхоўнаму Савету і яголым дэпутатам?».

У выніку за Юнчыка аддалі свой голас 122 народныя абраннікі. Выказаліся супраць — 6, а 2 дэпутаты ўстрымаліся (усяго галасавалі 130).

### Канстытуцыйны суд і слова Пласкавіцкага

У сувязі з прызначэннем Юнчыка па СМІ наконт «Народнай» пайшоў такі жарт: адна газета — два рэдактары. Аднак прэзідэнцкая ўлада ні ў якім разе не жадала саступаць свае пазіцыі. Усе спробы Карпенкі і Юнчыка выдаліць Шыманскага з рэдакцыі былі беспаспяховымі. Справа дайшла да таго, што ў канцы верасня 1996 года да будынка рэдакцыі прыставілі міліцэйскую ахову і забаранілі пускаць туды Юнчыка.

Пазней у якасці помсты газета Шыманскага 6 кастрычніка 1996 года апублікавала злосны (аўтар хаваўся пад псеўданімам) пасквіль на Карпенку, што прывяло да доўгага судовага разбіральніцтва і асабістага канфлікту ў 1998 годзе на прыёме ў літоўскай амбасадзе, калі Шыманскі атрымаў ад Карпенкі па пысе.

Пэўныя надзеі былі на Канстытуцыйны Суд, які 17 кастрычніка 1996 года даў прававую ацэнку ўказу №233 (са зменамі і дапаўненнямі паводле ўказа №424 ад 14 кастрычніка 1996 года: газета ператваралася ў адкрытае акцыянернае таварыства; кантрольны пакет акцый, які належаў дзяржаве, складаў 51%, а працоўнаму калектыву — 49%).

Прапанову разгледзець указ №233 на адпаведнасць Канстытуцыі ўнёс Сямён Шарэцкі. Пасяджэнне Канстытуцыйнага Суда адбылося з удзелам усіх яго суддзяў. Вярхоўны Савет прадстаўлялі дэпутат Аляксандр Дабравольскі і сакратар пастаяннай камісіі Вярхоўнага Савета па заканадаўстве Валерый Новак. Прэзідэнцкі бок прадстаўлялі «жалезны Міша» — 40-гадовы начальнік Галоўнага ўпраўлення грамадска-палітычнай інфармацыі Адміністрацыі прэзідэнта Міхаіл Падгайны і «легендарны» юрыст, намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення прававога забеспячэння Адміністрацыі прэзідэнта Аляксандр Пласкавіцкі.

Цікавыя нюансы судовага пасяджэння распавёў журналіст газеты «Свабода» Вадзім Казначэеў у артыкуле «Юрыст, якога свет не бачыў». У цэнтры артыкула апынуўся менавіта Пласкавіцкі як галоўны распрацоўшчык указа. Пласкавіцкі, паводле Казначэева, заявіў ажно 7 хадайніцтваў, каб перанесці справу на няпэўны тэрмін. Адно з абсурдных хадайніцтваў тычылася таго, што старшыня Вярхоўнага Савета Сямён Шарэцкі нібыта быў абраны з парушэннем працэдуры, а таму не мае права ініцыяваць справу. Аднак усе хадайніцтвы былі адхіленыя.

У артыкуле прыводзіліся «цікавыя» развагі Пласкавіцкага наконт таго, што краіне патрэбна моцная «дзяржаўная сіла» і «дзяржаўнае рэгуляванне», і што Лукашэнка можа загадаць сходу акцыянераў абраць таго ці іншага дырэктара. «Думкі» Пласкавіцкага аб манапалізацыі і дэманапалізацыі СМІ, прыведзеныя ў артыкуле, увогуле не паддаваліся аніякім лагічным абгрунтаванням.

Канстытуцыйны Суд у рашэнні №3-42/96 ад 17 кастрычніка 1996 года вызнаў, што ўказ №233 (са зменамі і дапаўненнямі ад 14 кастрычніка 1996 года) не адпавядае Канстытуцыі, бо кіраўнік дзяржавы яўна парушыў кампетэнцыю заканадаўчай улады (выканаўчая ўлада не з'яўлялася заснавальнікам газеты, але ва ўказе вызначала статус парламенцкага выдання). Суд звярнуў увагу і на іншыя аспекты. Напрыклад, указ уводзіўся ў дзеянне з дня падпісання, а не апублікавання, што супярэчыла ўказу №252 ад 3 снежня 1994 года аб парадку апублікавання і ўступлення ў сілу ўказаў і распараджэнняў прэзідэнта. Канстытуцыйны Суд звярнуў увагу на неправамернасць рэгістрацыі 5 ліпеня 1996 года Дзяржкамітэтам па друку ЗАТ «Народная газета», бо яно фактычна не было створана.

Цікава, што рашэнне падтрымалі ўсе суддзі («без особого мнения») Канстытуцыйнага Суда, нягледзячы на тое, што паміж імі ў сувязі з набліжэннем рэферэндуму 24 лістапада 1996 года ўсё мацней назіраўся відавочны падзел і яўны дрэйф некаторых суддзяў (Рыгор Васілевіч, Рыма Філіпчык, Валянціна Падгруша) у бок Лукашэнкі.

У сувязі з рэферэндумам 24 лістапада 1996 года, ліквідацыяй Вярхоўнага Савета, увядзеннем новага парламента пытанне пра «Народную газету» адпала. Няцяжка было здагадацца, на каго будзе працаваць і новы парламент, і яго выданне.

# Беларусь — калыска Нобелеўскіх лаўрэатаў і прэзідэнтаў



**Па гарызанталі:** 1. Бяздымны ... і дынаміт. Рэчы, якія вынайшаў шведскі хімік-эксперыментатар Альфрэд Нобель; яго прэміямі штогод узнагароджваюцца выдатныя вучоныя, літаратары, палітыкі свету. 7. ... -Крукоўская. Дзявочае прозвішча першай у свеце жанчыны-прафесара Соф'і Кавалеўскай, бацькі якой паходзілі са старажытнага шляхецкага беларускага роду. 8. Горад на Гродзеншчыне, малая радзіма бацькоў Аарона Клуга, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па хіміі (1982 г.). 9. «... second-hand (Канец чырвонага чалавека)». Кніга беларускай пісьменніцы, журналісткі Святланы Алексіевіч, лаўрэаткі Нобелеўскай прэміі па літаратуры (2015 г.). 10. Тое, што і пісьмо. 11. Аўтар паэтычных твораў; ім быў трэці прэзідэнт Ізраіля Залман Шазар, які нарадзіўся ў горадзе Мір, што на Гродзеншчыне. 12. Вузкі трохвугольны сцяжок. 13. Сучасная мадыфікацыя старажытнаяўрэйскай мовы, якую распрацаваў Эліэзэр Бен-Іегуда, ураджэнец вёскі Лужкі, што на Віцебшчыне. 14. Вёска на Лагойшчыне, радзіма маці расійскага лаўрэата Нобелеўскай прэміі па фізіцы (2000 г.) Жарэса Алфёрава; яго бацька — ураджэнец Чашнікаў. 18. Шыйнае ўпрыгожанне з каштоўных камянёў. 19. Буйны горад на Брэстчыне, радзіма Саймана Кузнеца, вучонага-эканаміста, лаўрэата Нобелеўскай прэміі (1971 г.); у гэтым горадзе прайшлі дзіцячыя гады Голды Меір, былога прэм'ер-міністра Ізраіля. 20. У ліпені ... радуецца (прыказка). 21. ... Кобец. Імя беларускага драматурга, празаіка, сцэнарыста, які зведаў пакуты сталінскіх лагераў; 24 ліпеня — 120 гадоў з дня яго нараджэння. 23. Колькасць чальцоў сходу, дастатковая для прызнання сходу правамоцным. 24. Дах у форме паўшар'я. 26. «З Купалы на Йвана\\ Прыйдуць дзеўкі ... рваць,\\ Будуць нас успамінаць». З купальскай песні. 29. Вельмі дасведчаны чалавек. 30. ...Вейцман. Імя вучонага-хіміка, першага прэзідэнта Ізраіля, які нарадзіўся ў вёсцы Моталь, што ў Іванаўскім раёне. 31. Прадукты харчавання. 32. Чалавек, які працуе ноччу (размоўнае). 33. Сінтэтычны .... Эластычнае рэчыва для вырабу гумы; Альфрэд Нобель праводзіў эксперыменты па яго атрыманні. 34. Камплект друкарскіх літар.

**Па вертыкалі:** 2. Множыльны апарат для друкавання копій, чарцяжоў, малюнкаў. 3. Званне, якое прысвойваецца буйнейшым вучоным, мастакам і іншым. 4. Буйны беларускі горад, малая радзіма бацькоў Рычарда Фейнмана, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па фізіцы (1965 г.), аднаго са стваральнікаў амерыканскай атамнай бомбы. 5. Абломкі разбітага посуду. 6. Горад на Магілёўшчыне, малая радзіма бацькоў Шэлдана Лі Глэшоў, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па фізіцы (1979 г.). 12. Буйны горад на рацэ Заходняя Дзвіна, дзе нарадзіліся бацькі Алана Хігера, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па фізіцы (2000 г.). 15. Раман вядомага польскага пісьменніка Генрыка Сянкевіча, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па літаратуры (1905 г.); лепшыя свае творы пісьменнік напісаў, жывучы на Астравеччыне. 16. Шымон .... Прозвішча дзявятага прэзідэнта Ізраіля, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міра (1994 г.), ураджэнца вёскі Вішнева, што на Валожыншчыне. 17. Дапамога, падтрымка (пераноснае). 20. Парламент Нарвегіі, які выбірае камітэт па прысуджэнні Нобелеўскіх прэмій. 22. Брус для надання ўстойлівасці часткам збудаванняў. 25. Горад на Брэстчыне, малая радзіма бацькоў Марціна Перла, лаўрэата Нобелеўскай прэміі па фізіцы (1995 г.). 27. Менахем .... Прозвішча былога прэм'ер-міністра Ізраіля, лаўрэата Нобелеўскай прэміі міра (1978 г.), ураджэнца Брэста. 28. Астравы ў Ціхім акіяне, дзе ў пачатку XX стагоддзя прэзідэнтам быў Мікалай Судзілоўскі, філосаф, доктар, падарожнік-географ, ураджэнец Магілёва.

**Склаў Лявон Целеш, г. Дзяржынск**

**Адказы на крыжаванку «Носьбіт высокага духу» (НЧ, №21 ад 8 чэрвеня):**

**Па гарызанталі:** 1. Нясвіж. 4. «Дзяды». 7. Воля. 9. Ліра. 10. Карнішон. 12. Код. 13. Скат. 15. Рэйка. 17. Комік. 18. Драч. 20. «Ася». 21. Яўстафій. 24. Пано. 26. Абай. 27. Скарб. 28. Астана.

**Па вертыкалі:** 1. Нуль. 2. Сыракомля. 3. Іл. 5. Зан. 6. Душ. 8. Ягдташ. 11. Народ. 12. Койданава. 14. Тэкля. 16. Актава. 19. Мова. 22. Сак. 23. Акр. 25. Ас.



Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by
Падпісны індэкс 63279

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №315

Падпісана да друку 29.06.2018. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 6 друк. аркушаў. Кошт свабодны.